УДК 59(038)
ББК 28.6Я2
Ж 83

Складальнікі:
В. Дз. Астрэйка, Ф. Д. Клімчук, А. А. Крывіцкі, Л. П. Кунцэвіч,
В. М. Курцова, Т. М. Трухан, А. І. Шаблоўскі

Навуковыя рэдактары:
Л. П. Кунцэвіч, А. А. Крывіцкі

Тэхнічная падрыхтоўка рукапісу
Н. В. Драбудзька

Рэцэнзенты:
канд. філал. навук І. І. Лучыц-Федарэц,
докт. філал. навук В. Дз. Старычонак

**Жывёльны свет**: Тэматычны слоўнік / Склад.
Ж 83 В. Дз. Астрэйка і інш.; Рэд. Л. П. Кунцэвіч, А. А. Крывіцкі. — Мн.: Беларуская навука, 1999. — 239 с.
ISBN 985-08-0185-9.

Слоўнік уключае выбраныя з розных крыніц рэгіянальныя беларускія народныя назвы розных жывёл, птушак, рыб, насякомых і іншых істот і лексіку, звязаную з іх характарыстыкай і жыццядзейнасцю.

**УДК 59(038)**
**ББК 28.6Я2**

ISBN 985-08-0185-9

# ПРАДМОВА

За пасляваенныя гады наша мовазнаўства вызначылася значнымі і, несумненна, надзвычай каштоўнымі зборамі лексікі і фразеалогіі мясцовых беларускіх гаворак. Гэта вынік сумесных намаганняў мовазнаўцаў і аматараў роднага слова. Добра ведаюць мовазнаўцы і філолагі так званыя дыялектныя слоўнікі. Паклаў пачатак ім сваімі трыма слоўнікамі Ф. М. Янкоўскі. Больш за дзесяць такіх лексікаграфічна ўпарадкаваных асобных збораў слоў сваёй роднай гаворкі на Мсціслаўшчыне належыць Г. Ф. Юрчанку. Каштоўнымі набыткамі беларускай рэгіянальнай лексікаграфіі з'яўляюцца таксама слоўнікі П. У. Сцяцко, Т. Ф. Сцяшковіч, А. П. Цыхуна, Л. Ф. Шаталавай, Т. С. Янковай, Р. М. Яўсеева.

На аснове ўласных збіральніцкіх заняткаў былі створаны значныя лексікаграфічна ўпарадкаваныя і апрацаваныя зборы пашыранай у мясцовым маўленні традыцыйнай фразеалогіі (Е. С. Мяцельская і Я. М. Камароўскі, Г. Ф. Юрчанка). Публікаваліся невялікія падборкі такой лексікі ў перыядычным друку краіны (М. М. Аляхновіч, В. В. Шур, Г. Ф. Юрчанка і інш.).

Кафедрамі беларускай мовы вышэйшых педагагічных навучальных устаноў Беларусі ў свой час была падтрымана ініцыятыва Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа аб збіранні мясцовай лексікі і фразеалогіі для стварэння дыялектных слоўнікаў спецыфічнай лексікі розных рэгіёнаў Беларусі. Выйшлі ў свет упарадкаваныя зборы лексічных матэрыялаў, сабраных на Гродзеншчыне (Т. Ф. Сцяшковіч), Міншчыне (навуковы рэдактар М. А. Жыдовіч; новае, дапоўненае, але не завершанае выданне — навуковы рэдактар Е. С. Мяцельская), Брэстчыне (Г. М. Мала-

жай, Ф. Д. Клімчук), Гомельшчыне (Ул. В. Анічэнка) і Магілёўшчыне (М. В. Абабурка і інш. ). У Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа былі створаны два найбольш буйныя слоўнікі рэгіянальнай лексікі — "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парганічча" і "Тураўскі слоўнік". Калі першы адлюстроўвае асноўны напрамак эвалюцыі беларускіх гаворак у галіне слоўніка на пачатку нацыянальнага моўнага станаўлення беларускага народа, дык апошні дае ўяўленне аб стане слоўніка беларускіх гаворак, якія не былі ўцягнуты тады ў гэты працэс.

У Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа была падтрымана і працягнута ініцыятыва Ф. М. Янкоўскага (Матэрыялы для слоўніка, 1960) па ўкладанню зборнікаў адметных мясцовых слоў і іх тэматычных падборак. Падрыхтавана і выпушчана ў свет шэсць такіх зборнікаў. Да дыялектных лексікаграфічных здабыткаў можна аднесці і зборнік матэрыялаў для палескага дыялектнага слоўніка, сабраных удзельнікамі палескіх экспедыцый пад кіраўніцтвам М. І. Талстога.

Пасляваенныя дзесяцігоддзі характарызуюцца не толькі здабыткамі па выяўленню і лексікаграфічнай распрацоўцы лексікі мясцовых гаворак краіны, але і вельмі істотнымі вынікамі па ўстанаўленню ўзаемных адносін паміж гаворкамі. Гэтаму прысвечана значная колькасць лінгвістычных карт у "Дыялекталагічным атласе беларускай мовы" (1963), яшчэ больш значныя матэрыялы сабраны для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа (аддзел дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа). Але самым буйным дасягненнем у адлюстраванні "геаграфіі слоў" мясцовых гаворак (ці, дакладней, мясцовага маўлення) з'яўляецца "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" у пяці тамах (1993—1998).

Зразумела, што слоўнікі рэгіянальнай лексікі і больш сціплыя падборкі слоў падпарадкаваны галоўным чынам задачы фіксацыі слоў у іх структурным абліччы і семантычным дыяпазоне. Лінгвагеаграфічным спосабам выяўляецца пашырэнне слоў і іх структурных і семантычных варыянтаў. У адным і другім выпадку разам з фіксацыяй слова пры яго рэгістрацыі фіксуецца мясцовы тып найменне (слова, выраз) у яго пэўным структурным і семантычным абліччы. Працы па рэгіянальнай лексікаграфіі — гэта, найперш, пэўныя зборы слоў. А лінгвагеаграфічныя працы, у прыватнасці лінгвістычныя карты, іх комплек-

сы, нарэшце, лінгвістычныя атласы — гэта перш за ўсё працы аб пашырэнні слоў і аб іх узаемных адносінах у межах пэўнай моўнай (дыялектнай) прасторы. І тым самым лексікаграфічныя і лінгвагеаграфічныя працы, раскрываючы адзін і той жа аб'ект – слоўнік мясцовых гаворак мовы, — узаемна дапаўняюцца. Яны ўтвараюць як бы цэласны комплекс, цесна звязанае адзінства.

Не абыходзілі зусім лексіку мясцовых гаворак, у прыватнасці назвы жывёл, раслін, з'яў прыроды ды і грамадскіх з'яў, даследчыкі розных прыродазнаўчых і грамадазнаўчых галін навукі – заолагі, батанікі, этнографы і інш. У некаторых артыкулах, кнігах, даведніках, навукова-папулярнай літаратуры і адпаведнай перыёдыцы адводзіцца тая ці іншая ўвага і так званым мясцовым назвам. Цікавыя, хоць, праўда, і не заўсёды "лакалізаваныя" рэгіянальныя назвы жывёл, раслін, а таксама навуковыя звесткі пра іх прыводзяцца ў "Энцыклапедыі прыроды Беларусі" ў пяці тамах (1983—1986), у навуковых і навукова-папулярных даведніках пра жывёл, птушак, паўзуноў, рыб, насякомых, пра раслінны свет, грыбы і інш.

Нарэшце, у пасляваеннай беларускай дыялектнай лексікаграфіі маецца досыць багатая спадчына. Гэта, найперш, славуты "Слоўнік беларускай мовы" І. І. Насовіча (1870), перадрукаваны ў 1983 г. Слоўнікавыя багацці мясцовых гаворак паўночна-заходняга дыялекту беларускай мовы (у яе этнагістарычных межах) у значнай ступені адлюстраваў вядомы "Смоленский областной словарь" У. В. Дабравольскага (1914). Такой спадчынай з'яўляюцца таксама матэрыялы для слоўніка мясцовых гаворак, якія змяшчаліся пры зборах фальклору, пры этнаграфічных працах і ў саміх іх напасрэдна і якія адносяцца да XIX і пачатку XX ст. Праўда, гэтыя лексічныя матэрыялы застаюцца яшчэ неапрацаванымі і неўпарадкаванымі лексікаграфічна, а таму і маладаступнымі для навуковага выкарыстання.

Вялікая збіральніцкая праца была разгорнута ў другой палове 20-х гадоў гэтага стагоддзя па навуковай праграме Інстытута беларускай культуры (С. Некрашэвіч, 1925). Многае з таго, што было тады сабрана і нават лексікаграфічна апрацавана і ўпарадкавана, па вядомых прычынах было дыскрэдытавана і страчана (у прыватнасці, агульная картатэка беларускай мовы, рэгіянальныя зборы мясцовых слоў і іх лексікаграфічныя апрацоўкі). Але тады ўжо выйшлі ў свет два цікавыя краёвыя слоўнікі (паводле адпаведнага тагачаснага адміністрацыйнага дзялення ўсход-

няй часткі Беларусі). Гэта слоўнік лексікі з гаворак Віцебскага краю (М. І. Каспяровіч, 1927) і слоўнік, складзены на аснове адной тыповай гаворкі Чэрвенскай акругі (М. В. Шатэрнік, 1929).

Яшчэ тры падобныя зборы лексікі былі выдадзены ў пасляваенныя гады. Гэта вельмі грунтоўны краёвы слоўнік гаворак Калінінскай акругі, у якую ўваходзілі раёны ўсходняй часткі Магілёўшчыны (І. К. Бялькевіч, 1970), багаты слоўнік гаворак заходніх раёнаў Браншчыны (П. А. Растаргуеў, 1973) і выдадзены ў Нью-Йорку незвычайна насычаны размоўнай і прастамоўнай лексікай краёвы слоўнік гаворак Лагойшчыны (А. Варлыга, 1970). Значны лексіка-фразеалагічны матэрыял рэгіянальнага характару, выбраны з розных крыніц і мясцовых гаворак пераважна паўночнага захаду Беларусі, змяшчае буйны беларуска-рускі слоўнік, выдадзены таксама ў Нью-Йорку (Я. Станкевіч, 1990).

Актуальнай задачай сучаснай дыялектнай лексікаграфіі з'яўляецца абагульненне назапашаных звестак і матэрыялаў па лексіцы беларускіх гаворак і стварэнне зводнага слоўніка-даведніка. Ён неабходны пры распрацоўцы этымалогіі лексікі беларускай мовы, фарміраванні слоўніка ў цэлым і інш. Зусім відавочнай з'яўляецца неабходнасць поўнага слоўніка як для развіцця, так і для нарматыўнага ўпарадкавання слоўнікавага складу літаратурнай мовы.

Такі алфавітны каталог лексікі з тлумачэннем значэння слоў, ілюстрацыямі, граматычнымі і іншымі адзнакамі неабходны як даведнік аб слове. Але не менш важнай практычнай задачай дыялектнай лексікаграфіі з'яўляецца і стварэнне даведнікаў аб мясцовых рэгіянальных словах для абазначэння пэўнага моўнага паняцця або ўяўлення. Таму што пры даследаванні прадметна-тэматычных фрагментаў слоўніка гаворак ды і паасобных яго лексіка-семантычных структур, а таксама пры распрацоўцы тэрміналогіі і наогул пры карыстанні рэгіянальнай лексікай у маўленні галоўным практычным клопатам з'яўляюцца пошукі адпаведнага слова або слоў. У лексікаграфіі літаратурнай мовы гэта забяспечваюць у нейкай ступені тэрміналагічныя слоўнікі, слоўнікі сінонімаў і інш. Пажаданымі і актуальнымі з'яўляюцца, безумоўна, спробы належнага рацыянальнага вырашэння адпаведнай практычнай задачы ў дыялектнай лексікаграфіі.

Таму ў сувязі з актуальнымі практычнымі патрэбамі сучаснага развіцця і ўдасканалення беларускай літаратур-

най мовы і надзённымі патрэбамі беларускай лексікалогіі ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі распачата праца па стварэнню звода сабранай лексікі мясцовых беларускіх гаворак, яе лексікаграфічнай распрацоўкі і ўкладання.

Гэты першы тэматычны слоўнік беларускіх гаворак змяшчае лексіку, якая мае адносіны да паняццяў і ўяўленняў, звязаных з жывёльным светам. Слоўнік складаецца з дзвюх частак. У першай прыводзяцца мясцовыя назвы прадстаўнікоў жывёльнага свету, у другой — агульныя назвы некаторых прадстаўнікоў жывёльнага свету і лексіка іх характарыстыкі.

Лексічны матэрыял у абедзвюх частках падаецца па тэмах. Пры такой падачы можна не толькі атрымаць уяўленне аб складзе і характары лексікі па пэўнай прадметна-тэматычнай групе ў цэлым, але і даведацца аб мясцовых назвах таго ці іншага паасобнага паняцця. У аснову тэматычнай класіфікацыі лексікі ў першай частцы пакладзены пашыраны народны традыцыйны падзел прадстаўнікоў жывёльнага свету на групы.

Тэматычны падзел лексікі ў другой частцы не з'яўляецца яе адпаведнай класіфікацыяй. Гэта толькі выбаркі слоў па названых тэмах. Ды і нейкіх сістэматызаваных паняццяў і ўяўленняў у гэтай сферы народнага ўсведамлення рэчаіснасці, вядома, не існуе.

Мясцовыя словы (а іншы раз і спалучэнні слоў) падаюцца ў тэматычных падборках анамасіялагічнымі комплексамі, якія ўтвараюць слоўнікавыя артыкулы. Кожны асобны слоўнікавы артыкул складаецца з мясцовых слоў, якія з'яўляюцца тоеснымі па пэўнаму значэнню ў сферы традыцыйных народных паняццяў і ўяўленняў аб жывёльным свеце. Загалоўным словам у артыкуле выступае адпаведнае па значэнню слова літаратурнай мовы. У асобных выпадках пры адсутнасці такога літаратурнага слова ў якасці загалоўнага выкарыстоўваецца найбольш пашыранае ў мясцовым ужыванні рэгіянальнае слова. Слоўнікавыя артыкулы ў тэматычных падборках размешчаны паводле загалоўных слоў у алфавітным парадку.

Словы ўпарадкаваны ў артыкулах пераважна з улікам іх пашырэння ў мясцовых гаворках, але адначасова і з улікам іх словаўтваральнай сувязі па кораню. Аднак у многіх слоўнікавых артыкулах мае месца пры неабходнасці дадатковая анамасіялагічная групоўка або вылучэнне слоў у залежнасці ад іх адрозненняў па значэнню. Такія анамасіялагічныя групы лексікі ў слоўнікавых ар-

тыкулах падаюцца з чырвонага радка з дадатковым тлумачэннем іх адметнасці. Больш дробныя адметныя па значэнню групы (і паасобныя словы) суправаджаюцца таксама неабходнымі тлумачэннямі.

У сувязі з тым, што слоўнік як даведнік мае шырокае прызначэнне, мясцовыя словы падаюцца ва уніфікаваным абагульненым выглядзе ў літаратурным беларускім вымаўленні і ў арфаграфічным запісе. Але так званыя нерэгулярныя індывідуальныя і непаслядоўныя фанетычныя асаблівасці мясцовых слоў захоўваюцца.

Мясцовыя словы ў слоўнікавым артыкуле маюць скарочанае абазначэнне прыналежнасці да часціны мовы, паметы аб іх пашырэнні ў мясцовых гаворках і ўказанне на слоўнікавую або іншую крыніцу іх рэгістрацыі. Паметы аб пашырэнні з'яўляюцца абагульненымі, арыентацыйнымі, а ў асобных выпадках — яшчэ і ў пэўнай ступені меркавальнымі. Скарочанае абазначэнне крыніцы фіксацыі мясцовага слова не мае ўказання на старонку, таму што пераважная большасць крыніц — алфавітныя слоўнікі ці зборнікі лексікаграфічных прац са зводным алфавітным індэксам зафіксаваных мясцовых слоў.

Слоўнік мае ў канцы алфавітны індэкс змешчаных мясцовых слоў. Пры кожным слове ў ім адзначана старонка, на якой яно сустракаецца ў тэматычнай частцы слоўніка.

*А. А. КРЫВІЦКІ, Л. П. КУНЦЭВІЧ*

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## НАЗВЫ ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ

| | |
|---|---|
| АЛА — | Агульнаславянскі лінгвістычны атлас. Архіў матэрыялаў па населеных пунктах Беларусі сеткі атласа. Захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. |
| Бялькевіч — | Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970. |
| Варлыга — | Варлыга А. Краёвы слоўнік Лагойшчыны. Нью-Йорк, 1970. |
| Гарэцкі — | Гарэцкі М. і Ягораў А. Народныя песьні з мэлёдыямі. Мн., 1928. |
| ДАБМ— | Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963. |
| Дабравольскі — | Добровольский В. Н. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914. |
| ДСБ — | Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мн., 1989. |
| ЖНС — | Жывое народнае слова. Мн., 1952. |
| ЖС — | Жывое слова. Мн., 1978. |
| Жукаў — | Жуков П. И. Рыбы Белоруссии. Мн., 1965. |
| З нар. сл. — | З народнага слоўніка. Мн., 1975. |
| Каспяровіч — | Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік. Мн., 1927. |
| ЛАБНГ — | Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. Т. 1. Раслінны і жывёльны свет. Мн., 1993. |
| ЛП — | Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. Мн., 1968. |
| ЛЛБ — | Лексічныя ландшафты Беларусі: Жывёльны свет. Мн., 1995. |
| Мат. апыт. — | Матэрыялы, сабраныя ў час спецыяльных экспедыцыйных выездаў, у выніку апытанняў прадстаўнікоў гаворак і інш. |
| Мат. Гродз. — | Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972. |
| Мат. Гом. — | Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства. Вып. 3— 10. Мн., 1975—1982. |
| Мат. Маг.— | Матэрыялы для абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Мн., 1981. |
| Мат. дыял. сл. — | Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Мн., 1960. |
| Мат. мін.-мал. — | Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Вып. 1 – 3. Мн., 1970 – 1977. |

| | |
|---|---|
| Насовіч — | Насовіч I. I. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. |
| НЛ — | Народная лексіка. Мн., 1977. |
| НС — | Народнае слова. Мн., 1976. |
| НЛГ — | Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік. Мн., 1983. |
| Н. сл-сць — | Народная словатворчасць. Мн., 1979. |
| Палессе — | Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968. |
| ПБ — | Федюшин А. В., Долбик М. С. Птицы Белоруссии. Мн., 1967. |
| Растаргуеў — | Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мн., 1973. |
| РБ — | Жуков П. И. Рыбы Белоруссии. Мн., 1950. |
| Сл. Гродз. — | Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мн., 1983. |
| СПЗБ | Слоўнік гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. Мн., 1979 — 1986. |
| Станкевіч — | Станкевіч Я. Белорусско-русский (Великолитовско-русский) словарь. Нью-Йорк, 1990. |
| СЦБ — | Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: У 2 т. Т. 1. Мн., 1990. |
| Сцяцко — | Сцяцко П. У. Дыялектны слоўнік: (З гаворак Зэльвеншчыны). Мн., 1970; Ён жа. Народная лексіка. Мн., 1970. |
| Сцяшковіч — | Сцяшковіч Т. Ф. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Гродна, 1959. |
| Тарнацкі — | Tarnacki J. Studia porównawcsa nad geografią wyrazów (Polesie—Mazowsce). Warszawa, 1939. |
| ТС — | Тураўскі слоўнік: У 5 т. Мн., 1982 — 1987. |
| Усачова — | Усачева В. Д. Материалы для словаря славянских названий рыб // Этимология. 1971; 1973; 1974; 1976; 1978. М., 1973; 1974;1976; 1978; 1980. |
| Федароўскі — | Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T. 7. Warszawa, 1969. |
| Цыхун — | Цыхун А. П. Скарбы народнай мовы. Гродна, 1994. |
| Шаталава — | Шаталава Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова. Мн., 1975. |
| Шатэрнік — | Шатэрнік М. В. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. Мн., 1929. |
| ЭПБ — | Энцыклапедыя прыроды Беларусі: У 5 т. Мн., 1983 — 1986. |
| ЭСБМ — | Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Т. 1—8. Мн., 1978 — 1993. |
| Юрчанка — | Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік: (З гаворак Мсціслаўшчыны). Мн., 1966; Ён жа. Народная сінаніміка. Мн., 1969; Ён жа. Народнае вытворнае слова: З гаворак Мсціслаўшчыны. Вып. 1 — 3. Мн., 1981 — 1985; Ён жа. Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік. Мн., 1968. Ён жа. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік: А — Н. Мн., 1993. |

| | |
|---|---|
| Янкова — | Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мн., 1982. |
| Янкоўскі — | Янкоўскі Ф. М. Дыялектны слоўнік. Вып. 1—3. Мн., 1959—1970. |
| Яўсееў — | Яўсееў Р. М. Маці казала так... З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мн., 1978. |

## НАЗВЫ ДЫЯЛЕКТНЫХ ГРУП ГАВОРАК

| | |
|---|---|
| агульн. — | агульнавядомае |
| асн.мас. г. — | асноўны масіў гаворак |
| зах.-пал. г. — | заходнепалескія гаворкі |
| паўдн.-зах. д.— | паўднёва-заходні дыялект |
| гродз.-бар. г. — | гродзенска-баранавіцкая група гаворак |
| сл.-маз. г. — | слуцка-мазырская група гаворак |
| паўн.-усх. д. — | паўночна-ўсходні дыялект |
| віц.-маг. г. — | віцебска-магілёўская група гаворак |
| пол.-мін. г. — | полацка-мінская група гаворак |
| сярэд.-бел. г.— | сярэднебеларуская група гаворак |

## АСНОЎНЫЯ ДЫЯЛЕКТНЫЯ ЗОНЫ

| | |
|---|---|
| цэнтр. з. — | цэнтральная зона |
| паўн.-зах. з. | паўночна-заходняя зона |
| паўдн.-усх. з. — | паўднёва-ўсходняя зона |
| зах. з. — | заходняя зона |
| усх. з. — | усходняя зона |

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ РЭГІЁНЫ

| | |
|---|---|
| Беластоц. р. — | Беласточчына (Польшча) |
| Бярэз. р — | у наваколлі р. Беразіны |
| Вілен. р. — | Віленшчына |
| Віц. р. — | у наваколлі Віцебска |
| Гом. р. — | у наваколлі Гомеля |
| Гродз. р. — | у наваколлі Гродна |
| зах.-бран. р. — | заходняя Браншчына (Расія) |
| Латгал. р. — | Латгальскі рэгіён |
| Маг. р. — | Магілёўскі рэгіён |
| Мін. р. — | Мінскі рэгіён |
| пал. р. — | палескі рэгіён |
| Панядм. р. — | Панямонне |
| паўдн. р. — | паўднёвы рэгіён |
| паўн. р. — | паўночны рэгіён |

Слуц. р. — Слуцкі рэгіён
Смален. р. — Смаленскі рэгіён
усх.-маг. р. — усходнемагілёўскі рэгіён
усх.-пал. р. — усходнепалескі рэгіён
Чэрв. р. — Чэрвенскі рэгіён

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

адзінк. — адзінкавае
адм. — адмоўнае
дзіц. — дзіцячае
ж. — жаночы род
зак. — закончанае трыванне
зборн. — зборнае
ласк. — ласкальнае
м. — мужчынскі род
метаф. — метафарычнае
мн. — множны лік
мясц. — мясцовае
н. — ніякі род
незак. — незакончанае трыванне
павеліч. — павелічальнае
павел.-адм. — павелічальна-адмоўнае
пагард. — пагардлівае
памянш. — памяншальнае
памянш.-ласк. — памяншальна-ласкальнае
пашыр. — пашыранае
фалькл. — фальклорнае
экспр. — экспрэсіўнае

## НАЗВЫ РАЁНАЎ

Акц.—Акцябрскі
Арш. — Аршанскі
Асіп. — Асіповіцкі
Астр. — Астравецкі
Ашм. — Ашмянскі
Бабр. — Бабруйскі
Бар. — Баранавіцкі
Барыс. — Барысаўскі
Бераст. — Бераставіцкі
Беш. — Бешанковіцкі
Браг. — Брагінскі
Брасл. — Браслаўскі
Брэсц. — Брэсцкі
Буда-Каш. — Буда-Кашалёўскі
Бых. — Быхаўскі
Бял. — Бялыніцкі
Бяроз. — Бярозаўскі
Бярэз. — Бярэзінскі
Валож. — Валожынскі
Ваўк. — Ваўкавыскі
Верхнядзв. — Верхнядзвінскі
Ветк. — Веткаўскі
Віл. — Вілейскі
Віц. — Віцебскі
Воран. — Воранаўскі
Ганц. — Ганцавіцкі
Гарад. — Гарадоцкі
Гл. — Глускі

Глыб. – Глыбоцкі
Гом. – Гомельскі
Гор. – Горацкі
Гродз. – Гродзенскі
Дзярж. – Дзяржынскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Добр. – Добрушскі
Докш. – Докшыцкі
Драг. – Драгічынскі
Дубр. – Дубровенскі
Ельск.–Ельскі
Жаб. – Жабінкаўскі
Жлоб. – Жлобінскі
Жытк. – Жыткавіцкі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іван. – Іванаўскі
Івац. – Івацэвіцкі
Івян. – Івянецкі
Іўеў. – Іўеўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Кам. – Камянецкі
Капат. – Капаткевіцкі
Капыл. – Капыльскі
Карм. – Кармянскі
Карэл. — Карэліцкі
Касц. – Касцюковіцкі
Кір. – Кіраўскі
Клецк. – Клецкі
Клім. – Клімавіцкі
Кліч. – Клічаўскі
Кобр. – Кобрынскі
Краснап. – Краснапольскі
Кругл. – Круглянскі
Круп. – Крупскі
Крыч. – Крычаўскі
Лаг. – Лагойскі
Лельч. – Лельчыцкі
Леп. – Лепельскі
Лёзн. – Лёзненскі
Лід. – Лідскі
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Люб. – Любанскі
Лях. – Ляхавіцкі
Маг. – Магілёўскі
Маз. – Мазырскі
Маладз. – Маладзечанскі
Малар. – Маларыцкі
Маст. – Мастоўскі
Мёр. – Мёрскі
Мін. – Мінскі
Мсцісл. – Мсціслаўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі
Нараўл. – Нараўлянскі
Нясв. – Нясвіжскі
Паст. – Пастаўскі
Петр. – Петрыкаўскі
Пін. – Пінскі
Пол. – Полацкі
Пруж. – Пружанскі
Пух. – Пухавіцкі
Раг. – Рагачоўскі
Рас. – Расонскі
Рэч. – Рэчыцкі
Саліг. – Салігорскі
Светлагор. – Светлагорскі
Свісл. – Свіслацкі
Сен. – Сенненскі
Слаўг. – Слаўгарадскі
Слон. – Слонімскі
Слуц. – Слуцкі
Смал. – Смалявіцкі
Смарг. – Смаргонскі
Старадарож. – Старадарожскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі
Тал. – Талачынскі
Уздз. – Уздзенскі
Ушацк. – Ушацкі
Хойн. – Хойніцкі
Хоц. – Хоцімскі
Чав. – Чавускі
Чач. – Чачэрскі
Чашн. – Чашніцкі
Чэрв. – Чэрвенскі
Чэрык.—Чэрыкаўскі
Шарк. – Шаркаўшчынскі
Шкл. – Шклоўскі
Шум. – Шумілінскі
Шчуч. – Шчучынскі

# 1. НАЗВЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ ЖЫВЁЛЬНАГА СВЕТУ

## 1.1. ДЗІКАЯ І СВОЙСКАЯ ЖЫВЁЛА

### Авечка

Свойская жвачная жывёліна, якая дае воўну, мяса, малако.

**Агульная назва**: *аве́чкі* (*гаве́чкі*) мн. – асн. мас. г. (Мат. апыт.), *авячкі́ (гавячкі́)* мн. – зах.-пал.г. (Мат. апыт.), *во́ўцы* мн. – віц.-маг.г., спарадычна ўсх. з. (Мат. апыт.).

**Самка, авечка**: *аве́чка (гаве́чка)* ж., *аве́чачка (гаве́чачка)* ж. памянш. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Мат. апыт.), *ваве́чка* ж. – Ельск. (ЛАБНГ), *ве́чка* ж., *ве́чачка* ж. памянш. – Слаўг., Краснап., Драг., Пін., Стол., Жытк., Лельч., Маз. (ЛАБНГ, АЛА, ТС), *аўца́ (гаўца́)* ж., *аве́чка (гаве́чка)* ж. памянш. – віц.-маг. г., усх. з., а таксама Гродз., Маст., Ваўк., Зэльв., Слон. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз.), *ваўца́* ж. – Свісл. (ЛАБНГ, АЛА), *ба́шка* ж. – Сен. (Каспяровіч), *ко́тка* ж. – мясц. (Насовіч), *шу́та* ж. ласк., *шу́тка* ж. ласк., *шу́тачка* ж. памянш.-ласк. – усх.- маг. р., а таксама Драг., Калінк. (ЛП, З нар. сл., Мат. Гом., Насовіч), *шу́рка* ж. ласк., *шу́рачачка* ж. памянш.-ласк. – усх. - маг. р. (Мат. апыт., Насовіч), *шкы́рка* ж. ласк., *шкы́рачка* ж. памянш.-ласк. – усх. - маг. р. (Мат. апыт., Насовіч), *аву́лька* ж. ласк. – Мёр. (НС), *ме́на* ж. дзіц. – Астр. (Мат. Гродз.), *бэ́дзя* ж. дзіц. – Беластоц. р. (СПЗБ); **маладая авечка**: *яру́шка* ж. – Мсцісл., Клім., Латгал. р. (СПЗБ, Бялькевіч, Мат. апыт.), *я́рачка* ж. – Пін. (ЛАБНГ), *ёрка* ж. – Беш. (Каспяровіч); *шлёнка* ж. 'авечка шлёнскай пароды' – Мсцісл., Слаўг. (Мат. апыт.).

**Самец, баран**: *бара́н* м., *бара́нчык* м. памянш., *барано́к* м. памянш., *баранчу́к* м. памянш., *баране́ц* м. памянш. –

агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Насовіч, Янкова, Мат. апыт.), *маркáч* м. – паўдн.-зах. д., акрамя ўсходняй часткі, зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, З нар. сл., Насовіч, Тарнацкі), *смаркáч* м. – Брэсц., Драг. (ЛАБНГ, АЛА, З нар. сл.), *маркáль* м. – поўдзень Мін. р., сл.-маз. г. (ЛАБНГ, АЛА, Шаталава), *мяркáль* м. — Лельч. (ЛАБНГ), *смаркáль* м. – Драг. (ЛАБНГ, АЛА), *мархáль* м. – Жлоб., Акц., Маз., Нараўл., Лоеў. (ЛАБНГ, АЛА, З нар. сл.), *маргáль* м. – Браг. (ЛАБНГ, АЛА, Шаталава), *мархатýн* м. – Жытк. (ЛАБНГ, АЛА, ТС), *мóркут* м. – Малар. (НЛ), *мóркуцень* м. – Драг. (ЛАБНГ), *маркітýн* м. – Беластоц. р. (СПЗБ), *меркітýн* м., *меркіцýн* м. – Лун. (Шаталава), *цяк* м. – Маладз. (АЛА), *цякýн* м. — Паст., Астр., Ашм. (ЛАБНГ), *трык* м. – захад зах.-пал. г. (Тарнацкі), *кабя́к* м. – Добр. (Мат. Гом.), *кілýн* м. — Лельч. (З нар. сл.), *мудзя́н* м. – Лун. (Тарнацкі); **баран пакладаны (кастрыраваны)**: *скапéц* м., *скоп* м. – паўн. р. (ЛАБНГ, АЛА), *шкапéц* м. – Шарк., Паст. (ЛАБНГ).

**Ягня**: *ягня́* н., *ягня́тка* н. памянш., *éгнятка* н. памянш.; *ягнё* н., *ягнётка* н. памянш.; *ягнёнак* м., *ягнянёнак* м., *ягнёначак* м. памянш. – адпаведна паўдн.-зах. д., сярэд.-бел.г., паўн.-усх.д. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *ягня́* н. – Пух., Асіп. (ДАБМ, СПЗБ), *агнёнак* м. – Шкл. (ДАБМ, Н. сл-сць), *гнёнак* м. – Маг. (ДАБМ), *ягню́к* м. – зах.-пал. г., паўн.-зах. з. (ДАБМ, СПЗБ, ЖС), *авечаня́* н. – Жытк. (ТС), *багня́* н., *барáнчык* м. 'ягня-самец' – мясц. (Насовіч); **ягня асенняга акоту**: *асянё* н. – Бар. (ЛАБНГ), *асянчýк* м. – захад Гродз. р., поўдзень Мін. р. (ЛАБНГ, ЖС, ЖНС, Сцяшковіч), *асяню́к* м. – захад Гродз. р. (ЛАБНГ, Цыхун), *асянчáк* м. – поўдзень зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *асятóк* м. – Бераст. (Сцяшковіч), *асéннік* м., *асéнчык* м. памянш. – усх. з. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *асéнка* ж. – Кобр. (ДАБМ), *асянёнак* м. – Гродз. (Сцяшковіч); **веснавое ягня**: *весянчýк* м. – Карэл. (ЖНС), *сняк* м. – Карэл. (ЖС).

## Алень

Дзікая жвачная жывёліна атрада парнакапытных з галінастымі рагамі і кароткім хвастом.

**Агульная назва і назва самца**: *алéнь* м. – агульн. (Мат. апыт.), *лень* м. – Слаўг., Касц., Клім.(Мат. апыт.), *éлень* м. – Зэльв., Вілен. р. (СПЗБ), *ялéнь* м. – Воран. (СПЗБ).

**Самка**: *алéніха* ж. – агульн. (Мат. апыт.), *аляніца* ж. – Воран. (Мат. Гродз.).

**Аленяня**: *аляня́* н. – паўдн.-зах.д.,*алянё* н. – сярэд.-бел. г., *алянёнак* м. – паўн.-усх. д. (ТС, Мат. апыт.), *алянюк* м., *аленючóк* м. памянш. – Воран. (Мат. Гродз.).

### Бабёр

Паўводны звер - грызун, які жыве ў лесе каля рэк і іншых вадаёмаў і мае каштоўнае футра.

**Агульная назва і назва самца**: *бабёр* м. – агульн. (Мат. Гродз., Бялькевіч, Мат. апыт.), *бабéр* м. – усх.-пал. р. (ТС, Мат. апыт.), *бабрáк* м. – Чэрв. (Шатэрнік), *бобр* м. — агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.).

**Самка**: *бабры́ха* ж. – агульн. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *бабры́ца* ж. – Люб. (СПЗБ), *вадзяніца* ж. – Дзятл. (Сцяшковіч).

**Бабраня**: *бабраня́* н., *бабранё* н., *бабрóнак* м. – адпаведна паўдн.-зах. д., сярэд.-бел.г., паўн.-усх.д. (Мат. Гродз., Мат. апыт.).

### Барсук

Лясны драпежны пушны звер сямейства куніцавых з вострай мордай і доўгай грубай шэрсцю, які жыве ў норах.

**Агульная назва**: *барсýк* м. – агульн. (СПЗБ, ЭПБ, Мат. Гродз., Мат. апыт.).

**Самка**: *барсучы́ха* ж. – Воран. (Мат. Гродз.).

**Барсучаня**: *барсучаня́* н. — паўдн.-зах. д., *барсучанё* н. — сярэд.-бел. г., *барсучанёнак* м., *барсучóнак* м. — паўн.-усх.д. (Мат. апыт.).

### Вавёрка

Невялікі пушны звярок, які жыве ў дуплах дрэў і харчуецца арэхамі, грыбамі.

*вавёрка* ж., *вавёрачка* ж. памянш. – асн.мас.г., за выключэннем усх.-маг.р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, НС, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *вавю́рка* ж. – паўн.-зах.з. (ДАБМ), *віёрка* (*віóрка*) ж. – Ваўк., Маст., Свісл., Стаўб. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Шаталава), *віюрка* ж. – Ваўк. (СПЗБ), *вівёрка*

ж. – Гродз. (ДАБМ), *яёрка* ж. – поўдзень паўн.-зах.з. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, НЛ, З нар. сл., Мат. Гродз., Шаталава), *явёрка* ж. – Бярэз., Ганц., Шчуч., Старадарож. (АЛА, Мат. Гродз., Шаталава), *яўёрка* ж. – Стол., Ганц. (СПЗБ, ТС), *явю́рка* ж. – Пруж. (СПЗБ), *авёрка* ж. – Гродз., Шчуч. (АЛА, З нар. сл.), *аве́рка* ж. – Гродз., Іван. (ДАБМ), *аёрка* ж. – Дзятл. (Сцяшковіч), *вёрка* ж. – Свісл. (АЛА), *ляве́рка* ж. – спарадычна зах.-пал.г. (ДАБМ, ЛП), *ліві́рка* ж. – Брэсц., Пін. (АЛА, ЖНС), *вяве́рыца* ж. – Пін. (ДАБМ), *бе́лка* ж., *бе́лачка* ж. памянш. – асн.мас.г., за выключэннем паўн.-зах.з. і зах.-пал. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, ЖНС), *бе́ліца, бялі́ца* (*былы́ця*) ж. – Малар. (ДАБМ, НЛ), *ве́кша* ж. – Пол., Беш., Смален.р. (ДАБМ, Каспяровіч, Насовіч, Дабравольскі), *скаку́ха* ж., *скаку́шка* ж. памянш. – Слон., Беш. (Сцяшковіч, Каспяровіч), *ру́дка* ж. – Івян. (АЛА).

**Малое ў ваверкі**: *ваверчаня́* н., *яерчаня́* н., *белчаня́* н. — паўдн.-зах. д., *ваверчанё* н., *яе́рчанё* н., *белчанё* н. — сярэд.-бел. г., *бяльчо́нак* м., *бельчанёнак* м. – паўн.-усх. д. (СЦБ, Мат. Гродз., Янкова, Мат. апыт.).

## Вожык

Невялікі звярок, спіна і бакі якога пакрыты доўгімі вострымі іголкамі.

**Агульная назва**: *во́жык* м. – асн.мас.г., за выключэннем віц.-маг. і зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз., Насовіч, Шатэрнік), *еж* м. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА), *е́жык* м. – спарадычна зах.-пал. г., поўдзень паўн.-зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *ёж* м. – спарадычна віц.-маг. г. (ЛАБНГ, АЛА), *ёжык* м. — віц.-маг. г., поўдзень паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Насовіч), *ёржык* м. – Ветк. (ЛАБНГ), *о́жык* м. – Слон., Свісл., Саліг., Карм. (ЛАБНГ, АЛА, Шаталава), *в’ёжык* м. – Астр. (ЛАБНГ).

**Самка**: *важы́ха* ж. – Мядз. (СЦБ), *яжы́ха* ж. – Навагр., Мсцісл., Лоеў. (Мат. Гродз., Янкова, Мат. апыт.), *ажы́ха* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *ежа́чка* ж. – Лоеў. (Мат.Гом.).

**Малое ў вожыкаў**: *важаня́* н. – Круп., Лаг., Смал. (СЦБ), *важанё* н. – Карэл. (Мат. Гродз.), *ежаня́* н. – паўдн. р. (ЛАБНГ), *ежанёнак* м. – віц.-маг. г. (Мат. апыт.), *ежанё* н. – Светлагор. (Мат. Гом.), *ежано́к* м. – Слаўг. (ЛАБНГ), *важу́к* м. – Воран. (Сл. Гродз.), *яжу́к* м. – Навагр. (Мат. Гродз.).

## Воўк

Дзікая драпежная жывёліна сямейства сабачых.

**Агульная назва і назва самца:** *воўк* м. – агульн. (СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал.), *ваўчы́шча* м. экспр. – усх.-маг.р. (Насовіч), *ваўкачэ́чына* м. экспр. – Слон. (ЖНС), *біру́к* м. – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *поўх* м. – Клім. (Бялькевіч), *пусты́ня* ж. – Краснап. (Бялькевіч); **малады воўк**: *ваўча́к* м. – Іўеў. (СПЗБ), *ваўчу́к* м. – Жытк. (ТС), *пе́стак* м. – Глыб. (СПЗБ), *пе́стун* м. – Брасл. (СПЗБ); **стары воўк**: *ваўка́ч* м.– Карэл. (Сцяшковіч); **воўк, які нападае на авечак**: *аўча́р, ваўча́р* м. – Ашм., Іўеў., Пух., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ), *аўча́рнік* (*гаўча́рнік*) м. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *аўчу́р* (*гаўчу́р*) м. – Лях., Шчуч. (СПЗБ), *аўча́тнік* м. – мясц. (Станкевіч), *воўк аве́чы* м. – Стол. (ТС); **воўк, які нападае на гусей**: *гуся́тнік* м. — Пол., Ушацк., Іўеў., Краснап. (ЛАБНГ), *гуся́чнік* м. – Нясв. (ЛАБНГ); **воўк, які нападае на коней**: *каню́х* м. — паўн.-зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ), *ко́нюх* м. – Іўеў., Лун., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *каню́р* м. – Навагр., Бых., Лях., Калінк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *канада́ў* м. – Клім. (ЛАБНГ), *кане́ўнік* м. – Мёр. (ЖНС), *кане́тнік* м. – Пол. (ЛАБНГ), *каня́тнік* м. – Ушацк. (НЛ), *канарэ́з* м. – Верхнядзв., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Насовіч), *кабыля́тнік* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *ко́нскі воўк* м. – Карэл., Уздз., Кам. (ДАБМ, ЛАБНГ, СЦБ, Мат. мін.-мал.), *воўк-каню́х* м. – Пух. (ЛАБНГ); **воўк, які нападае на жарабят**: *жарабя́тнік* м.– Гл., Мсцісл. (Юрчанка, Янкоўскі).

**Самка**: *ваўчы́ца* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *ваўчы́ха* ж. – спарадычна паўдн.-зах. д., віц.-маг. г. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Насовіч), *ваўча́рка* ж. – Лельч. (ЛАБНГ).

**Ваўчаня**: *ваўчаня́* н. — паўдн.-зах.д. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *ваўчаня́тка* н. памянш. – Лаг., Слон., Зэльв., Лях., Лоеў., Браг., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз.), *ваўчанё* н. – сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *ваўчанёнак* м. памянш. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, Насовіч, Яўсееў), *ваўчу́к* м. – Валож., Стол., Раг. (ЛАБНГ), *ваўча́к* м. – Гродз. (ЛАБНГ, Сцяшковіч), *ваўчаню́к* м. – Воран., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ваўчано́к* м. – Лёзн., Тал., Раг., Ветк. (ЛАБНГ), *ваўчаня́к* м. – Раг. (СПЗБ), *ваўчо́нак* м. – паўн.р., а таксама Чач., Жлоб., Рэч. (ЛАБНГ), *ваўчэ́нак* м. – Бял. (Яўсееў), *ваўча́т* м. – Віц. (ЛАБНГ), *шчаня́* н. – Кам. (ЛАБНГ).

**Мноства ваўкоў**: *ваўчэ́ча* ж. зборн. – Жытк. (ТС), *ваўкачэ́ча* ж. зборн. – Гл., Стол. (ТС, Янкоўскі), *ваўкаўня́* ж. зборн. – Жытк. (ТС).

### Выдра

Млекакормячая драпежная жывёліна з каштоўным футрам цёмна-бурага колеру, якая вядзе паўводны спосаб жыцця.

*вы́дра* ж. – агульн. (Мат. Гродз., Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *выдра́* ж. — паўн.-зах.з. (СПЗБ, Мат. апыт.).

**Выдраня**: *выдраня́* н. – Воран. (Мат. Гродз.), *выдру́к* м. – Воран. (Мат. Гродз.).

### Гарнастай

Пушны драпежны звярок, які зімой мае белае футра з чорным кончыкам хваста.

*гарнаста́й* м. – агульн. (Бялькевіч, Мат. апыт.), *чарнахво́сцік* м. – Стол. (ТС), *поўх* м. – Краснап. (Бялькевіч).

**Самка:** *гарнаста́іха* ж. – агульн. (Мат. апыт.), *гарнаста́йка* ж. – Бярэз. (СЦБ).

### Заяц

Невялікі звярок атрада грызуноў з доўгімі заднімі нагамі, доўгімі вушамі і кароткім хвастом.

*за́яц* м. – агульн. (АЛА, Бялькевіч, Станкевіч), *заю́к* м. – мясц. (Насовіч), *за́юхна* м. – мясц. (Насовіч), *за́йка* м. – мясц. (Насовіч), *ма́лік* м. 'малады заяц' – Гом. (Мат. Гом.), *шумі́ла* м. 'спужаны заяц' — Ветк. (Мат. Гом.); **заяц-шарак**: *шара́к* м. – Лаг., Стаўб., Нясв., Чач. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. Гом., Насовіч), *сяра́к* м. – усх.-маг. р. (Насовіч, Мат. апыт.), *руса́к* м. – Клім. (ЛАБНГ); **заяц-бяляк**: *бяля́к* м. – Віц., Лаг., Лун., Стол., Лельч. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *бялю́к* м. – Чэрык. (ЛАБНГ).

**Самка**: *зайчы́ха* ж. – агульн. (Мат. Гродз., Бялькевіч, Мат. апыт.).

**Зайчаня**: *зайчаня́* н., *зайчаня́тка* н. памянш. — паўдн.-зах. д., *зайчанё* н. — сярэд.-бел. г., *зайчанёнак* м., *зайчо́нак*

м. — паўн.-усх.д. (СЦБ, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *зайчэ́нак* м. — Бял. (Яўсееў).

## Зубр

Дзікая буйная рагатая жывёліна сямейства пустарогіх.

*зубр* м. — агульн. (Мат. апыт.), *зу́бра* ж. — Бярэз. (СЦБ).

**Самка**: *зубры́ха* ж. — Дзярж. (СЦБ).

**Зубраня**: *зубраня́* н. — паўн.-зах. з., *зубранё* н. — сярэд.-бел. г., *зубро́нак* м. — паўн.-усх.д. (СЦБ, Мат. Гродз., Мат. апыт.).

## Кажан, лятучая мыш

Млекакормячая начная жывёліна з шырокімі перапончатымі крыламі.

*кажа́н* м. — агульн. (ЛАБНГ, АЛА, Шатэрнік, Каспяровіч, Тарнацкі, Насовіч), *ко́жан* м. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА), *кіжа́н* м. — Саліг. (АЛА), *каржа́н* м. — сумежжа зах.-пал. г. і ўсх.-пал. р. (ЛАБНГ, АЛА, Шаталава), *ко́ржан* м. — Лун. (АЛА), *карза́н* м. — Рэч., Жытк. (ЛАБНГ, ЖС), *каза́н* м. — Бабр. (ЛАБНГ), *казане́ц* м. — Браг. (ЛАБНГ), *шкура́т* м. — Валож., Іўеў., Ганц., Гл. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Тарнацкі), *скура́т* м. — Гродз., Навагр., Івян., Воран. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *скурато́к* м. — Іўеў. (ЛАБНГ), *скурла́т* м. — Воран. (АЛА), *скура́ч* м. — Свісл. (Шаталава), *раме́ннік* м. — Івац., Кам., Калінк., Рэч. (ЛАБНГ, НС, Тарнацкі), *рамяні́ца* ж. — Драг. (ЛАБНГ), *палатня́нік* м. — Саліг., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Нар. сл-сць), *магаза́нчык* м. — Браг. (АЛА, Шаталава), *хула́п* м., *кула́п* м. — Жлоб. (ЛАБНГ), *папалі́ка* ж. — Кобр., Малар. (Тарнацкі), *начні́ца* ж. — Віл., Калінк. (ЛАБНГ), *но́чка* ж. — Малар., Кобр. (ЛАБНГ, НЛ, Тарнацкі), *серпакры́жнік* м. — Свісл. (Шаталава), *пархм*. — Кобр. (Тарнацкі), *лята́к* м. — Лун. (Тарнацкі), *лыне́к* м. — Пін. (Тарнацкі), *кажа́н-мыш* м. — Пух. (АЛА), *лятү́чая* (*лятү́шчая, ляця́чая, лята́чая*) *мыш* (*мыша́, мышы́на*) — агульн. (ЛАБНГ, АЛА, Тарнацкі), *шкураця́ная* (*шкурці́ная*) *мыш* — Краснап., Лоеў. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Бялькевіч), *пальна́я мыша́* — Брасл. (АЛА), *палатня́ная мыш* — Лельч. (ЛАБНГ).

## Каза

Невялікая свойская і дзікая парнакапытная жвачная жывёліна сямейства пустарогіх.

**Агульная назва**: *кóзы* мн. – агульн. (Мат. апыт.), *маркацінне* н. зборн., пагард. – Ушацк. (НЛ).

**Самка, каза**: *казá* ж., *кóзка* ж. памянш. – агульн. (СПЗБ, Янкоўскі, Мат. апыт.).

**Самец, казёл**: *казёл* м. – агульн. (АЛА, Бялькевіч, Янкоўскі, Янкова), *казёльчык* м. памянш. – Слаўг. (АЛА), *казёлчык* м. памянш. – Гродз. (АЛА), *казéльчык* м. памянш. – Касц., Капат. (АЛА).

**Казляня**: *казлянé* н. – паўдн.-зах.д. (ЛАБНГ, АЛА), *казлянятка* н. памянш. – Навагр. (ЛАБНГ, АЛА), *казлянё* н. – сярэд.-бел.г. (ЛАБНГ, АЛА), *казлянётка* н. памянш. – Смален. р. (ЛАБНГ, АЛА), *казлянёнак* м., *казлёнак* м. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, АЛА, СЦБ), *казлé* н. – Брэсц. (АЛА), *казлятка* н. памянш. – Пух. (АЛА), *казлéк* м., *казлячóк* м. памянш. – мясц. (Насовіч), *казлюк* м. – Мёр., Пін., Паст., Воран. (ЛАБНГ, АЛА), *казлíшка* м. – Ветк. (АЛА), *казяня́* н., *казяня́тка* н. памянш. – паўдн.-зах.д., зах.-пал.г. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, СЦБ, Мат. мін.-мал., Янкоўскі, Янкова), *казянё* н. – Маладз., Івян., Карэл., Бярэз. (ЛАБНГ, АЛА, Станкевіч), *казянётка* н. памянш. – Віл. (АЛА, СПЗБ), *казянёнак* м. – Бял., зах.-бран.р. (АЛА, Растаргуеў), *казянюк* м. – Гродз. (ЛАБНГ, АЛА), *казялóк* м. – Мёр., Паст. (ЛАБНГ, АЛА), *казюк* м., *казючóк* м. памянш. – Пін. (ЛАБНГ, АЛА).

## Карова

Буйная рагатая свойская жывёла, якая дае малако.

**Агульная назва:** *карóвы* мн. – асн. мас. г. (Мат. апыт.), *каравы́* мн. — зах.-пал.г. (Мат. апыт.), *гóвяда* н. зборн., *гаўя́да* н. зборн. – Люб., Старадарож. (ЖС, НС), *тавáр* м. – усх.-пал.р. (НС,ТС), *скот* м., *скацíна* ж. – усх.з. (Мат. апыт.).

**Самка, карова**: *карóва* ж., *карóўка* ж. памянш. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гродз., Бялькевіч, Мат. апыт.), *карóвіца* ж. экспр. – Смарг., Шчуч., Астр., Ашм., Іўеў., Воран. (СПЗБ), *каравёна* ж. экспр. – Брасл. (СПЗБ), *каравёшка* ж. экспр. – Вілен. р. (СПЗБ), *каравíна* ж. экспр.

'вялікая карова' – Беластоц.р. (СПЗБ), *карóўчына* ж. экспр. – Лоеў. (Янкова), *карóванька* ж. ласк. – Маз. (НЛГ), *карóвачка* ж. ласк. – Жытк. (АЛА), *карóўчыначка* ж. ласк. – Лоеў. (Янкова), *мы́зя* ж. дзіц. – Малар. (НС), *мы́ка* ж. дзіц. – мясц. (Насовіч), *мы́сечка* ж., *мы́ська* ж., *мы́ся* ж. дзіц. – мясц. (Насовіч), *псéйка* ж. дзіц. – Петр. (ЖС), *рагýля* ж. ласк. – мясц. (НЛГ), *тпрýзейка* ж. дзіц. – Мсцісл. (Юрчанка), *тпрýська* ж. дзіц. – Зэльв. (Н. сл-сць), *цёсечка* ж., *цёська* ж. ласк. – мясц. (Насовіч), *тавáрына* ж. – Стол., Петр. (ТС, Мат. Гом.), *цялýха* ж. – Докш., Віл., Гродз. (СПЗБ, Янкоўскі), *цялýшка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *туры́ца* ж. 'дзікая або вялікая карова' – мясц. (Насовіч); **карова галандскай пароды** : *галáнка* ж., *алéндра* ж.– Гродз.р., Астр. (Сцяшковіч, Цыхун); **карова першага ацёлу**: *первацёлка* ж. – сярэд.-бел. г., сл.-маз. г., а таксама Ваўк., Слон., Івац., Малар., Клім., Гор. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гом.), *першацёлка* ж. — Саліг., пол.-мін. г., Гродз.р. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл., Н. сл-сць), *первадóйка* ж. – Маз. (ЛАБНГ), *первацёл* м. – Уздз. (ЛАБНГ), *первачáтка* ж., *первячáтка* ж. – Жлоб. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *першацёл* м. – Карэл., Нясв., Клецк. (ЛАБНГ), *правя́стка* ж. – Кам., Брэсц. (ЛП), *пярвáлка* ж. – Верхнядзв., Рэч., Лоеў., Жытк., Браг. (ЛАБНГ, З нар. сл., Янкова), *пярвíсенка* ж., *пéрвесянка* ж. – Рас., Гарад. (ЛАБНГ, Шаталава), *пярвýстка* ж. – Клім. (ЛАБНГ), *пярвýсцінак* м. – Чэр. (ЛАБНГ), *пярвýсцінка* ж., *пярвóсцінка* ж., *пярвíсцінка* ж., *пярэ́сцінка* ж. – віц.-маг. г., Уздз. (ЛАБНГ, Шаталава, Бялькевіч), *пярвýха* ж. – Гом. р. (Мат. Гом.), *пярвýшка* ж. – Гом. р. (Мат. Гом.), *пярвýшчанка* ж. – Рэч., Буда-Каш., Гом., Ветк., Добр. (ЛАБНГ, НС), *пяршáчка* ж. – Гродз. р., Чэрв. р., пол.-мін. г., а таксама Астр., Слаўг., Кругл. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал., Шаталава), *пяршáка* ж. – Лун. (Шаталава), *пяршáтка* ж. – Раг., Бар., Кір., Кам., Брэсц. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пярша́нка* ж. – Пін., Стол. (ЛАБНГ), *пéрвым цéлем* – Іўеў., Капыл., Ганц. (ЛАБНГ), *пéршым цéлем* – Гродз., Зэльв., Бераст., Слон., Краснап. (ЛАБНГ), *пéршым цяля́цем* – Кобр., Бяроз., Івац., Іван. (ЛАБНГ), *пéршым цёлам* – Бяроз., Драг., Кобр., Іван., Пін. (ЛАБНГ), *выпустóўка* ж. – Дзярж. (СЦБ), *дравíца* ж., *дрóвіца* ж. – Верхнядзв., Петр., Жытк., Лельч. (ЛАБНГ, ТС, З нар. сл., Шаталава), *дрóвіцка* ж. – Жытк. (ЛАБНГ), *дрóўка* ж. – Бых., Добр., Лельч., Стол. (ЛАБНГ, ТС, З нар. сл.), *лашчáк* м. – Навагр. (ЛАБНГ), *лашчáчка* ж. – Дзятл. (ЛАБНГ), *ярýшка* ж. – Докш. (ЛАБНГ, СПЗБ); **карова другога ацёлу**: *другáк* м. – Круп. (СЦБ), *другацёлка* ж. – Стол. (ТС); **карова трэцім цялём:** *траця́к* м. – Круп. (СЦБ); **карова, якая**

**не пакрылася**: *я́лаўка* ж. – Брасл., Пол., Карэл., Мсціcл., Маг., Чэрв., Клім., Маз., Лельч., Ельск., Нараўл., Добр., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл., Мат. Гродз., Бялькевіч, Насовіч), *я́лавіца* ж. – Гродз.р., а таксама Мін., Драг., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар.сл.), *ялаўні́к* м. – Кам. (ЖНС), *яло́ха* ж. – Брэсц., Кобр., Малар. (ЛАБНГ, ЖС), *пярэ́дайка* ж. – Брасл., Пол., Гродз.р., паўдн.р., зах.-бран.р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. мін.-мал., З нар.сл., ЖНС, НЛГ, Растаргуеў, Янкоўскі, Янкова); *сы́ска* ж., *сы́сачка* ж. ласк. – Ваўк. (ЛАБНГ), *палёўка* ж. 'карова ў стане цечкі' – Стол. (ТС); **бязрогая карова**: *галамо́ўза* – Мін., Бераст., Зэльв., Карэл., Асіп., Бяроз., Лях., Саліг., Жытк., Лельч. (ЛАБНГ, ТС, Цыхун), *галу́за* ж. – Бар., Навагр., Зэльв., Слон., Лях. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сцяшковіч), *ку́кса* ж. – Воран., Лід., Іўеў., Навагр., Нясв., Кам., Кобр., Хойн. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Мат. Гом., Мат. Гродз.), *бу́кса* ж. – Воран., Іўеў., Рэч. (ЛАБНГ, НС), *лаба́тка* ж., *лабу́тка* ж. – Верхнядзв., Гарад., Мядз., Леп., Чашн., Тал., Маг., Быx., Слаўг. (ЛАБНГ, СЦБ, НС), *каме́ль* м. – Петр. (З нар.сл.), *кы́чма* ж. – Драг. (ЛП), *лаба́н* м. – Віл., Гор., Дзятл., Капыл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. сл-сць), *лаба́нька* ж. – Навагр. (З нар. сл.), *лаба́шка* ж. – Верхнядзв., Быx. (Мат. Маг., Шаталава), *лабі́ца* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *лабо́ня* ж. – Шум. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лабу́к* м. – Вілен.р. (СПЗБ), *лабы́р* м. – Глыб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лабы́рка* ж. – Ушацк. (ЛАБНГ), *лаба́ч* м. – Дзятл., Ваўк. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *лабу́ша* ж. – Астр. (Мат. Гродз.), *лэ́бка* ж. – Мсціcл. (ЛАБНГ), *му́ла* ж. – Стаўб. (СЦБ), *шу́та* ж.– Лельч. (Мат. Гом.); *рага́тка* ж., *рагу́лька* ж. 'карова з вострымі рагамі' – Мядз., Вілен.р. (СПЗБ, НС), *рыку́ння* ж., *рыку́ха* ж. 'карова, якая часта мычыць, рыкае' – Ашм., усх.-маг. р. (Насовіч, Сцяшковіч), *бадзю́ка* ж., *баду́ха* ж. 'бадлівая карова' — усх.-маг.р. (Насовіч, Юрчанка), *даёха* ж. 'дойная карова' – паўн.р. (Каспяровіч), *старадо́йка* ж.'старая карова' – Мсціcл. (Юрчанка), *цыцо́ха* ж. 'карова з вялікімі саскамі' – Зэльв. (Н. сл-сць), *красу́ля* ж. 'карова чырвонай масці' – Хоц. (Бялькевіч), *лы́ска* ж., *лысю́ха* ж. 'карова з белай плямай на лбе' – усх.-маг.р., Вілен.р. (СПЗБ); **пярэстая карова**: *паласа́тка* ж. – Мядз. (ЛАБНГ), *пары́ня* ж. – Малар. (ЛАБНГ), *перапялёска* ж. – Мсціcл. (Юрчанка), *рабе́ня* ж. – Чач. (Мат. Гом.), *страка́тка* ж. – Слаўг. (ЛАБНГ), *цвято́ня* ж. – Шум. (ЛАБНГ); *бры́нда* ж. экспр. 'збродлівая карова' – Бял. (Яўсееў), *бу́ба* ж. экспр., *ла́йба* ж. экспр. 'вялікая трыбухатая карова' – Ушацк., Стаўб. (НС, Мат. мін.-мал.), *гарга́ра* ж. экспр. 'вялікая няўклюдная карова, якая дае мала малака' – Ка-

рэл. (Н. сл-сць); **худая карова**: *гáра* ж., *гаргáра* ж., *гаргáрына* ж. экспр. — Мёр. (НС), *хрýля* ж. экспр. — Ваўк. (СПЗБ), *шаўрó* н. экспр. – Лоеў. (Янкова), *штыкля* ж. экспр. – Свісл. (Шаталава); *шкурапíна* ж. экспр. 'дрэнная карова' – Слаўг. (Н. сл-сць), *бóнда* ж., *пасáжніца* ж. 'карова, якую бацькі давалі дачцэ ў пасаг' – Гродз., Старадарож. (СПЗБ, Цыхун); **карова, якая яшчэ не цялілася**: *цёлка* ж. — Валож., Ашм., Крыч., Мсцісл., усх.-пал. р. (СПЗБ, Бялькевіч, Насовіч, Мат. апыт.), *цялíца* ж. – Лельч., Люб., Старадарож., Стол., Лоеў., Ельск. (СПЗБ, ТС, НЛ, НС, 3 нар.сл., Мат. Гом., Янкова), *цялíцка* ж. – Петр. (АЛА, Шаталава), *цялýха* ж. – Старадарож., Гл. (ЖНС, Янкоўскі), *цялýхна* ж. – Жытк. (ТС); **цялушка, якая па ўзросту павінна ўжо цяліцца**: *нéцель* ж. – Віц.р., Круп., Жытк. (ТС, НС, Каспяровіч), *нéцелак* м. – Пух. (СЦБ), *лашáчка* ж. – Стаўб. (СЦБ), *нядóйка* ж. – Лоеў. (Янкова), *ялóшка* ж . – Малар. (НЛ); **цялушка сёлетняга прыплоду**: *сёлетка* ж. – Верхнядзв., Бярэз., Барыс., Астр., Маг., Бых., Жлоб. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Шаталава), *сёлетніца* ж. – Паст. (ЛАБНГ), *сягóлетка* ж. – Чэрв.р., усх.-пал.р. (ЛАБНГ, СПЗБ); **цялушка мінулагодняга прыплоду**: *лéташніца* ж. – Паст., Беш. (ЛАБНГ), *пералéтка* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *зімавíчка* ж. – Карм. (ЛАБНГ), *пярэ́зімка* ж., *пярэ́зімачка* ж. памянш. – Мін., Гродз., Бераст., Шчуч. (ЛАБНГ), *трáўніца* ж. – Віц. (Каспяровіч), *першапáшніца* ж. – Івац. (ЖНС); **двухгадовая цялушка:** *двухгóдка* ж. – Дзятл. (СПЗБ), *двузíмка* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *дравýшка* ж. – Рас. (Шаталава), *другадзíчка* ж. – Шум. (Каспяровіч), *нéцель* ж. – Ашм., Паст. (СПЗБ); **цялушка на трэцім годзе:** *траця́чка* ж. – паўн.-зах.з., Чэрв., зах.-пал.г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *трацяка* ж. – Пух., Нясв., Лях., Ганц., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ), *трацяк* м. – Брасл., Чав., Хоц., Краснап., Лельч. (ЛАБНГ), *трайцяка* ж. – Петр. (Шаталава).

**Самец, бык**: *бык* м. – асн.мас.г. (АЛА,ТС, Бялькевіч, Янкова), *бычýга* м. экспр., *бычугáн* м. экспр. – Мсцісл., Верхнядзв. (СПЗБ, Мат. апыт.), *бугáй* м. – Карэл., Лях., Маст., паўдн.-усх.з., зах.- бран.р. (АЛА, ДАБМ, ЖНС, ТС, 3 нар. сл., Насовіч, Растаргуеў, Янкоўскі), *буя́к* м. – Ганц., Бяроз., Кам., Брэсц., Пінск., Беластоц. р. (ДАБМ, АЛА, НЛГ, СПЗБ, Тарнацкі, Шаталава), *буя́чыска* м. экспр. – Беластоц. р.(СПЗБ), *буя́н* м. – Пруж., Драг., Пін. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ), *стáднік* м. 'племянны бык' – Свісл., Лоеў., Стол., Лельч., Браг. (ДАБМ, ТС, НЛГ, Сл. Гродз., Шаталава, Янкоўскі), *трóльскі бугáй* м. 'вялікі племянны бык

немясцовай пароды' – Лельч. (ЖС); **малады бык:** *бычóк* м. – агульн. (АЛА), *бычанóк* м. – Барыс., Смал. (АЛА, СПЗБ), *бугайчýк* м. – Лельч. (ДАБМ), *буячóк* м. – Беластоц. р. (СПЗБ), *двузíмак* м. 'двухгадовы бычок' – Гродз. (ЛАБНГ), *падцёлак* м. 'бычок-пярэзімак' – Маладз., Пух. (СЦБ), *трацяк* м., *чацвяртáк* м. 'бычок ад двух да трох год' – Віл., Гродз., Жытк., Лельч., Ельск., Брэсц. (НС), *бадýн* м. экспр. 'бадлівы бык, бычок' – Мсцісл. (Юрчанка), *бы́ся* м. экспр. – Мсцісл. (Яўсееў, Мат. апыт.), *бы́ська* м. экспр. – Краснап., Мсцісл. (Бялькевіч, Мат. апыт.), *бы́ця* м. дзіц. – Драг. (ЛП), *мычýн* м. экспр. – Ваўк. (Сцяшковіч); **пакладаны самец**: *вол* м. – агульн. (АЛА, ТС, Бялькевіч), *валя́чына* ж. экспр. – Стол. (ТС), *вáлух* м. – Шкл. (АЛА), *кастрáк* м. – Малар. (АЛА), *баўкýн* м. 'вол, якога запрагаюць у ярмо-адзіночку' – Лельч. (З нар. сл.), *цягло́* н. 'запрэжаны вол' – Лельч. (НЛ), *красéй* м. 'вол чырвонай масці' – Гл. (Янкоўскі).

**Цяля**: *цяля́* н. – паўдн.-зах.д., зах.-пал.г. (АЛА), *цялё* н. – сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *цялёнак* м. – паўн.-усх. д.(АЛА), *цялёнка* ж. – Віл. (СПЗБ), *цялю́к* м. – Паст., Воран., Гродз., Драг. (АЛА, СПЗБ); **цяля-бычок:** *бычанёнак* м., *бычанóк* м., *бычóнак* м. – Мсцісл. (Юрчанка); **цяля, якое ссе карову**: *сысýн* м., *сысунóк* м. памянш. – Асіп., Гродз., Слуц., Ельск. (ЛАБНГ), *сысýнчык* м. – Маст., Стол. (ЛАБНГ), *атóсак* м. – Карэл. (ЛАБНГ), *лазýн* м. – Чашн. (Каспяровіч); **цяля-цялушка**: *сы́ска* ж., *сы́сачка* ж. экспр. – Ваўк. (ЛАБНГ), *сысýнка* ж., *сысýначка* ж. экспр. – Гродз. (ЛАБНГ); **цяля сёлетняга прыплоду, веснавое цяля**: *сёлетнік* м. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ), *сягóлетак* м. – поўнач пол.-мін. г., Віц. р., Раг., Чач., Люб., Лун., Пін. (ЛАБНГ), *сягóлетнік* м. – Пол., Гарад., Беш., Калінк., Лоеў. (ЛАБНГ), *сёлетак* м., *селятóк* м. – Верхнядзв., Бых., Слаўг., Клім., Касц. (ЛАБНГ), *сёлешнік* м. – Паст. (ЛАБНГ), *аблéтак* м. – Мсцісл. (Бялькевіч), *адналéтак* м. – Чэрв. (ЛАБНГ), *лятня́к* м. – Кам. (ЛАБНГ), *нáлетак* м. – Хойн. (Мат. Гом.), *паралéтак* м. – Докш., Паст. (СПЗБ, Янкоўскі); **цяля на першай пашы**: *вы́пустак* м. – Пух., Слуц. (ЛАБНГ), *гумёначак* м.– Дзярж. (ЛАБНГ), *гумнíшчавае цяля́* – Валож. (ЛАБНГ), *гумяннóе цяля́* – Лаг. (ЛАБНГ), *кучáк* м. – Малар. (ЛАБНГ); **цяля мінулагодняга прыплоду, цяля - пярэзімак**: *пярэ́зімак* м. – Ушацк., Лаг., Валож., Гродз. р., Чэрв., Клім., Клецк., Слуц., Рэч., Кам., Пін., Лельч. (ЛАБНГ), *перазімóвак* м. – Бераст. (ЛАБНГ), *падцёлак* м. – усх.з., зах.-бран.р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч, Растаргуеў), *гадавíк* м. – Чэрык.,

Светлагор. (ЛАБНГ), *гадунéц* м. – Пух. (ЛАБНГ), *аднагóдак* м. – Карм. (ЛАБНГ), *леташáк* м., *летушóк* м., *лéташачак* м. памянш.— Бярэз., Бял., Бых., Касц., Чач., Гом., Кам. (ЛАБНГ, Яўсееў), *лéташнік* м. – Паст., Глыб., Сен., Чашн., Арш. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *队ералéтак* м., *перал́етачак* м. памянш. – Гарад., Докш., Бяроз., Бял., Бых., Жлоб., Ветк., Лун. (ЛАБНГ), *мякíннік* м. – Капыл., Слуц. (ЛАБНГ), *ялаўчýк* м. – Лельч. (ЛАБНГ).

## Конь

Буйная свойская аднакапытная жывёліна, якая выкарыстоўваецца для перавозкі людзей і грузаў, а таксама для верхавой язды.

**Агульная назва**: *конь* м., *кóнік* м. памянш. – агульн. (Мат. апыт.), *канюшóк* м. экспр. – Мядз. (СЦБ), *канíшанька* м. памянш.-ласк. – Гом. (НЛГ), *канюга* м. экспр., *канюгá* м. экспр. – Навагр. (СПЗБ, З нар. сл.), *каня́га* м. экспр. – Навагр. (СПЗБ), *каня́ка* м. і ж. экспр. – Пол., Валож., Пух., Лях., Касц. (АЛА, СПЗБ, Насовіч), *кóся* м. памянш.-ласк., *кóська* м. памянш.-ласк. – агульн. (ЛП, Мат. апыт.), *лóшадзь* ж. – Астр., Зэльв., Вілен.р. (СПЗБ), *лашадзёнка* ж. экспр. – Мсцісл. (Бялькевіч); **дужы конь**: *важýр* м. – Лях. (СПЗБ), *вазюр* м. – Барыс. (СПЗБ), *вазавíк* м. – Круп. (СПЗБ), *ламавíк* м. – Гродз. (Цыхун); *рысáк* м. 'рысісты конь' – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *нéвук* м. 'неаб'езджаны конь' – Лельч. (ЖС), *лягýша* м. 'брыклівы конь' – Гом. (НЛГ), *бляýш* м. 'слабы конь' — Гродз. (НС), *слéтнік* м. 'знямоглы конь, набыты для выходжвання '– Пол. (Шаталава), *стаéннік* м. 'выязны, добра дагледжаны конь' – агульн. (З нар.сл., Янкоўскі, Насовіч, Мат. апыт.), *сяннíк* м. эмац. 'пражэрлівы конь' – Ушацк. (НЛ), *кля́ча* ж. экспр. 'стары худы конь' – усх.-маг.р. (АЛА, ЛАБНГ), *бíтка* м. экспр. 'стары знясілены конь' – Карэл. (ЖС); *дрáба* ж. экспр., *дэ́рбіна* ж. экспр. 'худы няўклюдны конь' – Віл., Мядз. (Мат. мін.-мал., Н. сл-сць); *лубáк* м. экспр., *лубíна* м. экспр. 'вельмі худы і стары конь' — Мсцісл. (Юрчанка, Мат. апыт.), *ваўкарэ́зіна* ж. экспр. 'лянівы конь' – Пух. (Мат. мін.-мал.), *гаплюк* м. экспр. 'худы маларослы конь' – Гродз. (Цыхун); *здóхлік* м. экспр., *здыхля* м. экспр., *здыхля́ціна* ж. экспр. 'слабы, заезджаны конь' – Хоц., Мсцісл. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *пáдла* м. і ж. экспр. 'вельмі лянівы маларухомы конь' — Мёр., Мсцісл. (ЛАБНГ, Мат. апыт.); *убóй* м. экспр., *убóіна* ж. экспр. 'лянівы і павольны конь' – Гродз.,

Мсцісл. (Цыхун, Мат. апыт.), *чапля* м. і ж. экспр. 'худы знясілены конь' — Маг. (ЛАБНГ), *шайлу́га* ж. экспр. 'худы стары конь' — Маг. (ЛАБНГ), *шэ́ўля* ж. экспр. 'худы стары знясілены конь' — Віц.р. (Каспяровіч), *трацяк* м. 'трохгадовы конь' — Лоеў. (Янкова), *сямі́к* м. 'сямігадовы конь' — усх.-маг.р. (Насовіч), *асьма́к* м. 'васьмігадовы конь' — усх.-маг. р. (Насовіч), *серадаві́к* м. 'конь сярэдніх гадоў' — усх.-маг.р. (Насовіч), *ме́рын* м. 'конь пасля пакладання' — Беш., Лёзн., Акц. (АЛА), *каню́га* м. і ж. экспр. — Беш. (АЛА).

**Самка, кабыла**: *кабы́ла* ж. — агульн. (Бялькевіч, Янкова, Мат. апыт.), *кабылі́ца* ж. эмац. — Мсцісл. (Мат. апыт.), *кабылёшка* ж. эмац. 'дрэнная на выгляд кабыла' — Мядз. (СЦБ), *лашы́ца* ж. — Ельск., Раг. (Мат. Гом.), *шаўлю́га* ж. экспр., *шаўлю́жанка* ж. экспр., *шаўлю́жка* ж. экспр. — усх.-маг.р. (Насовіч); **кабыла першым жарабём:** *пярва́чка* ж., *пярша́тка* ж., *первача́тка* ж., *першаро́дка* ж., *першажаро́бка* ж.; **жаробка:** *жаро́бка* ж., *жаро́бачка* ж. памянш. — пераважна паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Мат. апыт.), *жарабі́ца* ж., *жарабі́чка* ж. — паўдн.-зах.д. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ла́ша* ж. — паўдн.-усх. з. (АЛА, З нар.сл., Мат. Гом., НЛГ, Янкова, Тарнацкі, ТС), *лашы́ца* ж., *лашы́цка* ж. — паўдн.-усх.з. (ЛАБНГ, Мат. апыт.); *перале́тка* ж. 'гадавалая жаробка' — Гарад. (Каспяровіч), *стрыгу́нка* ж. 'жаробка другога году' — Валож. (ЛАБНГ); **двухгадовая жаробка:** *двухзі́мка* ж. — Мядз., Астр., Гродз., Шчуч., Ваўк., Бар. (ЛАБНГ, НС), *двухле́тка* ж. — Гарад., Бярэз., Быx., Карм., Слон., Кап., Слуц., Гродз. р. (ЛАБНГ), *двухго́дка* ж., *двухгадзі́чка* ж. — паўн. (Каспяровіч); *трацяка* ж. 'трохгадовая жаробка' — Слуц. (ЛАБНГ).

**Самец, жарабок:** *жарабо́к*, *жарабо́чак* м. памянш., *жарэ́бчык* м. памянш., *жаро́бачак* м. памянш. — паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч), *жарабе́ц* м., *жарэ́бчык* м. памянш. — пераважна паўдн.-зах.д. (ЛАБНГ, АЛА, Бялькевіч, Тарнацкі), *жарабу́к* м., *жарабучо́к* м. памянш. — паўн.-зах.з. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ), *жэ́раб* м. — Нараўл., Буда-Каш., Лоеў. (З нар.сл., Мат. Гом., Янкова), *жэ́рваб* м. — Лоеў. (Янкова), *во́гер* м., *о́гер* м., *го́гер* м., *ёгер* м. — зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ЖС, ЖНС, Сл. Гродз., Шаталава, Цыхун, Бялькевіч, Насовіч, Тарнацкі), *аге́р* м. — Астр. (Сл. Гродз.); **малады жарабок:** *паджаро́бак* м. — Валож., Нясв., Мін. (ЛАБНГ), *лаша́к* м., *лашачо́к* м. памянш. — паўдн.-усх.з. (ЛАБНГ, ТС, ЖС), *ланча́к* м.— Пруж. (ЛАБНГ), *лашча́к* м. — Навагр. (Мат. Гродз.), *двухле́так* м. — Гарад.,

Гродз., Бярэз., Бых., Карм., Лельч., Нараўл. (ЛАБНГ), *двухлéташак* м. – мясц. (Насовіч), *двухгóдак* м. – Слон., Капыл., Слуц. (ЛАБНГ), *другáк* м. – Смален.р. (Дабравольскі), *стрыгýн* м. – Мін.р., Чэрв.р., усх.-маг.р., а таксама Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *стрыгунéц* м. – Маг. (Мат. Маг.), *трацяк* м. – Верхнядзв., Шарк., Віл., Драг. (ЛАБНГ, Станкевіч), *трайцяк* м. – Гл. (Янкоўскі); **жарабок з яйцамі ўнутры цела:** *нутрэ́ц* м. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *нутрáк* м. – Гродз. (Цыхун); **племянны жарабок:** *стáднік* м. – Лельч. (З нар.сл.), *твóрнік* м. – Маз. (Мат. Гом., З нар. сл.).

**Жарабя:** *жарабя́* н., *жарабя́тка* н., *жарэ́бятка* н. памянш. – паўдн.-зах.д. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Тарнацкі), *жэ́рабя* н. – мясц. (Насовіч), *жарабё* н., *жарабётка* н. памянш.-ласк. – сярэд.-бел.г. (АЛА, СПЗБ, СЦБ), *жарабёнак* м. – паўн.-усх.д. (АЛА, СПЗБ, СЦБ), *жарабянóк* м. – Краснап. (Бялькевіч), *жарабýк* м., *жарабчýк* м. – паўн.-зах.з., зах.-пал.г. (АЛА, ЛАБНГ), *жóра* н. – Краснап. (Бялькевіч), *лашаня́* н., *лашаня́тка* н. памянш. – усх.-пал.р. (АЛА, ЛАБНГ, З нар.сл., Мат. Гом.), *лашóнак* м., *лашóначак* м. – Акц., Добр., Лоеў., Рэч., Слаўг., Ветк. (АЛА, ЛАБНГ), *шаламя́* н. – Петр. (ЖС), *канёнак* н. – віц.-маг.г. (АЛА), *кýзя* м. і ж. памянш.-ласк. – Гл., Драг. (ЛП, Янкоўскі), *кузýлька* м. і ж. памянш.-ласк. – Паст. (СПЗБ), *кíзя* м. і ж. памянш.-ласк. – Маст. (Сл. Гродз.), *кусю́ля* м. і ж. памянш.-ласк. – Раг. (ЛАБНГ), *кусюлёк* м., *кусюлёнак* м. памянш.-ласк. — Малар., Буда-Каш. (ЛАБНГ); **жарабя-сысун:** *сысýн* м., *сасýн* м. — агульн. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *сы́сачка* ж. – Ваўк. (ЛАБНГ); **аднятае жарабя:** *адсóсак* м. – Лях. (ЛАБНГ), *падсóс* м., *падсóсак* м. — усх.-маг. р. (Насовіч, Мат. апыт.); **жарабя гэтага года**: *сегалéтак* м., *сягóлетак* м. — Верхнядзв., Шум., Сен., Бярэз. (ЛАБНГ), *селятóк* м., *сёлетак* м. – Бял., Бых., Карм., Касц. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *сёлетнік* м. — Шарк., Лёзн., Арш. (ЛАБНГ), *сёлетка* м. 'жарабя — кабылка гэтага года' – Астр. (ЛАБНГ); **мінулагодняе жарабя:** *паджарóбак* м. – Лаг. (СЦБ), *аднагóдак* м., *гадавíк* м. – агульн. (ЛАБНГ), *гадýн* м. – Гродз.р., Чэрв. р., а таксама Краснап., Старадарож., Лун. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Сл. Гродз.), *гадунéц* м. – Пух. (ЛАБНГ), *адназíмак* м. – Рас., Шчуч., Карэл., Круп., Хойн. (ЛАБНГ, Шаталава), *перазíмак* м., *пярэ́зімак* м. – асн. мас. г. (ЛАБНГ, Сцяшковіч), *адналéтак* м. – Дзісн., Ушацк., Слуц. (ЛАБНГ), *пералéтак* м. – Гарад. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *пралéтак* м. – мясц. (Насовіч), *лéташак* м. – Бярэз., Краснап., Чач. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *рóчнік* м. – Бяроз. (Шата-

лава), *рачня́к* м. – зах.-пал.г., а таксама Бераст. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *вы́пустак* м. – Бар., Нясв., Уздз., паўдн. р.(ЛАБНГ), *ланча́к* м. – Жаб., Кобр. (ЛАБНГ), *лаша́к* м. – Маз. (ЛАБНГ), *стрыгу́н* м. – Валож., Мсцісл., Маг., Дзярж. (ЛАБНГ), *стрыгу́ль* м. – Асіп.(ЛАБНГ).

## Кот

Свойская жывёліна сямейства кашачых са звычкамі драпежніка, якая ловіць птушак і мышэй.

**Агульная назва**: *каты́* мн. – агульн. (Мат. апыт.), *кацькі́* мн. 'кацяняты' – пашыр. (Мат. апыт.).

**Самка, кошка**: *ко́шка* ж. – агульн., за выключэннем паўн.-зах.з. (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Янкова, Мат. апыт.), *ко́тка* ж. — паўн.-зах.з., а таксама Беластоц. р., Латгал. р., Вілен. р. (АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Шаталава, Станкевіч), *кацэ́ся* ж. экспр. – Лоеў. (Янкова), *курня́ўка* ж., *ка́ўка* ж. дзіц. – Мсцісл. (Юрчанка).

**Самец, кот**: *кот* м. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *като́к* м. памянш. – Пол., Смарг., Лаг., Бял., Слаўг. (СПЗБ, Янкоўскі, Станкевіч), *ко́цік* м. памянш. – Пол., Лёзн., Мсцісл., Слаўг. (АЛА, Мат. апыт.), *кату́сь* м. ласк. – Брасл. (СПЗБ), *каціля́па* м. ласк. – Бял. (Яўсееў).

**Кацяня**: *кацяня́* н., *кацяня́тка* н. памянш. – паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Янкова), *кацянё* н., *кацянётка* н. – сярэд.-бел.г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *кацянёнак* м. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, АЛА), *кацёнак* м. – спарадычна паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, АЛА), *кацяно́к* м. – Мсцісл., Слаўг. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. апыт.), *кацяню́к* м. – Гродз. (ЛАБНГ, АЛА), *кацю́к* м. – Воран., Іўеў., Пін. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, Шаталава), *какацяня́* н. – Гродз. (ЛАБНГ), *касяня́* н. – Саліг. (ЛАБНГ), *касянёнак* н. – Слаўг. (ЛАБНГ).

## Крот

Невялікая млекакормячая жывёліна, якая прыстасавана для жыцця пад зямлёй.

*крот* м. – асн. мас. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Тарнацкі), *поўх* м. — зах.-пал. г., Беластоц. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ЛП, Шаталава, Тарнацкі), *то́чка* ж. – паўд-

нёвы ўсход зах.-пал. г. (ТС, Тарнацкі), *тача́к* м. – Пін. (ЛАБНГ, АЛА).

**Самка**: *краці́ха* ж. – агульн. (Мат.Гом., Мат. апыт.), *паўшы́ха* – Драг. (ЛП).

**Малое ў кратоў**: *крацяня́* н.; *крацянё* н.; *крацяно́к* м., *крацянёнак* м. — адпаведна паўдн.-зах.д., сярэд.-бел. г., паўн.-усх.д.(Мат. Гом., Яўсееў, Мат. апыт.), *паўшаня́* н. – Драг. (ЛП, Мат. апыт.).

## Куніца

Невялікая драпежная жывёліна з каштоўным футрам, якая жыве ў лесе.

*куні́ца* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *куна́* ж., *ку́на* ж. — паўн.-зах. з., Брэсц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Сцяшковіч), *ку́ня* ж. – мясц. (Насовіч).

## Ласка

Невялікая драпежная жывёліна сямейства куніцавых з тонкім гібкім целам.

*ла́ска* ж. – паўн.-усх.д., спарадычна сярэд.-бел.г., а таксама Вілен. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *ла́сачка* ж. – зах.-пал. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ), *ла́січка* ж. памянш. – Верхнядзв., Рас., Шчуч., Бар. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *падла́ска* ж. – Рас., Лёзн., Дубр., Клім. (ЛАБНГ, АЛА, Бялькевіч), *нала́ска* ж. – Бял. (ЛАБНГ), *ла́стка* ж. – Пін. (ЛАБНГ), *ла́сіца* ж. – паўдн.-зах. д., усх.-маг. р., паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *падла́сіца* ж. – спарадычна віц.-маг. г., усх.-пал. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, Шаталава, Шатэрнік, Янкоўскі), *падла́сіць* ж. – Гарад. (ЛАБНГ), *ла́савіца* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *дамаві́к* м. – Лун. (ЛАБНГ), *язду́н* м. – Лаг. (ЛАБНГ).

## Ліса

Драпежная жывёліна з вострай мордай і доўгім пушыстым хвастом.

*ліса́* ж. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч), *лі́са* ж. – Вілен.р. (СПЗБ), *лісі́ца* ж. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Янкоўскі), *ліс* м. – Гарад., Віл., Чэрв., Пух., Брэсц., Пін., Вілен. р. (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч,

Насовіч), іншы раз як назва самца – Шкл. (АЛА).

**Лісяня**: *лісяня́* н., *лісянё* н., *лісянёнак* м. – адпаведна паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., паўн.-усх. д. (СПЗБ, Мат. апыт.).

## Лось

Буйная жвачная жывёліна сямейства аленевых з шырокімі лапатападобнымі рагамі ў самцоў.

*лось* м. – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.); **малады лось**: *ласю́к* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *спіца́к* м. – Саліг. (Н. сл-сць), *стрэ́лачнік* м. – Івац. (ЖНС).

**Самка**: *ласі́ха* ж. – віц.-маг. г., Гродз.р., паўдн. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ласі́ца* ж. – асн.мас.г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. Гом.), *ла́ска* ж. – Ветк. (ЛАБНГ), *ло́ша* ж. – Валож., Барыс., Стаўб., Чэрык., Івац., Ганц., Жытк., Маз., Стол., Хойн. (ЛАБНГ, ТС, Мат.Гом.), *лашы́ца* ж. – поўдзень паўдн.-усх.з. (ЛАБНГ), *лаша́тка* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *ла́ня* ж. – Бяроз. (ЛАБНГ).

**Ласяня**: *ласяня́* н., *ласяня́тка* н. памянш.; *ласянё* н.; *ласёнак* м., *ласянёнак* м. – адпаведна паўдн.-зах. д., сярэд.-бел.г., паўн.-усх. д. (Мат. Гродз., Мат.Гом., Мат. апыт.), *ласё* н. – Хойн. (Мат. Гом.), *ласюк* м., *ласючо́к* м. памянш. – Воран. (Мат. Гродз.), *лашаня́* н. – Ганц. (СПЗБ).

## Мыш

Невялікі грызун, звычайна шэрага колеру, з вострай мордачкай і доўгім тонкім хвастом.

*мыш* ж., *мы́шка* ж. памянш. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч), *мыша́* ж. — паўн.-зах.з. (АЛА, СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал., Станкевіч), *мы́ша* ж. – Гродз. (СПЗБ), *мы́шына* ж. – спарадычна віц.-маг. г. (АЛА, Бялькевіч), *мыша́к* м. – Гом. р. (Мат. Гом.), *шчура́* ж., *шчу́рка* ж. памянш. – Астр. (Н. сл-сць, Насовіч), *пага́нка* ж. – мясц. (Насовіч); **палявая мыш**: *палёўка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, Мат.Гродз.), *паля́ўка* ж. – Ашм. (ЛАБНГ), *палявая мыш* – Карэл. (ЛАБНГ), *жы́тнік* м. – Лаг., Маладз. (СЦБ), *се́чка* ж. 'рыжая палёўка' — Стол. (ТС).

**Мышаня**: *мышаня́* н., *мышанё* н., *мышанёнак* м. – адпаведна паўдн.-зах.д., сярэд.-бел. г., паўн.-усх.д. (Бялькевіч, Яўсееў, Мат. апыт.).

## Мядзведзь

Вялікая драпежная жывёліна з густой поўсцю і тоўстымі нагамі.

*мядзве́дзь* м. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Мат. Маг., Бялькевіч), *вядзме́дзь* м., *вядзме́дзька* м. памянш. — агульн. (АЛА, СЦБ, Н. сл-сць, Мат. Маг.), *нядзве́дзь* м. – Івян., Гродз., Карэл., Свісл. (ЛАБНГ, АЛА), *нядзме́дзь* м. – Свісл. (АЛА), *барaві́к* м. 'мядзведзь, які жыве ў барах' – мясц. (Насовіч), *барцяві́к* м. 'мядзведзь, які любіць барцявы мёд' – мясц. (Насовіч).

**Самка**: *мядзве́дзіца* ж. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА), *мядзвядзі́ца* ж. – Брасл., Гродз., Свісл., Лёзн. (ЛАБНГ), *вядзме́дзіца* ж. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СЦБ), *нядзве́дзіца* ж. – Карэл. (ЛАБНГ, АЛА), *ме́дзвіца* ж. – Пін. (ЛАБНГ, АЛА), *мядзве́дзіха* ж. – спарадычна паўн.-зах. з. і віц.-маг. г. (ЛАБНГ, АЛА, Мат.Гом., Бялькевіч), *медзвядзі́ха* ж. – Смарг., Валож., Кам., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *вядзме́дзіха* ж. – Шчуч. (ЛАБНГ, АЛА), *мядзвяжы́ха* ж. – Лёзн. (АЛА), *мядзві́га* ж. – Краснап. (Бялькевіч).

**Медзведзяня**: *медзведзяня́* н., *медзведзяня́тка* н. памянш. – паўдн.-зах.д. (Мат. апыт.), *медзведзянё* н. – сярэд.-бел.г. (Мат. апыт.), *медзвядзёнак* м., *медзведзянёнак* м. – паўн.-усх.д. (Бялькевіч, Мат. апыт.).

## Пацук

Жывёліна сямейства мышападобных, большая за мыш, з доўгім хвастом.

*пацу́к* м. – асн. мас. г., акрамя віц.-маг. г., а таксама Вілен. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Насовіч, Тарнацкі), *пац* м. – спарадычна асн.мас.г., акрамя віц.-маг. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, З нар.сл., Каспяровіч, Насовіч, Шаталава, Шатэрнік), *пуца́к* м. – Верхнядзв., Рас., Беш. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, НС), *бац* м. – Гродз. р., спарадычна Віц., Пух. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. мін.-мал., ЖС, Каспяровіч, Шаталава, Янкоўскі), *бацу́к* м. – Верхнядзв., Іўеў., Кругл., Шчуч., Карэл., Маст., Старадарож., Нараўл. (ЛАБНГ, АЛА, ЖНС), *шчур* м. – Гродз., Свісл., зах.-пал. г., Вілен.р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, АЛА, НЛ, Тарнацкі, Цыхун, Шаталава), *шчу́ра* ж. – Свісл., Нараўл. (Мат. Гом., Сцяшковіч), *кры́са* ж. – усх. з., паўночны ўсход зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, Янкова), *смаля́нка* ж. – віц.-маг. г.

(ЛАБНГ, АЛА, Бялькевіч, Насовіч), *смаляч* м. – Шум. (ЛАБНГ), *смалюга* ж. – Кругл. (Мат.Маг.), *смаля́нуха* ж. – Лёзн. (АЛА).

**Пацучаня**: *пацучаня́* н. — Навагр. (Мат. Гродз.), *шчураня́* н. – Ельск. (Мат. Гом.).

## Сабака

Свойская жывёліна, якая выкарыстоўваецца для аховы і палявання.

*саба́ка* м. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Шатэрнік), *сабарно́* м. павел.-адм. – Жытк., Драг., Петр. (ТС, Мат. Гом.), *сабачу́га* м. павел.-адм. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *цюлік* м. ласк. – Карэл. (ЖНС), *цюцька* м. ласк., *цюця* м. ласк. – Мсцісл. (Мат. апыт.).

**Самка**: *су́ка* ж. – агульн., акрамя віц.-маг. г. (АЛА), *су́чка* ж. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Янкова), *сука́* ж. – віц.-маг. г. (АЛА), *ку́рша* ж. – Вілен.р. (СПЗБ).

**Сабачаня**: *шчаня́* н., *шчаня́тка* н. памянш.; *шчанё* н., *шчанётка* н. памянш.; *шчанёнак* м., *шчанёначак* м. памянш. – адпаведна паўдн.-зах. д., сярэд.-бел.г., паўн.-усх. д. (Мат. апыт.), *сабачаня́* н. – Гл. (Янкоўскі), *сабачу́к* м. — паўн.-зах.з. (СПЗБ), *цюцяня́* н. – Зэльв. (Н. сл-сць).

## Свіння

Свойская і дзікая жывёліна, мяса і сала якой выкарыстоўваецца ў ежу.

**Агульная назва свойскай свінні**: *сві́нні* мн. – агульн. (Мат. апыт.), *сві́ння* мн. зборн. – усх.-пал. р.(ТС); **агульная назва дзікай свінні**: *дзікі́* мн.— цэнтр. з. (Мат. апыт.), *дзі́кія сві́нні* (*кабаны́*) – усх.-маг.р. (Мат. апыт.).

**Самка, свіння**: *свіння́* ж., *сві́нка* ж. памянш. – агульн. (Насовіч, Бялькевіч, Мат. апыт.), *дзю́шка* ж. ласк. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *ю́ська* ж. ласк., *ю́сенька, ю́сечка* ж. памянш. – усх.-маг. р. (Мат. апыт., Насовіч); **свіння з парасятамі**: *мацёра* ж. – зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, СЦБ, ЖС, НС, Нар. сл-сць, З нар.сл.), *маціо́ха* ж. – Ваўк. (Сцяшковіч), *парасяня́тніца* ж. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ, Юрчанка); *ко́рмніца* ж. 'самка, якую гадуюць на забой' – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *ца́хаўка* ж. экспр. 'надворная свіння' – Бял. (Яўсееў).

**Самец непакладны, кныр**: *кныр* м. – усх.-пал. р., цэнтр. з. (ДАБМ, АЛА, ЖС, Янкоўскі, Сцяшковіч), *кнырэ́ц* м. – Браг. (ДАБМ), *кнур* м., *кну́рчык* м. памянш. – зах. з., усх.-маг. р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, НС, Бялькевіч, Насовіч, Шаталава, Мат. апыт.), *кнор* м. – Гарад., Чэрв. (ДАБМ, СПЗБ), *кно́раз* м. — паўн.-усх. д., поўдзень Мін.р. (ДАБМ, ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, З нар.сл., Бялькевіч, Янкоўскі), *кано́раз* м. – Мсцісл., Люб. (ДАБМ), *кнаразу́к* м. – Уздз. (ДАБМ), *кнер* м. – Пол. (ДАБМ), *кне́раз* м. – Гл. (ДАБМ), *кнюр* м. — Воран., Маст. (СПЗБ), *кірно́з* м. – Паст., Глыб., Докш., Астр., Воран., Іўеў., Гродз., Лун., Вілен.р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, НС, Шаталава), *карзу́к* м. – Гор. (ДАБМ), *карзю́к* м. – Гарад., Дубр., Гор. (АЛА, Мат. Маг.), *храк* м., *крак* м., *хляк* м. – усх.з. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Шаталава), *храпа́ч* м. – Старадарож. (ДАБМ), *хухра́к* м. – Паст. (ДАБМ), *гук* м., *гучо́к* м. памянш. – Маладз., Воран., Навагр., Шчуч., Маст., Лях., Ельск., Віл. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, З нар.сл.), *кілу́н* м. – паўн.р., усх.- маг.р., а таксама Стол., Лельч. (ДАБМ, ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, Шаталава), *кіла́ш* м., *кіла́ч* м. – Віц.р. (ДАБМ, АЛА), *парсю́к* м. – Беш. (ДАБМ), *паршу́к* м. – Свісл. (ДАБМ), *пару́к* м. – Шум. (ДАБМ), *шкапе́ц* м. – Докш. (ДАБМ), *кіпр* м. – Гл. (ДАБМ), *каба́н* м. – Маг.р. (ДАБМ), *вапе́р* м. – Гарад., Мсцісл. (ДАБМ, Мат. апыт.), *бо́раў* м. – Віц., Дубр., Тал. (ДАБМ), *ста́днік* м. – Нараўл., Браг. (ДАБМ), *вытво́рнік* м., *утво́рнік* м. – Віц., Леп., Лёзн. (ДАБМ), *племянні́к* м. – Віц. (ДАБМ); **самец з адным яйцом**: *нутрэ́ц* м., *нутра́к* м. – агульн. (ДАБМ, ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Бялькевіч), *нутране́ц* м. – Дзятл. (СПЗБ), *ну́цер* м. – Стол. (ТС), *прырэ́з* м. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *падрэ́з* м. – Мёр., Пол. (ЛАБНГ), *аднаяй* м. – Пруж. (ЛАБНГ); **самец пакладаны**: *парсю́к* м., *парасю́к* м. — паўн.-зах.з., Вілен.р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ), *паршу́к* м. – гродз.-бар. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, ЖС, З нар.сл., Сцяшковіч, Шаталава, Цыхун, Тарнацкі), *парашу́к* м. – Лун. (ДАБМ), *пар* м. – Ушацк. (ДАБМ), *пару́к* м. – Паст., Шум. (ДАБМ), *вяпру́к* м., *япру́к* м., *вапру́к* м. – віц.-маг. г., поўдзень Мін.р., зах.-пал.г. (ДАБМ, ЛАБНГ, АЛА, ТС, Бялькевіч, Тарнацкі), *вапе́р* м., *вапро́нак* м. памянш. – віц.-маг. г., Смален.р. (ДАБМ, АЛА, Мат. Маг., Дабравольскі, Юрчанка, Насовіч), *вепр* м. – Лун. (ДАБМ), *ве́пер* м. – Чэрв. (Шатэрнік), *ве́прык* м. – Брэсц., Драг., Пін. (АЛА), *каба́н* м., *кабане́ц* м. памянш., *кабанё* н. памянш., *кабанёнак* м. памянш., *каба́нчык* м. памянш., *кабано́к* м. памянш. – паўдн.-усх. з., агульн. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Тарнацкі, Янкоўскі, Ян-

кова, Яўсееў), *кабáсь* м. – Астр. (Сцяшковіч), *кабýсік* м. памянш. – Бял., Петр., Лельч. (ЖС, Яўсееў), *бóраў* м.– паўн.р., Латгал.р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, СЦБ), *крок* м. – Валож. (СЦБ), *рашня́к* м. – Лельч. (ЖС, Мат. Гом.), *кóрмнік* м. – агульн. (СЦБ, НЛ, З нар.сл., Мат. мін.-мал., Янкоўскі), *сáльнік* м. – Мёр., Краснап., Лельч. (ЖС, НС, Бялькевіч), *кастрáт* м. – Віц. (ДАБМ), *кішкýн* м. – Нараўл. (ДАБМ), *тýчнік* м. – Беластоц. р. (СПЗБ); **парсюк, кормлены да каляд**: *калядá* м. – Маладз. (СЦБ), *каля́днік* м. – Лельч. (З нар.сл.); **парсюк, кормлены да дзядоў**: *дзядóвік* м. — Віл. (СПЗБ); **парсюк, які яшчэ не на адкорме**: *надвóрнік* м. — усх. з. (ЖС, Юрчанка, Мат. апыт.); **невялікі парсюк (або свіння)**: *падсвíнак* м. – агульн. (ДАБМ, ЛАБНГ, СПЗБ, З нар.сл., Шаталава, Янкова, Янкоўскі), *пóдсвінак* (*пóцвінак, пóдсвіннак*) м. – усх.-маг. р., усх.-пал. р. (Мат. апыт., Мат. Гом.), *падсвінáка* ж. – Слуц. (ЖС), *падсвіня́ка* ж. – Маз. (ЖС), *свіня́ка* ж. – Кліч. (ЖС), *свіннёнак* м. – усх.-маг. р. (Юрчанка, Яўсееў), *падпарасёнак* м. – Ветк. (Мат.Гом.), *гадунéц* м. – Жытк. (ТС), *свінчá* ж., *свінчó* н., *свінчáга* м. экспр. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, НС, Мат. Гом., Мат. апыт.), *свінчóк* м. – Гом. (Мат.Гом.), *мацю́к* м. – Брасл. (СПЗБ); **парсюк, які перазімаваў**: *зімавíк* м.– Мсцісл. (Юрчанка).

**Самец дзікі**: *дзік* м. – пераважна цэнтр. з. (СПЗБ, ТС, Мат. апыт.), *дзікі кабáн, дзíкі парсю́к, дзíкі вапéр* – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *адзінéц* м., *адзіню́к* м. – спарадычна ў розных месцах (Мат. апыт.), *мурáшнік* м. – Гом. (Мат. Гом.).

**Парася**: *парася́* н., *парася́тка* н. памянш.; *парасё* н., *парасётка* н. памянш.; *парасёнак* м., *парасёначак* м. памянш. – адпаведна паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., паўн.-усх.д. (АЛА, СПЗБ, Мат. мін.-мал., Бялькевіч, Мат. апыт.), *парасю́к* м. – Воран, Гродз., Пін. (АЛА), *кабанчýк* м. – Стол. (ТС), *дзю́дзік* м. ласк., *дзю́лік* м. ласк., *дзюлёк* м. ласк. – агульн. (З нар. сл., Мат. апыт.), *ёцка* м. – Чэрв. (Шатэрнік), *ю́цька* м. 'парася ва ўзросце трох-чатырох месяцаў' – Петр. (ЖС), *лýцік* м. 'добра дагледжанае парася' – Жытк., Петр. (ТС, З нар.сл.), *ячýк* м. 'укормленае парася' – Краснап. (Бялькевіч), *пацучóк* м. 'дагледжанае парася' – Лельч. (З нар.сл.); **малое парася**: *цю́нік (цýнік)* м. – Стол. (ТС, ЖС), *чухунéц* м. – Краснап. (Бялькевіч); *асянчук* н. 'парася асенняга прыплоду' – Барыс., Слуц., Лельч., Маз. (СЦБ, ЖС, Н. сл-сць, Мат. Гом.), *вяшня́к* м. 'парася веснавога прыплоду' – Шчуч., Уздз., Клецк. (СПЗБ, НЛ,

СЦБ), *зімавік* м. 'парася зімовага прыплоду' — Ашм. (СПЗБ); **парася ў дзікай свінні**: *вепраня́* н. — Навагр. (Мат. Гродз.), *дзічанё* н. — Валож. (СЦБ).

## Трус

Невялікі свойскі грызун сямейства заечых.

*трус* м., *тру́сік* м. памянш. — агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч), *трусь* м. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Бялькевіч, Насовіч), *падтру́с* м. — Лоеў. (Янкова), *кроль* м. — паўдн. р., Гродз.р., а таксама Чэрв., Асіп. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гом., Янкова), *кро́лік* м. — агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *каро́ль* м. — Шчуч., Кам. (ЛАБНГ, Шаталава), *каро́лік* м. — Малар. (ЛАБНГ), *кро́глік* м. — Маст. (СПЗБ).

**Самка**: *трусі́ха* ж. — паўн. р., паўдн.р., паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *трусі́ца* ж. — Паст., Тал., Астр., Шчуч., Дзятл., поўдзень Мін.р., Вілен.р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *тру́ска* ж. — спарадычна асн.мас.г. (ЛАБНГ), *кралі́ха* ж., *кральчы́ха* ж. — пераважна паўдн.р., а таксама спарадычна ў розных месцах (ЛАБНГ, Янкова), *кралі́чка* ж. — Пін. (ЛАБНГ), *кралі́ца* ж. — поўдзень паўдн.-усх.з., Гродз.р. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Янкова), *краглі́ца* ж. — Маст. (СПЗБ), *каралі́ца* ж. — Ваўк. (Сцяшковіч).

**Трусяня**: *трусяня́* н., *трусянё* н., *трусянёнак* м.— адпаведна паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., паўн.-усх. д. (Мат. апыт.), *краляня́* н. — усх.-пал.р. (Мат.Гом.), *по́дтрус* м. — Лоеў. (Янкова).

## Тхор

Драпежная жывёліна сямейства куніцавых з каштоўным футрам.

*тхор* м. — агульн., акрамя паўн. - зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ЛП, Бялькевіч, Насовіч), *хор* м. — Гарад., Беш., Ваўк. (ЛАБНГ), *харок* м. — Шарк., Пол. (ЛАБНГ), *шашо́к* м. — паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Гарэцкі, Каспяровіч), *смярдзю́к* м. — Навагр., Лельч. (ЛАБНГ, Мат.Гом.), *хо́хлік* м. — Гродз. (Сцяшковіч).

**Самка**: *тхары́ха* ж. — Драг. (ЛП), *шашы́ца* ж. — Бераст. (ЛАБНГ).

**Тхараня**: *тхараня́* н., *тхаранё* н., *тхаро́нак* м., *тхаранёнак* м. — адпаведна паўдн.-зах.д., сярэд.-бел. г., паўн.-усх. д. (Мат. апыт.).

## 1.2. ДЗІКІЯ І СВОЙСКІЯ ПТУШКІ

### Арол

Буйная драпежная птушка, якая мае цёмна-бурае з белымі плямамі апярэнне.

*арóл* м. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Мат. апыт.), *падарлáч* м. 'падворлік' – Брэсц. (АЛА).

### Аўсянка

Пеўчая птушка, падобная да вераб'я, але з даўжэйшым, чым у яго, хвастом.

*аўсянка* ж. – Краснап., Стол. (ЛП, Бялькевіч), *смяцю́х* м. – зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., ЛП, Сцяшковіч, Шаталава, Федароўскі, ПБ, ЭПБ), *пасмéцюх* м., *пасмéцюха* ж. – Малар., Маз. (ЛП, ЛАБНГ), *смяцю́га* ж. – Карэл. (ЛАБНГ), *смяцю́шка* ж. – Стол. (ЛП), *смяцю́р* м. – Лун. (Шаталава), *смéтнік* м. – Пух., Івац., Малар., Стол., Маз. (ЛАБНГ, ЛП, ЭПБ), *смятню́к* м. – Лельч. (НЛ).

### Бакас, вераценнік (і розныя кулікі)

Балотная сярэдняй велічыні птушка з карычне억-бурым з вохрыстымі стракацінамі апярэннем і з доўгай дзюбай.

*бакáс* м. — паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ПБ, ЭПБ), *бякáс* м. – Шум., Віц., Барыс., Чашн., Мсцісл., Івац., Саліг. (ЛАБНГ), *бэ́кас* м. – Гродз., Кам., Бяроз. (ЛАБНГ), *бэ́кач* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЛП), *басáк* м. – Ваўк. (СПЗБ), *пéкур* м. – усх.-пал.р. (ЛАБНГ, ЛП), *пéкун* м. – Лун., Люб., Пух., Жытк. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Шаталава), *пéкач* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЛП), *барáнчык* м., *барáн* м. – паўдн.-усх. д. (ЛАБНГ, Янкова, Дабравольскі), *бóжы барáнчык* (*баранéц*) – Іўеў., Стаўб., Лельч. (ЛАБНГ), *казá* ж. – Мёр. (ЖНС), *кóзка* ж. – Гом. (Мат.Гом), *казялёк* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *чэ́пік* м. – Бял., Краснап. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *свербалóў* м. – Гарад. (ЛАБНГ), *дудóк* м. – Пол. (ЛАБНГ), *сéйбіт* м. – Чашн. (ЛАБНГ), *пецяльгýз* м., *целягýз* м. – Малар. (ЛАБНГ), *даўганóсік* м. – Стол. (ЛП), *члóнка* ж. – Гродз. (ЖНС).

**Вераценнік вялікі**: *грыц* м. – паўн.р. (Каспяровіч), *грыцýк* м. – паўдн.р. (ПБ, Станкевіч), *грыца* м. – Петр. (ПБ),

*грыцык* м., *грачык* м. – Стол., Малар. (ЛП), *рута* ж. – Леп. (ПБ, Станкевіч), *нецег* ж. – Пін., Брасл. (Мат. Гом., ПБ), *басяк* м. – Лельч. (ПБ).

**Аўдотка**: *палявы кулік* – Пін., *кулік* м. – Рэч., *стрэпет* м. – Маз. (ПБ).

**Ржанка**: *сявец* м., *сіўка* ж., *кулік* м. – мясц. (ПБ).

**Турухтан**: *батальён* м. – мясц. (ПБ).

**Траўнік**: *краснаножка* ж., *бакас* м. – мясц. (ПБ).

**Чарныш**: *целягуз* м., *бакас* м. – мясц. (ПБ).

**Розныя кулікі**: *кулік* м., *кулік* м. – паўдн.р., паўн.-зах.з. (СПЗБ, Мат. Гом., ЛП), *азярнік* м. – Лід. (Сцяшковіч).

## Берасцянка

Невялікая лясная пеўчая птушка атрада вераб'іных; зяблік.

*берасцянка* ж. – паўн.р., паўдн.р. (ЛП, Каспяровіч, ПБ), *берасцянчык* м. – Лоеў. (Янкова), *махнянка* ж. – Стол. (ПБ, ЭПБ), *зяблік* м. – Стол. (ЛП, ЭПБ), *зябка* ж. – мясц. (Насовіч), *шворкун* м. – Ушацк. (НЛ), *сюркаўка* ж. – Глыб. (СПЗБ), *юрок* м. – Мсцісл. (Мат. апыт.).

## Бугай

Буйная балотная птушка сямейства чапляў са сплюшчаным з бакоў целам, з шэра-бурым апярэннем і з доўгай тоўстай шыяй.

**Бугай вялікі**: *бугай* м. – Гл., Петр. (Янкоўскі, ПБ, ЭПБ), *бухала* ж., *абухала* ж. – Слуц., Смален. р. (ПБ, ЭПБ, Дабравольскі), *бухач* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *гукаліца* ж. – Смален.р. (Дабравольскі), *гібейла* ж. – Жытк. (ПБ, ЭПБ), *гібач* м. – Стол. (ЛП), *ібут* м., *ібуць* ж. – Стол., Жытк. (ТС, ЛП), *бык* м. – Шум. (СПЗБ), *вадзяны бык* м. – Пін. (ПБ, ЭПБ), *чарэцены вол* – Жытк. (ТС), *рык* м. – Добр., зах.-бран.р. (Мат. Гом., Растаргуеў).

**Бугай малы**: *ваўчок* м. – Стол., Жытк., Маз. (ТС, ЛП, ПБ, ЭПБ), *ваўчок лазаны* – Стол. (ЛП), *лазнюга* м. – Петр. (ПБ, ЭПБ), *малы бугайчык* – Петр. (ПБ), *малы гібелюйчык* – Барыс. (ПБ, ЭПБ).

## Бусел

Вялікая птушка з доўгай прамой чырвонай дзюбай і высокімі чырвонымі нагамі.

*бусел* м. — паўдн.-зах.д., сярэд.-бел.г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Сл. Гродз., ЛП, ПБ, Бялькевіч, Насовіч), *бусла* м. – Жытк. (ТС), *буська* м. – цэнтр.з., пал.р. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, НЛ, ЖНС, ЛП, Шаталава), *бусько* м. – Драг., Стол. (ЛАБНГ, ПБ), *бусень* м. – Брэсц., Драг., Кобр., Бяроз. (ЛАБНГ, АЛА), *бусен* (*бусён*) м. – Брэсц., Кам., Бяроз. (ЛАБНГ, Шаталава), *бусня* м. – зах.-бран.р. (Растаргуеў), *бухал* м. – Стол. (ЛП), *буцян* м. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ, АЛА, СЦБ, ЭПБ, Юрчанка, Яўсееў), *буцяна* м. – Слаўг. (АЛА), *будзьян* м. – Смален.р. (Дабравольскі), *бацян* м. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ПБ, ЭПБ), *боцян* м. – Гродз. (ЛАБНГ, АЛА), *чарнагуз* м. – зах.-бран. р. (Растаргуеў, ПБ, ЭПБ), *гарус* м. – Барыс. (ПБ), *весялец* м. – Лельч., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *весялок* м. – Капыл. (АЛА), *вясёлка* м. – Карэл. (Сцяшковіч), *аіст* м. – Ветк., Хоц., Арш. (ЛАБНГ), *клекатун* м., *клекятун* м. экспр. – Кам., Стол., Жытк. (ЖНС, ТС), *кляпечка* ж. экспр. – Стол., Жытк. (ТС).

**Чорны бусел**: *гайсцер* м., *гасцер* м., *гайстар* м., *айсцер* м. – усх.-пал.р. (ЛАБНГ, ТС, СПЗБ, ЛП, ПБ, ЭПБ), *гарус* м. – мясц. (ЭПБ), *гайнік* м. – Лун. (ЛАБНГ, Шаталава), *баравік* м. – Стол. (ЛП), *чарнабусел* м. – Стол. (ЛП), *чорны бусел* (*бацян*) – Воран., Слуц., Вілен. р. (СПЗБ, ПБ), *лясны* (*дзікі*) *буська* (*бусень*) – Стол., Малар. (ЛП, ЭПБ).

**Самка**: *бусліха* ж. – у межах назвы *бусел* (Мат.апыт.), *бусчыха* ж. – Лях., Івац., Стол., Пін. (ЛАБНГ, ТС, Шаталава), *бусліца* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *буцяніха* ж. – Мсцісл., Бял. (Юрчанка, Яўсееў), *бацяніха* ж. – Ашм. (ЛАБНГ).

**Бусляня**: *бусляня* н., *буслянятка* н. памянш. – Гл., Жытк., Ганц. (СПЗБ, ТС, Янкоўскі), *бусчаня* н. – усх.-пал.р. (ТС, Мат. апыт.), *буцянё* н. – Чав. (ЛАБНГ), *буцянёнак* м. – паўн.-усх. д. (Мат. апыт.).

## Валасянка (мухалоўка, а таксама жоўтая пліска, аўсянка).

Пеўчая невялікая птушка атрада вераб'іных з шараватым або шаравата-бурым апярэннем і доўгай тонкай дзюбай.

*валася́нка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП), *валасня́нка* ж. – Жытк. (ЖС), *валася́начка* ж. – Лаг., Лун., Лоеў. (СЦБ, ПБ, ЭПБ, Янкова), *валася́ніца* ж. – мясц. (ПБ), *валасе́нь* м. – Стаўб. (СЦБ), *валасе́нчык* м. – Лун. (ПБ, ЭПБ), *валасе́нік* м. – Уздз. (СЦБ).

**Варакушка**

Пеўчая птушка атрада вераб'іных з зеленавата-шэрым або бурым апярэннем і ярка-сінім горлам і грудзямі (у самца).

*падсалаве́й* м. – Стаўб., Уздз. (СЦБ), *салаўёў па́рабак* м. – Мсцісл. (Мат. апыт.).

**Варона**

Аселая птушка сямейства крумкачовых з шэра-чорным апярэннем.

*варо́на* ж. – агульн. (ЛП, Бялькевіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *вараня́ка* ж. – паўдн.р. (ЛП), *вараня́к* м. – Ганц. (СПЗБ), *га́йваран* м. – Івац. (АЛА).

**Верабей**

Невялічкая птушка з карычнева-шараватым апярэннем, якая жыве паблізу чалавека.

*верабе́й* м., *верабе́йчык* м. памянш. – паўн.-усх. д., спарадычна ўсх.з. (ЛАБНГ, АЛА, Шатэрнік, Бялькевіч), *варо́бух* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, ЛП), *верабя́к* м. – Шчуч. (З нар. сл.), *вру́баль* м. – Воран. (Мат. Гродз.), *ерабе́й* м. – Карэл. (НЛ), *арабе́й* м. – Гродз. р. (АЛА), *арабу́шак* м. – Іван., Бяроз. (ЛАБНГ), *арабе́йка* м. – Маз. (ЛП, ПБ), *арабе́ек* м. – Лун. (Шаталава), *арабе́шак* м. – Пін. (АЛА, НЛ, Шаталава), *рабу́шак* м., *рабу́шчык* м. – Драг. (ЛАБНГ), *гарабе́й* м. – Паням. р. (ЛАБНГ), *гарабу́х* м. – Ганц., Малар. (ЛАБНГ), *гарабе́шак* м. – Пін. (АЛА, НЛ, Шаталава), *гарабо́к* м., *гарабу́чык* м. – Івац. (АЛА, Мат. апыт.), *шво́раб* м. – Бяроз., Кобр., Драг. (ЛАБНГ, АЛА), *шварабо́к* м. – Бяроз. (ЛАБНГ), *канапля́нік* м. – паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, АЛА, СЦБ, ЖС, Мат.Гом., ЛП), *канаплю́к* м. – Акц., Рэч., Петр. (АЛА, Мат.Гом.), *канапля́нка* ж. – Стол., Лельч., Петр., Калінк., Маз. (Мат. Гом., ЛП), *прася́нік* м. – Стол., Лельч., Маз. (ЛАБНГ, ЛП), *прасяню́к* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *сме́тнік* м. – Пух., Івац. (ЛАБНГ), *смятню́к* м. – Лельч.

(НЛ), *смяцюх* м. — Слон. (ЖНС), *сявец* м. — Капыл. (ЛАБНГ), *сярак* м. — Петр. (ЛАБНГ), *шарэйчык* — Іўеў. (Сцяшковіч), *падпаветнічак* м. — Лоеў. (Янкова), *падстрэшнік* м. — Карэл. (Сцяшковіч), *жыд* м., *жыдок* м., *жыдзюк* м. — паўдн.-усх. з. (ТС, Мат. Гом.); **палявы верабей**: *юрчык* м. — Маз. (ЛП), *мазурак* м. — Стол. (ЛП).

## Галка

Аселая сярэдняй велічыні птушка сямейства крумкачовых з чорным апярэннем цела і шэрым—шыі і галавы.

*галка* ж. — агульн., за выключэннем паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Бялькевіч), *галіца* ж. — Маст., Валож., Лун., Стол. (ЛАБНГ, СЦБ, ТС, ЛП, НС, Шаталава, Насовіч, Станкевіч), *галец* м. — Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *каўка* ж., *калка* ж. — паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал., Сл. Гродз., ЖС, Каспяровіч, Сцяшковіч, Шаталава, Насовіч).

## Глушэц

Лясная буйная птушка сямейства цецерукоў з пярэстым апярэннем.

*глушэц* м. — віц.-маг. г., усх.-пал.р. (СПЗБ, ЛП, ПБ, Бялькевіч, Насовіч, Янкоўскі, Станкевіч), *глусец* м. — мясц. (НЛГ), *глушак* м. — Паст., Жытк. (СПЗБ, ТС), *глухар* м. — Стол. (ЛП), *глушэнь* м. — Смален. р. (Дабравольскі), *глушмень* м. — Краснап. (Бялькевіч), *глуст* м. —Жытк. (Мат. апыт.), *турлушка* ж. — усх.-маг.р. (Бялькевіч), *когут* м. — мясц. (ПБ, ЭПБ).

## Голуб

Птушка сярэдняй велічыні з пераважна шызым розных адценняў апярэннем.

*голуб* м. — агульн., за выключэннем паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, АЛА, Бялькевіч), *галуб* (*алуб*) — пераважна паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Станкевіч), *галубец* м. — усх.-маг.р., спарадычна ў іншых месцах (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ЛП), *галубок* м. — зах.-пал. г. і поўдзень гродз.-бар. г. (ЛАБНГ, АЛА).

**Дзікі голуб туркаўка**: *туркаўка* ж. — усх. -пал.р., паўн. р. (ТС, ЛП, Мат. Гом., Каспяровіч, ПБ), *турукалка* (*ту-*

*рукóўка*) ж. — Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *тýрчалка* ж., *тýрчык* м. — Светлагор. (Мат. Гом.), *турóк* м. — мясц. (Станкевіч), *турлýшка* ж. — Смален.р. (Дабравольскі), *гарля́нка* ж. — Жытк. (ТС), *гарлячóк* м. — мясц. (НЛГ), *гóлуб лазавы́* — Лельч. (ЛП).

**Дзікі голуб вяхір**: *вяцю́г* м. — Чэрык. (ЛАБНГ).

**Дзікі голуб клінтух**: *клінтýх* м. — Краснап. (Бялькевіч).

**Самка**: *галýбка* ж. — агульн. (ЛАБНГ, АЛА, Бялькевіч, Янкова), *гóлубіца* ж. — Гродз. (АЛА), *галýба* ж. — Смален.р. (Дабравольскі).

## Грак

Пералётная птушка, падобная да вароны, з чорным бліскучым апярэннем.

*грак* м. — асн. мас.г. (СПЗБ, ЛП, Бялькевіч, Шатэрнік, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, ПБ), *грач* м.— Стол. (ЛП), *гáйваран* м. — Беластоц. р. (СПЗБ, Насовіч), *крумклáн* м. — Вілен.р. (СПЗБ), *крук малы́* — Стол. (ЛП),*чорная вараня́ка* — Малар., Драг., Лельч., Маз. (ЛП).

**Птушаня ў гракоў**: *грачаня́* н., *грачанё* н., *грачанёнак* м. — адпаведна паўдн.-зах.д., сярэд.-бел. г., паўн.-усх. д., *гракавянё* н.— Карэл. (Сцяшковіч).

## Гусь

Буйная вадаплаўная дзікая і свойская птушка.

**Агульная назва**: *гýсі* мн., *гусéнькі* мн. памяншь.-ласк. — агульн. (АЛА, СПЗБ, Мат.Гродз., Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *гы́ні* мн. — мясц. (Насовіч, Станкевіч), *цéшкі* мн. ласк.—Краснап. (Мат. Маг.), *гагатá* мн. зборн. фалькл. (Н. сл-сць), *гéгі* мн. 'парода гусей' — Дзярж., Пін., Рэч., Кір. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лабэ́ндзі* мн. 'парода гусей з гузамі над дзюбаю, японскія гусі' — Шчуч. (СПЗБ).

**Самка**: *гусь* ж. — паўдн.-зах.д., сярэд.-бел.г. (АЛА), *гýсіна* ж. — віц.-маг. г. (ДАБМ, АЛА, Мат. Маг., Шаталава, Яўсееў), *гусíна* ж. — спарадычна паўн.-зах.з. (АЛА), *гусінá* ж. — Бых. (Нар. сл-сць), *гýсыня* ж. — Лёзн., Слаўг. (АЛА), *гýска* ж., *гýсачка* ж. памяншь.-ласк. — паўн.-зах. з., зах.-пал. г., паўдн.-усх. з. (АЛА, ЛП, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *гуся́* ж.

– паўн. р., Калінк., Вілен. р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ), *гусíха* ж. – Асіп. (АЛА), *гýсеніца* ж. – Лёзн. (АЛА), *гы́лька* ж. ласк. – Бял. (Яўсееў).

**Самец**: *гусáк* м., *гусачóк* м. памянш. — агульн. (АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.).

**Гусяня**: *гусяня́* н., *гусяня́тка* н. памянш.— паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз.), *гусянё* н. – сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз.), *гусё* н. – Іўеў. (Мат. мін.-мал.), *гусянёнак* м. – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, АЛА, Насовіч, Яўсееў, Мат. апыт.), *гусёнак* м. – спарадычна паўн.-усх.д., Пін. (ЛАБНГ, АЛА), *гусяню́к* м. – Гродз., Воран.(ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз.), *гусянóк* м. – Пін. (ЛАБНГ, АЛА), *гусю́к* м., *гусяня́к* м. – Воран., Вілен. р. (АЛА, СПЗБ, Шаталава), *вулянёнак* м. – Круп. (СЦБ), *цéцік* м. – Бял. (Яўсееў), *зюляня́ты* мн., *зю́ленькі* памянш.-ласк. – Лаг. (СЦБ).

## Дзяркач

Лугавая невялікая птушка сямейства пастушковых з характэрным скрыпучым крыкам.

*дзяркáч* м. – паўдн. р., Ушацк., Докш., Краснап. (ЛАБНГ, ЛП, Янкоўскі, Янкова), *дзяргáч* м. – паўн. р. (ЛАБНГ, СЦБ, ЭПБ, ПБ), *дзяргýн* м. – мясц. (ПБ, ЭПБ), *драч* м. – усх. з., паўдн. р. (ЛАБНГ, ЛП, Бялькевіч, Каспяровіч, Янкова, Янкоўскі, Яўсееў, Насовіч), *хрусцéль* м. – мясц. (Насовіч), *карасцёлка* ж., *карасцялíца* ж. – Малар. (ЛП), *жáгарыс* м. – Вілен. р. (СПЗБ).

## Дзяцел

Лясная птушка з доўгай моцнай дзюбай, якая здабывае корм з-пад кары дрэў.

*дзя́цел* м., *дзятлíк* м. памянш. – агульн. (АЛА, ЛП, Бялькевіч, Станкевіч), *дзя́цель* м. – Гродз. р., Вілен. р. (СПЗБ), *дзя́хцел* м., *дзяхцёл* м. — зах.-пал.г. (АЛА), *дзяхтоль* м. – Беластоц. р. (СПЗБ), *яцёл* м. – Кам., Драг. (АЛА, ЛП, ЖНС), *стукáч* м. – Астр. (Сл. Гродз.), *дýблік* м. – Іўеў. (Сцяшковіч).

**Жаўна**: *жаўнá* ж. – агульн. (СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. мін.-мал., ЛП, ПБ, Янкова, Гарэцкі, Насовіч), *дзя́цел чóрны* – мясц. (ЭПБ).

## Драфа

Буйная палявая птушка атрада жураўлепадобных з доўгай шыяй і моцнымі нагамі.

*крóхва* ж. – Добр. (ПБ), *дроп* м. – мясц. (ПБ, Насовіч), *гроп* м. – мясц. (Насовіч).

## Дрозд

Лясная пеўчая птушка атрада вераб'іных.

*дрозд* м. – агульн. (ЛП, Мат. апыт.), *касуцéнь* м. 'чорны дрозд' – Драг., Маз. (ЛП).

## Жаваранак

Палявая невялікая пеўчая птушка атрада вераб'іных з чубком на галаве.

*жáваранак* м.– паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *жáваранка* ж. – пераважна паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Станкевіч), *жаварóнка* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *жáвараначка* ж. – Драг. (ЛП), *жáрванак* м. – Асіп., Гл., Акц., Светлагор., Маз. (ЛАБНГ), *жáўранак* м. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ), *жáўнарак* м. –Крыч., Касц. (АЛА), *жаўрóнак* м. –Лельч. (Мат.Гом.), *жаўрáнік* м. – Рас. (ЛАБНГ), *жáрванка* ж. – Старадарож., Калінк. (ЛАБНГ, АЛА), *жáрнаўка* ж. – Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *жáўранка* ж. – спарадычна паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, СЦБ, Каспяровіч, Станкевіч), *жáўнарка* ж. – Беш., Капат., Лельч. (АЛА), *жаўрýк* м., *жаўручóк* м. – Гродз. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Станкевіч), *жаўрóнак* м. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Н. сл-сць), *скаўрóнак* м. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Н. сл-сць), *скарóнка* ж. – Ашм. (ЛАБНГ), *гарададóлік* м. – Лун. (Шаталава), *гарадóк* м. – Лельч. (ЛП), *целявóз* м. – Рэч. (ЛАБНГ), *трапятýха* ж. – Маз. (ЛП).

## Жаўтабрушка (жоўтая пліска, а таксама аўсянка, амялушка)

Невялікая пералётная пеўчая птушка з ярка-жоўтым падбрушшам і доўгім хвастом.

*жаўтабрýшка* ж. – паўдн.р., Лід., Навагр. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, ПБ, НЛГ), *жаўтапýзік* м. – Стол. (ЛП), *жаўтагрýдка* ж. – Маз. (ЛП), *жаўтýшка* ж. – Браг. (Мат. Гом.), *жаўтыр* м. – Светлагор. (Мат. Гом.).

## Журавель

Балотная буйная пералётная птушка з доўгімі нагамі і шыяй, з доўгай прамой дзюбай.

*журавéль* м., *журавéй* м., *жóравель* м., *журáўль* м. – агульн. (СПЗБ, ТС, ЛП, Бялькевіч, Яўсееў, ПБ, Мат. апыт.), *жóраў* м. – віц.-маг. г. (Бялькевіч, Гарэцкі, Каспяровіч, Насовіч, ПБ, ЭПБ), *журáў* м., *жýраў* м. — паўн.-зах.з. (СЦБ, Сл. Гродз., Насовіч, ПБ, ЭПБ), *жур* м. – усх.-пал. р. (ТС), *вясéлік* м., *весялéц* м., *васілéц* м. – усх.-пал.р. (ТС, ЛП).

**Самка**: *журáўка* ж. – усх.-пал.р. (ТС, НЛГ), *жураўлíха* ж. – Мсцісл., Чач. (Мат. апыт.).

## Зязюля

Лясная сярэдняй велічыні пералётная птушка, якая звычайна не ўе гнязда і кладзе яйкі ў чужыя гнёзды.

*зязюля* ж., *зязюлька* ж. памянш.-ласк. – агульн. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Станкевіч), *зазýля* ж. – зах.-пал. г. (АЛА, ЛП, Шаталава), *загзýля* ж. – Пін. (ДАБМ), *заўзюля* ж., *заўзюлька* ж. памянш.-ласк., *заўзуля* ж., *заўзулька* ж. памянш.-ласк. – сл.-маз. г. (ДАБМ, АЛА, НЛГ, ЛП, Янкоўскі, Шаталава), *дзяўзюля* ж. – Капат. (АЛА), *кукýля* ж., *кукýла* ж., *кукýлечка* ж. памянш.-ласк. – пераважна пол.-мін. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, НЛГ, Мат. Гом., Сцяшковіч, Янкоўскі, Яўсееў), *кукýлка* ж. – спарадычна пол.-мін. г. (ДАБМ, АЛА, Шаталава), *кукýлька* ж. – Барыс., Краснап. (АЛА, Бялькевіч), *кýкаўка* ж. – Рэч. (НЛГ), *кукóўка* ж. – Свісл. (Цыхун), *свістýха* ж. – Смарг. (Сцяшковіч).

## Івалга

Пеўчая невялікая птушка з залаціста-жоўтым або зеленаватым апярэннем.

*івалга* ж. – Стол., Маз., Мсцісл. (ЛП, Мат. апыт.), *íлава* ж. – Стол. (ЛП), *íвал* м. – Светлагор., Лельч. (Мат. Гом.), *íвень* м. – Маз. (ЛП), *ёўкала* н. – Стол. (ТС), *жаўнá* ж. – паўдн.р. (ПБ).

## Індык

Самая буйная свойская птушка атрада курыных, з вялікім разгалістым хвастом.

**Агульная назва**: *індыкі* (*гіндыкі*) мн. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Янкоўскі, Бялькевіч, Насовіч, Мат. апыт.), *андыкі* (*гандыкі*) мн. – паўдн. р. (ЛАБНГ, ТС, Шаталава), *ендыкі* (*вендыкі*) мн. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ТС, Мат. апыт.), *юндыкі* мн. – спарадычна ўсх. з. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *індзюкі* мн. спарадычна ўсх.з., Дзятл., Маст., Нясв., Кобр. (ЛАБНГ), *андзюкі* (*гандзюкі*) мн. – спарадычна зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *індзюры́* мн. – Брэсц. (ЛАБНГ).

**Самец**: *інды́к* (*гінды́к*) м., *анды́к* (*ганды́к*) м., *янды́к* (*вянды́к*) м., *юнды́к* м., *індзю́к* м., *андзю́к* (*гандзю́к*) м., *індзю́р* м. – мясц. (Мат. апыт.).

**Самка**: *інды́чка* ж., *анды́чка* (*ганды́чка*) ж., *янды́чка* (*вянды́чка*) ж., *юнды́чка* ж., *індзю́чка* ж., *індзю́шка* ж., *індзю́ка* ж. – мясц. (Мат. апыт.).

**Індычаня**: *індычаня́* н., *андычаня́* (*гандычаня́*) н., *індзючаня́* н. – паўдн.-зах.д., *яндычаня́* н., *андзючаня́* (*гандзючаня́*) н. – зах.-пал. г., *індычанё* н., *андычанё* н., *індзючанё* н. – сярэд.-бел.г., *індычанёнак* м., *індзючонак* м., *індзюшо́нак* м., *індзюшанёнак* м. – паўн.-усх. д. (СПЗБ, ЛП, Мат. апыт.).

## Канарэйка

Пеўчая птушка з ярка-жоўтым апярэннем, больш вядомая як пакаёвая.

*канарэ́йка* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *кана́рка* ж., *канаро́к* м. – мясц. (Насовіч).

## Каня (канюк)

Драпежная птушка сямейства ястрабіных з бурым апярэннем спіны і стракатым падбрушшам; дакучлівы манатонны крык яе нагадвае слова "піць".

*ка́ня* ж. – цэнтр.з. (ЛП, Мат. апыт.), *ка́нюх* м. – усх.-маг.р. (Бялькевіч, Мат. апыт.), *каню́х* м. – Маст. (СПЗБ), *ко́нюх* м. – Лун. (Шаталава), *каву́р* м. – паўн.-зах.з. (СПЗБ), *са́рыч* м. – мясц. (ЭПБ), *мышало́ў* м., *мышае́д* м. – Стол. (ЛП).

## Каралёк

Самая маленькая лясная птушка з шаравата-зялёным пер'ем на целе і аранжавым або жоўтым цемем.

*каралёк* м. — Паст. (СПЗБ), *вузёлчык* м. — Нясв. (Мат. апыт.), *блыха́* ж., *блы́шка* ж. — Стол. (ПБ), *вало́ўе во́ка* — Стол. (ПБ).

## Качка

Вадаплаўная дзікая і свойская птушка з шырокай пляскатай дзюбай.

**Агульная назва**: *ка́чкі* мн. — паўдн.-зах.д., сярэд.-бел.г. (ДАБМ, АЛА, Мат. апыт.), *ву́ткі* мн. — паўн.-усх.д. (ДАБМ, АЛА, Мат. апыт.), *ву́твы* мн. — усх.-пал.р. (ТС, Янкоўскі, Янкова).

**Самка, качка**: *ка́чка* ж. — паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., Беластоц. р., Вілен. р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП), *ву́тка* ж. — паўн.-усх.д. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Янкова, Мат. апыт.), *ву́тва* ж., *ву́таўка* ж. — заходняя частка ўсх.-пал. р. (ДАБМ, АЛА, ТС, ЛП), *ву́ціца* ж. — Гом., Лоеў. (НЛГ, Янкова), *ву́ткаліца* ж. — Стол. (ТС), *кра́хаўка* ж. эмац. — Ушац. (ЖС), *ву́ця* ж. ласк., *ву́ля* ж. ласк. — агульн. (НЛГ, ТС, Янкова, Мат. апыт.), *го́гліца* ж. ’самка ў дзікіх качак’ — Жытк. (ТС), *забі́ранка* ж. ’дзікая качка-наседка, ад якой забралі яйкі’ — Стол. (ТС).

**Самец, качар**: *ка́чар* м. —паўночна-заходняя частка паўдн.-зах.д.,сярэд.-бел.г. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз., ЛП), *кача́р* м. — Шчуч., Слон. (ЛАБНГ), *ка́чур* м. — сл.-маз. г. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС, ЛП, Янкова, Янкоўскі, ПБ), *качу́р* м. — паўднёва-заходняя частка Мін.р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, З нар. сл., Н. сл-сць, Янкоўскі), *селязе́нь* м., *селязе́нька* м. ласк. — паўн.-усх.д., спарадычна ўсх.-пал. р. (ЛАБНГ, АЛА, ЛП, Янкова), *се́лезень* м. — спарадычна паўдн.р. (ЛАБНГ, АЛА, ЛП, Янкова), *селязён* м. — Слуц., Стол. (ЛАБНГ, ТС), *се́лег* (*се́люх*) м. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, НЛ, ЛП, Янкова), *зелязе́нь* м. — спарадычна ўсх.-пал.р., Беш. (ЛАБНГ, АЛА, НС, Янкова), *вуця́к* м., *ута́к* м. — паўн.р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, НС, Каспяровіч), *го́галь* м. — Стол. (ТС).

**Качаня**: *качаня́* н., *качаня́тка* н. памянш. — паўдн.-зах.д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ЛП), *качараня́* н., *качараня́тка* н. памянш. — Карэл., Навагр. (ЛАБНГ, АЛА, НЛ), *качанё* н., *качанётка* н. — сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, АЛА), *качачанё* н. — Пух. (АЛА), *качаранё* н. — Валож. (ЛАБНГ, АЛА), *качу́к* м. — Воран. (ЛАБНГ, АЛА, Шаталава), *ка-*

*чанюк* м. — Гродз. (ЛАБНГ, АЛА), *вуцяня́* н., *вуцяня́тка* н. памянш. — спарадычна ўсх.-пал. р., Слуц., Бабр., Іўеў., Валож. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Мат. Гродз., СЦБ, Янкова), *вуцянёнак* м. — паўн.-усх. д., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, АЛА, Растаргуеў), *вуцёнак* м. — спарадычна паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, АЛА), *вуцю́к* м. — Пін., Стол. (ЛАБНГ, ЖС), *ву́цька* ж. — Чэрв. (СЦБ), *гарба́ч* м. 'качаня-падлётак' — Стол. (ТС).

**Назвы дзікіх качак: качка-крыжанка:** *крыжэ́нь* м., *кры́жань* м. — Гом.р. (Мат. Гом., ПБ), *крыжа́к* м. — Буда-Каш., Жытк. (Мат. Гом, НЛГ, ПБ), *кры́жня* ж. — Гл., Калінк., Петр. (Янкоўскі, Мат. Гродз.), *крыжа́ха* ж. — Лоеў. (Янкова), *кра́каўня* ж. — Брасл. (СПЗБ), *кра́хаўка* ж. — Стол. (ТС), *кра́чка* ж. — зах.- бран. р. (Растаргуеў), *ква́ква* ж. — мясц. (Насовіч); **качка-чыранка**: *чыра́нка* ж. — Брасл. (СПЗБ), *цыра́нка* ж. — Гродз. (3 нар. сл., Цыхун, ПБ, ЭПБ), *чы́рка* ж. — усх.-пал. р. (ТС, ЛП, НЛ, ПБ, ЭПБ, Насовіч), *чыры́ца* ж. — Лоеў. (Янкова), *чыры́та* ж. — Стол. (НЛ, ЛП), *чырэ́ц* м. — Стол. (ЛП), *чыро́к* м. — усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *чыручо́к* м. — Малар. (ЛП), *плiку́н* м., *пліску́нчык* м. — паўдн. р. (Мат. Гом, ПБ, ЭПБ); **качка шэрая**: *неразнь* ж., *неразня* ж. — Браг. (ПБ); **качка-шыраканоска**: *лапано́ска* ж. — Слуц., *травянка* ж. — Браг., *саксу́н* м. — на Дняпры (ПБ), *чо́рная ву́тва* — Стол. (ЛП); **качка-нырэц**: *нырэ́ц* м. — Мсцісл. (Мат. апыт.), *нурэ́ц* м., *нарэ́ц* м. — Лельч. (ЛП), *нурча́к* м. — Малар. (ЛП); **нырэц чырвонагаловы**: *сіва́к* м., *жылéц* м. — Пін., *чэрнь сівая* (*сіваплечая*) — Браг. (ПБ); *чарну́шка* ж. 'нырэц белавокі' — мясц. (ПБ), *нырэ́ц -хахлач* 'нырэц хахлаты' — Віц. (ПБ), *свірок* м. 'турпан' — мясц. (ПБ); **качка-гогаль**: *вогаліца* ж., *вагаліца* ж., *вогаль* м. — паўдн. р. (ПБ).

## Кнігаўка

Невялікая лугавая і палявая птушка з высокім чубком на галаве.

*кнігаўка* ж. — пераважна паўн.-усх.д., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч, Станкевіч, ПБ), *кнíга* ж. — паўдн.-зах. д., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. Гом., НЛ, Нар. сл-сць, 3 нар.сл., ЛП, Шаталава, Янкоўскі, ПБ, ЭПБ), *кнігавіца* ж. — Маст. (ЛАБНГ), *кнігíкаўка* ж. — Беш. (НС), *кігíкаўка* ж. — Арш. (ЛАБНГ), *кігíчка* ж. — Бых. (ЛАБНГ), *кігіка* ж. — Жыт. (ПБ, ЭПБ), *кілічка* ж. — Шчуч. (Сцяшковіч), *кучаёк* м. — Чач. (ЛАБНГ), *ка́ня* ж. — поўнач паўн.-усх.д. (ЛАБНГ), *каню́х* м. — Шкл., Мсцісл. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *кíрык* м. — Касц. (ЛАБНГ),

*кнёўка* ж. – Астр. (Мат. Гродз.), *кібіс* м. – Віц., Лёзн., Шум., Мсцісл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч), *пігаўка* ж., *пігалка* ж., *пікаўка* ж. — паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Сцяшковіч), *пігіца* ж., *пііца* ж. – Ашм., Воран., Іўеў., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сцяшковіч), *півіка* ж. – Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пімпа* ж., *пімпя* ж. – Брасл., Астр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сцяшковіч), *чыгікаўка* ж. – Лід. (Сцяшковіч), *чаіца* ж. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ), *чайка* ж. — спарадычна ўсх.-маг. р., паўдн. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Н. сл-сць, ЭПБ, ПБ), *чыбіс* м. – Брасл. (СПЗБ), *чубар* м. – Шчуч. (Сцяшковіч), *пiлiпéц* м. – Брасл. (ЛАБНГ).

## Коршак (ястраб)

Драпежная птушка з кароткай кручкаватай дзюбай і доўгімі вострымі кіпцюрамі. Мае бурavата-рыжае апярэнне.

*каршýн* м. – асн. м. г. ( ДАБМ, СПЗБ, АЛА, ЛН, ЛП, ПБ, ЭПБ, Бялькевіч, Шаталава, Насовіч), *кóршун* м. — спарадычна ўсх.з. (ДАБМ, ЛП), *гаршýн* м. – Чэрв. (НП), *кóршак* м., *каршáк* м., *каршачóк* м. – паўдн.-усх. з., Гродз. р., Беластоц. р. (ДАБМ, СПЗБ, ЛП, Янкова, ПБ), *каршýк* м. – Віц. р., спарадычна паўдн.-усх. з. ( ДАБМ, АЛА), *я́страб* м. – пераважна ўсх. з. (ДАБМ, АЛА, ЛП), *ястрабéц* м., *астрабéц* м., *страбéц* м. – Навагр., Малар. (АЛА, ЛП), *шуля́к* м. – зах.-пал. г., поўдзень Гродз. р. (СПЗБ, АЛА, Мат. Гом., ЛП, Сцяшковіч), *шулёк* м. – Бар. (ДАБМ, АЛА), *шуля́ка* м. – Брэсц., Драг., Стол. (ДАБМ, ЛП), *шуля́н* м., *шулéнь* м. – Брэсц., Петр. (ДАБМ, АЛА), *шулáш* м. – Івац. (ДАБМ), *вагáнас* м. – Воран. (СПЗБ), *шулячóк* м. – мясц. (ЭПБ), *шулёнак* м. – мясц. (ЭПБ).

## Крумкач

Чорная буйная птушка, якая жывіцца ў асноўным падлай.

*крумкáч* м. – пераважна цэнтр. з., Латгал. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, ЛП, Бялькевіч, Станкевіч, ПБ), *кранкáч* м. – Астр. (ЛАБНГ), *краўкáч* м. – Івац. (ЛАБНГ), *крумкáль* м. – Светлагор. (Мат. Гом.), *крумчáк* м. – мясц. (НЛГ), *грумкáч* м. – Докш., Барыс.(ЛАБНГ), *грумгáч* м. – Шарк., Мядз., Віл., Лаг. (ЛАБНГ, СЦБ), *грунгáч* м., *грункáч* м. – паўн. р., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі), *грымкáч* м. – Маг. (ЛАБНГ), *гругáч* м., *грукáч* м. – Лаг. (Мат. мін.-

мал., СЦБ), *груга́н* м. – пол.-мін. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, Каспяровіч), *гурга́н* м. — Лаг. (СЦБ), *груга́л* м. – Мядз. (Мат. мін.-мал.), *гру́ган* м. – Гарад. (ЛАБНГ), *грун* м. – мясц. (Станкевіч), *крук* м. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г., спарадычна паўн.-зах.з., Чашн., Тал., Лёзн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, СЦБ, ЛП, Мат. Гом., ПБ, ЭПБ, Шаталава, Насовіч), *грук* м. – Мядз. (ЛАБНГ), *во́ран* м. – спарадычна ўсх.з. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ПБ, ЭПБ), *вараня́к* м. – Пін. (АЛА), *гаўро́н* м. – Іўеў. (ЛАБНГ), *грак* м. – Воран., Дзятл., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ругаўё* н. зборн. — Віл. (СПЗБ).

## Круцігалоўка

Маларухомая невялікая птушка з шэрым апярэннем, якая пры спуджванні ўтварае арыгінальныя рухі шыяй і шыпіць.

*круцігало́вец* м. – Віц. р. (ПБ, ЭПБ), *крутагало́ў* м. – Краснап. (Бялькевіч), *крутагало́вік* м. – Стол. (ЛП, ЭПБ), *крутагало́ўка* ж. – Стол., Бял. (ЛП, Яўсееў), *крутагало́вец* м., *крутагало́віца* ж. – Пін., Стол. (ЛП, ПБ, ЭПБ), *круташы́йка* ж. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *крута́н* м. – Браг. (Мат. Гом.), *ку́йка* ж. – Слуц. (ПБ, ЭПБ).

## Курапатка

Палявая сярэдняй велічыні птушка, падобная на курыцу.

*курапа́тка* (*крупа́тка, курпа́тка, карупа́тка*) ж. – агульн., акрамя ўскраіны зах. з. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, ПБ), *курапа́тва* ж. – зах.-пал. г. (АЛА, ЛАБНГ, ЛП, Насовіч), *курапа́шка* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *курапа́та* ж. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Сл. Гродз., НЛ, Шатэрнік), *куро́пка* ж. – Лід. (Сл. Гродз.), *курапа́* ж. – Дзятл. (СПЗБ), *ку́рка* ж. – Маст. (Сл. Гродз.), *ку́рачка* ж. – Лельч. (ЛП, Мат. Гом.), *дзі́кая ку́рка* — Крыч. (АЛА), *пячо́рка* ж. – Хойн., Ельск. (Мат. Гом.).

## Куры

Свойскія птушкі, якіх разводзяць для атрымання яек і мяса.

**Агульная назва**: *ку́ры* мн. – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *галагу́цкія ку́ры* 'парода вялікіх курэй' – Гл., Жытк. (ТС,

Янкоўскі), *галашы́йкі* мн. 'парода вялікіх курэй з голай, без пер'я, шыяй' – Стаўб. (НС), *мінорачкі* мн. 'парода маленькіх курэй' – Дзярж. (СЦБ), *тэ́кінскія* ку́ры 'парода белых курэй' – Стол. (ТС), *баху́рчыкі* мн. 'парода курэй' – Вілен. р. (СПЗБ).

**Самка, курыца**: *ку́рыца* ж. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г., сярэд.-бел.г., паўн.-усх.д., за выключэннем яго паўночна-заходняй часткі (АЛА, СПЗБ, Бялькевіч), *куры́ца* ж. – паўночна-заходняя частка паўн.-усх. д., Вілен. р., Латгал. р. (АЛА, СПЗБ, СЦБ, Мат. апыт.), *курыца́* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *ку́рца* ж. – Навагр. (ЖС), *ку́ра* ж. – сл.-маз. г., Круп., Воран. (АЛА, СПЗБ, СЦБ, ЖНС, Янкова, Янкоўскі), *кура́* ж. – Верхнядзв., Чэрв., Раг., Калінк., Браг. (АЛА, СПЗБ), *курлі́га* ж. экспр. – Стаўб. (СЦБ), *ку́рка* ж. ласк. – агульн. (Мат. апыт.), *пы́лька* ж., *пы́рка* ж. ласк. – усх.-маг.р. (Мат. апыт.), *ту́тачка* ж. памянш.-ласк. – Бял. (Яўсееў), *ку́рка-сакату́рка* (*сакацёрыка*) ж. фалькл. – Рэч. (НЛГ), *тарачу́шка* 'сакатуха' – Бял. (Яўсееў); **курыца, якая нясецца**: *нясу́шка* ж., *нясу́шчая ку́рыца* (*ку́ра*) — агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *нясу́ша* ж. – Кругл. (ЛАБНГ), *нясу́шчанка* ж. – Ваўк. (ЛАБНГ), *нясу́ха* ж. – Пін. (ЛАБНГ), *нёска* ж. – Іўеў., Шчуч. (ЛАБНГ), *яйцано́ска* ж. – Тал. (ЛАБНГ), *кладу́шчая ку́рыца* – Гарад. (ЛАБНГ); **курыца, якая выседжвае куранят або водзіць іх**: *квакту́ха* ж., *квахту́ха* ж. – агульн. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, ЖС, Бялькевіч, Мат. апыт.), *квактуха́* ж., *квахтуха́* ж. – гродз.-бар. г. (АЛА), *ква́ктаўха* ж. – Леп. (Мат. апыт.), *кваку́ха* ж. – усх.-маг. р. (ДАБМ, АЛА, Бялькевіч, Мат. Гом., Яўсееў, Насовіч), *кво́кля* ж. – Лельч. (ДАБМ, АЛА, НЛ), *кво́кша* ж. – усх.-пал.р., Мсцісл., Уздз. (ДАБМ, Юрчанка), *кво́чка* ж. – спарадычна ўсх. з. (ДАБМ, Мат. Гом.), *ква́тарка* ж. – Браг. (Мат. Гом.), *дзёту́ха* ж. — паўн.-зах.з., Чэрв. р., Бярэз.р., Гродз. (ДАБМ, АЛА, Мат. мін.-мал., Шатэрнік, Янкова, Станкевіч), *дзяту́ха* ж. – Пух., Лоеў. (СЦБ, Янкова), *дзяці́ніца* ж. – Круп., Ельск. (ДАБМ), *дзяці́нніца* ж. – Віц. (Каспяровіч), *дзяці́ха* ж. – Пол. (ДАБМ), *дзяці́нуха* ж. – паўн. р. (АЛА, СПЗБ, Каспяровіч, Станкевіч), *дзетаво́духа* ж. – усх.-пал.р., Чэрв. (ДАБМ, СЦБ, ТС, Мат. мін.-мал.), *дзецівo̍дка* ж. – Валож. (ДАБМ), *дзяці́вадка* ж. – Гом., Лоеў. (ДАБМ), *дзіцявo̍дзіца* ж. – Барыс. (ДАБМ), *куравo̍дка* ж., *курo̍вадка* ж. – гродз.-бар. г. (ДАБМ, АЛА, СЦБ, СПЗБ, Мат. дыял. сл.), *курава́дка* ж. – Смарг. (ДАБМ), *курчавo̍дка* ж. – Воран., Мін. (ДАБМ, АЛА, Шаталава), *куравo̍дзіха* ж. – Гл. (Янкоўскі), *куравo̍дніца* ж. – Мін., Нясв. (ДАБМ), *кураня́тніца* ж. –

цэнтр. з. (ДАБМ, АЛА, ЖНС, Мат. Гом., НС, Янкоўскі), *кураня́туха* ж. – Слуц. р. (ДАБМ, СЦБ, Мат. мін.-мал.), *кура́тніца* ж. – Мін., Гом. (ДАБМ, Мат. Гом.), *кура́чніца* ж. – Валож. (ДАБМ), *курча́тніца* ж. – Мін. р., Астр., Смарг. (ДАБМ, СЦБ), *курта́чніца* ж. – Мін. (ДАБМ), *піскля́тніца* ж. – пераважна паўднёва-ўсходняя частка паўн.-усх.д. (ДАБМ, АЛА, Шаталава), *скяля́тніца* ж. – Тал. (ДАБМ), *пыляня́тніца* ж. – Мін.р., усх.-пал. р., Чэрв. р. (ДАБМ, Мат. Гом.), *цыпля́тніца* ж. – віц.-маг. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гом.), *сяду́ха* ж. – Брасл., Мёр. (АЛА), *насе́дка* ж. – Дубр., Пін. (АЛА), *клапату́ха* ж. – Чэрв. (СЦБ), *кло́палка* ж. – Чэрв. (СЦБ), *клу́ха* ж. – Ушацк. (ЛАБНГ), *клу́ша* ж. – Пух. (СЦБ); **інкубатарная курыца**: *інкуба́тарка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *куба́тарка* ж. – Віл. (ЖС), *куба́тка* ж. – Лаг. (ЖС), *машыно́ўка* ж. – Лаг. (СЦБ); **курыца паводле знешніх адзнак**: *чуба́тка* ж. – Мёр., Ушацк., Леп., Дзятл., Нясв., Хоц. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *вуша́тка* ж. – Паст., Бял. (ЛАБНГ), *вушла́тка* ж. – Мёр. (ЖНС), *вушла́чка* ж. – Дзятл. (ЛАБНГ, ЖС), *хахла́тка* ж. – Ушацк. (ЛАБНГ), *шурпа́* ж. 'з раскалмачаным пер'ем' — паўн.-зах.з. (СПЗБ, Станкевіч), *шурпа́тка* ж. — мясц. (Насовіч), *курду́пка* ж. 'без хваста' – мясц. (Насовіч).

**Самец, певень**: *пе́вень* м. – пераважна паўдн. р., паўдн.-усх.з. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Каспяровіч, Шатэрнік, Растаргуеў, Тарнацкі), *пяву́н* м. – Мін. р. (ДАБМ, АЛА, Каспяровіч), *пягу́нь* м. – Валож. (АЛА), *пяу́нь* м. – Гом. (НЛГ), *пяту́х* м. — пераважна паўн. р., паўн.-зах. з., гродз.-бар. г., Вілен. р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Янкова, Шаталава, Тарнацкі, Мат. апыт.), *пято́к* м. – Паст. (ДАБМ), *пе́цька* м., *пе́ця* м. ласк. – віц.-маг. г. (Мат. апыт.), *каба́н* м. – Ганц., Лун. (ДАБМ, АЛА, Шаталава, Тарнацкі), *ко́ґут* м. – спарадычна паўн.-зах.з. (ДАБМ, СЦБ), *кагату́н* м. – Петр. (Мат. Гом.), *сакату́н* м. – Светлагор. (Мат. Гом.); **певень вялікі, галасісты, пародзісты**: *галагу́н* м., *галапу́н* м. – Уздз. (СЦБ), *галагу́т* м. – Гл., Драг. (ЛП, Янкоўскі), *гала́н* м. – Гор. (Н. сл-сць, Мат. Маг.); *каплу́н* м. 'пакладаны певень' – Драг. (Н. сл-сць), *га́лду́к* м. 'певень, што не спявае' – Беластоц. р. (СПЗБ); **гермафрадыт**: *кура́к* м. – зах.-пал. г., Ашм. (ЛАБНГ, Шаталава), *кура́ка* ж. – Раг. (СПЗБ), *кура́ч* м. – сл.-маз. г., Ушацк., Клім., Ганц., Пруж., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл.), *кура́нь* м. – Гродз. (ЛАБНГ), *кура́й* м. – Паст., Гродз., Маст. (СПЗБ, Цыхун), *ку́рай* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *курая́* ж. – паўн. р. (ЛАБНГ, ЖНС, Мат. апыт.), *кurae̋р*

Гродз. (Цыхун), *кур’я́н* м. – Стол. (ТС), *курча́к* м. – Слон. (Нар. сл-сць), *каплу́н* м. – Пол. (ЛАБНГ), *мешане́ц* м. – Ашм. (ЛАБНГ).

**Кураня**: *кураня́* н., *кураня́тка* н. памянш., *курчаня́* н., *курча́* н., *цыпляня́* н., *цыпляня́тка* н. памянш., *цыпяня́* н., *цыпуня́* н., *цыпля́* н., *цыпля́тка* н. памянш., *цы́пля* н., *цы́плятка* н. памянш., *цывяня* н., *цывяня́тка* н. памянш., *цве́ня* н., *чапяня́* н., *пісканя́* н., *піскля́* н., *пыляня́* н., *пыляня́тка* н. — паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., *куранё* н., *куранётка* н. памянш., *курчо́* н., *курчанё* н., *цыплянё* н., *пісклянё* н., *пісклё* н., *пылянё* н. – сярэд.-бел.г., *куро́нак* м., *куранёнак* м., *цыплёнак* м., *цыплянёнак* м., *цывянёнак* м., *пісклянёнак* м., *пісклёнак* м., *пылёнак* м., *пылянёнак* м. – паўн.-усх. д. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, НЛГ, ТС, ЖС, НС, З нар.сл., Мат. дыял. сл., Мат. Маг., Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч, Бялькевіч, Янкова, Юрчанка, Яўсееў, Шаталава), *курчу́к* м. — паўн.-зах. з. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Шаталава), *курча́к* м. — паўн.-зах. з., Вілен. (СПЗБ, СЦБ), *цыплю́к* м. – паўдн. р., паўн.-зах. з., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ, ТС), *цыпу́к* м. – Пін. (ДАБМ, АЛА), *пісклю́к* м. — паўн.-зах.з. (АЛА, СПЗБ, ЖС), *пылю́к* м. – Мядз. (ДАБМ), *цы́тка* ж. ласк. – усх.-маг. р. (АЛА, Мат. апыт.), *ці́ўка* ж. ласк. – Стол. (ТС), *цёўка* ж. ласк. – Жытк. (ТС), *цэ́плік* м. ласк. – Лун. (Шаталава), *пы́лька* ж. ласк. – Леп., Жлоб. (Мат. Гом., Мат. апыт.), *пы́рка* ж. ласк. – паўн.-усх. д. (АЛА, Мат. апыт.); **кураня, якое выведзена ўпотай**: *самаса́дак* м., *самасе́дак* м. – усх. з. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Шаталава, Юрчанка), *самасе́й* м., *самасе́йка* м. – Жлоб., Лун. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Шаталава), *байстру́к* м. – зах.з. (ЛАБНГ, СЦБ, Шаталава), *бансю́к* м. – Маг. (ЛАБНГ), *банка́рт* м. – Пол. (ЛАБНГ), *крапі́ўнік* м. – агульн. (ЛАБНГ, СЦБ, НС, Станкевіч), *знайду́к* м. – Дзятл.(ЛАБНГ); *цяпру́к* м. ’кураня, якое яшчэ ў яйцы, зародак’ – Кобр. (НЛ), *вы́лупак* м. ’кураня, якое толькі што вылупілася з яйца’ – мясц. (Насовіч).

## Ластаўка

Невялікая птушка з вузкімі вострымі крыламі, вёрткая і хуткая ў палёце.

*ла́стаўка* ж., *ластаве́йка* ж. ласк. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, НЛГ, Шатэрнік, Янкова, Гарэцкі, Бялькевіч, Станкевіч), *ла́стачка* ж. – Ушацк., Арш., спарадычна паўднёвы ўсход Беларусі, Латгал. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ЛП), *ластаву́шкі* мн. – Івац (ЖНС), *грано́к* м. –

усх.-пал. р., рэдка віц.-маг. г. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч, Юрчанка), *гарунóк* м. – Кобр. (ЛАБНГ); **берагавая ластаўка**: *берагýлька* ж. – Лід., Астр., Шчуч., Гродз., Карэл., Бар., Пух., Асіп. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал., З нар.сл., ЖС), *берагавýлька* ж. – Віц., Ушацк. (ЛАБНГ), *берагарýлька* ж. – Навагр., Бял., Бых., Слаўг. (ЛАБНГ, З нар.сл.), *берагýля* ж. – Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *берагавýшка* ж. – Паст. (СПЗБ), *беражáнка* ж. – Віл., Навагр., Стаўб., Карм. (ЛАБНГ, НС, ЭПБ), *беразя́нка* ж. – Жытк. (ТС), *бірýлька* ж. – Жытк. (ТС, ЖС), *берагавáя* (*беражнáя*) *лáстаўка* — Докш., Барыс., Круп., Чэрв., Кір., Іван., Клецк., Лун. (ЛАБНГ), *берагавы́ карглáчык*, *берагавы́ каршачóк* – Гл. (ЛАБНГ), *пячýрка* ж., *пячýрачка* ж. – Карм., Рэч. (ЛАБНГ), *пячýрнік* м. – Стол. (ЛАБНГ), *пячкýр* м. – Рэч., Жытк., Стол. (ЛАБНГ, ТС, ЛП), *печары́ца* ж. – Жытк. (ТС), *печуры́чка* ж. – Лоеў. (Янкова), *нóрка* ж. – Лаг. (ЛАБНГ), *нóрнічак* м. – Іўеў. (ЛАБНГ), *нарэ́ц* м. – Пін., Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *наравáя* (*нарáтая*) *лáстаўка* – Бяроз., Астр., Драг. (ЛАБНГ), *земля́нка* ж. – Уздз., Рэч, (ЛАБНГ, ЛП), *землянáя лáстаўка* – паўн. р., Воран., Бяроз., Хойн. (ЛАБНГ), *вадзянáя лáстаўка* – Пол., Стол. (ЛАБНГ), *пясчáная лáстаўка* – Мядз. (ЛАБНГ), *дзíкая лáстаўка* – Рэч. (ЛАБНГ); **вясковая ластаўка**: *касíстая* (*лáстаўка*) – Ветк. (НЛГ); **гарадская ластаўка**: *гранóк* м. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *варанóк* м. – мясц. (ЭПБ).

## Лебедзь

Вялікая прыгожая вадаплаўная пералётная птушка з белым (радзей чорным) апярэннем, з доўгай шыяй.

*лéбедзь* м. – агульн. (АЛА, СПЗБ, ЛП, Насовіч, Станкевіч), *дабáд* м. – Віц. р. (Каспяровіч).

## Лунь

Драпежная палявая і балотная птушка з шаравата-белым апярэннем.

*лунь* м. – Шум., Паст., Барыс. (СПЗБ), *шуля́к* м. – мясц. (ПБ).

## Лысуха

Вадаплаўная птушка з шаравата-чорным апярэннем і голай ярка-белай плямай на лбе.

*лысýха* ж., *лысóха* ж. – Стол. (ЛП, ПБ, ЭПБ), *лы́ска* ж. – Светлагор. (Мат. Гом., ПБ, ЭПБ), *лазню́ха* ж., *лазнýха* ж. – Стол. (ТС), *падгáраўка* ж. – Малар. (ЛП), *лісíчка* ж. – Стол. (ЛП), *вадзянáя кýрыца* (*кýрка*) — Стол. (ЛП, ПБ, ЭПБ), *дзíкая кýрачка* – Брасл., Стол. (СПЗБ, ПБ).

## Ляляк (казадой)

Маленькая начная насякомаедная птушка з кароткай дзюбай і шырокім ротам.

*ляля́к* м. – усх.-пал. р. (ЛП, ПБ), *слукá* ж. – Салiг. (Н. сл-сць), *начнíца* ж. – мясц. (ПБ), *лéжань* м. – мясц. (ПБ), *дрэ́ма* ж. – Жытк. (ТС).

## Паўлін

Дэкаратыўная вялікая птушка са стракатым апярэннем і доўгім прыгожым веерападобным хвастом (у самцоў).

*паўлíн* м. – агульн. (Мат. апыт.), *павýк* м. – мясц. (Насовіч, Шатэрнік,Станкевіч), *паўлю́к* м. – мясц. (Насовіч), *паў* м. – мясц. (НЛГ).

**Самка**: *пáва* ж. – паўн.-зах.з. (СПЗБ), *пáвіца* ж. – мясц. (Станкевіч).

## Пеначка

Дробная пеўчая птушка з жоўта-зялёным апярэннем.

*будаўнічóк* м. – Палессе (ПБ), *будáрачка* ж. – Мсцісл. (Мат. апыт.).

## Перапёлка

Невялікая палявая птушка са страката-бурым апярэннем, завостранымі крыламі і куцым хвастом.

*перапёлка* ж. – агульн., за выключэннем часткі зах.-пал.г. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, ПБ), *перапялíца* ж. – усх.-пал.р. (АЛА, ЛП, Мат. Гом., НЛГ), *пшэпю́рка* ж. — Гродз. (АЛА), *падпадзёмка* ж. – Стол., Лельч. (ЛП), *падпадзя́нка* ж. – Лун., Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *падпадóм* м. – Стол. (ЛАБНГ), *падпаля́нка* ж. – Свісл. (АЛА, Шаталава), *падпалю́шка* ж. – Брэсц. (АЛА), *пасвісцёлка* ж. – Стол. (ЛП), *піхýтка* ж. – Смарг. (Сл. Гродз.), *пýцкела* ж., *пýтпе-*

*ла* ж. – Воран. (АЛА, Шаталава), *курапáта* ж. – Ваўк. (Сцяшковіч), *дзíкая кýрка* (*кýрачка*) – Віл., Мсцісл., Стол., Лельч. (АЛА, ЛП, Мат. апыт.), *палявáя кýрка* – Лельч. (АЛА).

## Пліска

Дробная птушка з бела-чорным апярэннем і выцягнутым доўгім хвастом.

*плíска* ж. – асн. мас. г., за выключэннем віц.-маг. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Мат. Гродз., Каспяровіч, ПБ, ЭПБ), *плíсіца* ж. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ, НЛГ, Мат. Маг., Каспяровіч, Насовіч), *плíсаўка* ж. – Гродз.р., Чэрв., Саліг., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *плíскаўка* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *плíстаўка* – Шчуч., Дзятл., Карэл., Латгал. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., НЛ), *плíскáха* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *валасянка* ж., *валасьянка* ж. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП), *валаснянка* ж. – Жытк. (ТС), *валасяначка* ж. – Лун., Лоеў. (ПБ, ЭПБ, Янкова), *валасéнчык* м. – Лун. (ПБ, ЭПБ), *сíтаўка* ж., *сíтка* ж., *сы́тка* ж., *сы́таўка* ж. – паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, НЛГ, ЛГ, Янкоўскі), *сы́цінка* ж. – Петр. (ЛАБНГ), *сны́тка* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *стрыгýска* ж. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *трасагýска* ж. – Навагр., Кобр., Лях. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП), *трасýха* ж. – Стол. (ЛП), *трасýшка* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *бóгаўка* ж., *бóхаўка* ж. – Верхнядзв., Мёр., Беш. (ЛАБНГ, НС, ЖНС), *бýкаўка* ж., *бýхаўка* ж., *бýгаўка* ж. — паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пастýшка* ж., *пастýшачка* ж. – Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *зямлянка* ж. – Стол. (ЛП), *абмáнка* ж. – Люб. (ЛАБНГ), *верацéйка* ж. – Паст. (СПЗБ), *цёпка* ж., *цёпучка* ж. – Драг. (ЛАБНГ, ЛП), *старнáтка* ж. – Беш. (НС), *карэ́тка* ж. – Лельч. (ЛП), *дóхтарка* ж. – Бабр. (ЛАБНГ), *жаўтабрушка* ж. 'жоўтая пліска' – Лід., Навагр., Драг., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛГ, ЛП).

## Попаўзень

Маленькая птушка, якая вельмі спрытна лазіць па дрэвах уверх і ўніз галавой.

*пóўзнік* м. – Стол. (ЛП), *глінянка* ж. – паўдн. (ПБ), *сíвы дзятлік* – мясц. (ПБ).

## Пугач

Начная драпежная птушка атрада соў.

*пугáч* м., *пýгач* м. – паўдн. р., гродз.-бар. г., Драг. (СПЗБ, ЛП, ПБ, Станкевіч, Мат. апыт.), *кугáч* м. – Гл. (Янкоўскі), *хухáч* м. – Лун. (Шаталава), *папугáч* м. – Стол. (ТС), *папугáй* м. – Маз. (ЛП), *хвíлін* м. – спарадычна ўсх. з. (ЛП, Мат. апыт.).

## Пустальга

Драпежная птушка сямейства сакаліных, сярэдняй велічыні, з гліняна-рыжаватым апярэннем.

*пýстальга* ж. – Лельч. (ПБ), *пусцéльга* ж. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *аралóк* м. – Пол., Віц. (ПБ, ЭПБ), *шулячóк* м. – Пін. (ПБ), *пістульгáн* м. – мясц. (Насовіч).

## Рабчык

Невялікая лясная птушка сямейства цецеруковых з рабым апярэннем і чубком на галаве.

*рабчы́к* м. – усх.-пал. р. (ЛП, Янкова), *рабóк* м. – Кліч., Стол. (ТС, ЖС), *верабóк* м. – Лаг. (СЦБ), *арáбак* м. – мясц. (ПБ), *рабéц* м. – Гарад. (Каспяровіч), *гарáпка* ж. – Стол. (НС).

## Сава

Начная драпежная птушка з вялікай галавой і вялікімі вачыма.

*савá* ж. – агульн. (СПЗБ, ЛП, Бялькевіч, Янкоўскі, Мат. апыт.), *скýгалка* ж. – Лельч. (Мат. Гом.), *пáцькала* н. – мясц. (Мат. Гом.) , *пупы́р* м. – Ваўк. (Сцяшковіч).

## Салавей

Маленькая шэрая птушка, якая вылучаецца вельмі прыгожым спевам.

*салавéй* м. – агульн. (АЛА , СПЗБ, ЛП, Бялькевіч, Станкевіч, Янкоўскі), *салавéйка* м. – Ганц., Капат. (АЛА), *ляскýн* м. экспр. – Гродз. (Сцяшковіч).

## Саракуш

Невялікая драпежная птушка атрада вераб'іных са стракатым апярэннем і доўгім ступеньчатым хвастом.

*саракапу́д* м. – Стол. (ЛП), *саракапы́т* м. – Жытк. (Мат. Гом.), *жула́н* м. – Светлагор. (Мат. Гом.), *гусачо́к* м. – Маз. (ПБ), *жыдо́к* м. – Лельч. (Мат. Гом.).

## Сарока

Птушка з доўгім хвастом і чорным з белым апярэннем.

*саро́ка* ж. – агульн. (АЛА, СПЗБ, ЛП, Станкевіч), *скі́рга* ж. – Стол. (ТС), *даўгахво́стка* ж. – Карэл. (Сцяшковіч), *чэ́каўка* ж. — мясц. (НЛГ).

## Сіваваронка

Пералётная птушка з яркім зеленавата-блакітным апярэннем; сіваграк.

*сівавaро́нка* ж. – асн. мас. г., за выключэннем паўдн.-усх.з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сі́вая варо́нка* – Мін. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сі́вая варо́на* – Гродз., Ганц., Пін., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сі́ўка-варо́нка* ж. – Віц. р., Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *сівакра́кша* ж. – Бяроз. (СПЗБ), *сівара́кша* ж. – Стол. (ЛП), *сівашы́йка* ж. – Карэл., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сіваплéчка* ж. – Клім., Івац. (ЛАБНГ), *сізаваро́нка* ж. — паўн. р. (ЛАБНГ, ПБ), *сі́зая варо́нка* – Латгал. р. (СПЗБ), *сіняваро́нка* ж. – Іўеў., Мядз., Дзярж., Уздз. (ЛАБНГ), *сіняўро́нка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *сіняпта́шка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *сіню́га* ж., *сіню́ха* ж. – паўдн. р. (ЛАБНГ, ПБ), *сінякра́тка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *шараваро́нка* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *зялёная варо́на* – Латгал. р. (СПЗБ), *сівагра́к* м., *сівагра́ка* ж. – усх.-маг.р., Смален. р. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч, Растаргуеў, ПБ), *сівакра́к* м., *сівакра́ка* ж., *сівагра́ха* ж. – усх.-пал.р. (ЛАБНГ, Мат. Гом., ЛП, Янкова, Шаталава), *сівадра́ка* ж. – усх.-пал.р. (ЛАБНГ, ЛП), *сіва́дра* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *сівяра́ка* ж. – Маз. (ЛАБНГ), *ґра́гуш* м. – Кам. (ЛАБНГ), *ґраґо́льчык* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *кра́ска* ж. – мясц. (ПБ), *красёха* ж. – Малар. (ЛАБНГ), *красо́лька* ж. – Кобр. (ЛАБНГ), *краснаво́льчык* м. – Чач. (ЖС).

## Сініца

Пеўчая дробная птушка з лімонна-жоўтым апярэннем падбрушша і жаўтлява-зялёнай спіной.

*сініца* ж., *сінічка* ж. – агульн. (АЛА, ЛП, Янкоўскі), *сінюк* м., *сінючок* м. – паўн. - зах. з. (АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Янкоўскі), *сінічок* м., *сінчык* м. – Петр., Лоеў., Браг. (Мат. Гом., Янкова), *сіньдзік* м. – Гл. (Янкоўскі), *сівокрана* ж. – Петр. (Мат. Гом.), *снягур* м., *снягурка* ж. – Гл., Стол. (ЛП, Янкоўскі), *зімоўка* ж. – Карэл. (Сцяшковіч), *зімуха* ж. – Стол. (ЛП), *сікорка* ж. – Іўеў. (Сцяшковіч), *кракоха* ж. – Лун. (Шаталава), *ёўчык* м. – Лельч. (Мат. Гом.), *бібік* м. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.).

## Скапа

Буйная драпежная птушка сямейства ястрабіных, з буравата-белым апярэннем, жыве каля рэк і харчуецца рыбай.

*скаба* ж. – Маст. (ЛП, ПБ), *рыбалоў* м. – мясц. (ПБ).

## Слонка

Лясная птушка з рудавата-бурым апярэннем і доўгай дзюбай; лясны кулік.

*слонка* ж. – агульн. (Бялькевіч, ПБ), *сломка* ж. – Маз. (ЛП, ПБ, ЭПБ), *слука* ж. – усх.-пал. р. (ЛАБНГ, ЛП).

## Снягір

Невялікая лясная птушка з кідкім ярка-чырвоным падбрушшам.

*снігір* м. – усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *снягур* м. – Карэл., Стол., Маз. (ЛП, ПБ), *снягурка* ж. – Стол. (ЛП), *снягурчык* м. – Лельч. (ЛП), *гіль* м. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ПБ, Каспяровіч), *гілёк* м. – Мядз., Воран., Лід. (СЦБ, Сл. Гродз.), *краснапёрчык* м. – Светлагор. (Мат. Гом.), *папок* м. – Смарг. (Сл. Гродз.), *грачун* м. – Лід. (Сл. Гродз.).

## Сойка

Лясная птушка сярэдняй велічыні са стракатым апярэннем і чорным доўгім хвастом.

*сойка* ж., *соя* ж. – пераважна паўдн. р., спарадычна агульн. (ЛАБНГ, ЛП), *кароза* ж., *карэза* ж. – віц.-маг. г. (Каспяровіч, Гарэцкі, Мат.Гом.).

## Сокал

Драпежная птушка з цёмна-бурым у спалучэнні з белым апярэннем, моцнай дзюбай і доўгімі вострымі крыламі.

*сокал* м. – агульн. (Мат. апыт.), *сакол* м. – паўн.-зах. з., Вілен. р. (СПЗБ, НЛГ), *аралок* м., *карагольчык* м., *чаглок* – паўн. р. (ПБ, ЭПБ), *шулячок* м. 'кобчык' – Пін. (ПБ), *кабец* м. 'кобчык' — Смален. р. (Каспяровіч), *галубятнік* м. 'дзербнік' – Слуц. (ПБ).

## Стрыж

Птушка з чорным апярэннем, па велічыні крыху большая за ластаўку, з доўгімі серпападобнымі крыламі.

*стрыж* м. – агульн. (ЛАБНГ), *гранок* м. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *свіргуль* м. – Ушацк., Бярэз., Слаўг. (ЛАБНГ), *свірчок* м. – Зэльв. (ЛАБНГ), *пікун* м. – Стол. (ЛП), *каршачок* м. – Гл. (Янкоўскі), *рэмісь* м. – Лун. (ЛАБНГ, Шаталава).

## Удод

Лясная невялікая птушка са стракатым апярэннем, веерападобным чубам на галаве і доўгай загнутай уніз дзюбай.

*удод* м. – усх.-маг.р., Стол., Латгал. р. (СПЗБ, ЛП, Бялькевіч, Насовіч), *удут* м. – Малар. (ЛП), *дод* м. – Стаўб. (СЦБ), *аўдот* м., *аўдут* м., *воўдат* м. – Брасл., Касц., Стол., Лельч., Маз. (СПЗБ, ЛП, Мат. Гом.), *кухач* м. – Стаўб. (СЦБ), *тукаўка* ж. – Віц.р. (Каспяровіч), *футкала* ж. – Гродз. (СПЗБ), *вутва* ж. – Драг. (ЛП), *зязюля жыдоўская* – Стол., Старадарож. (ЛП, Мат. апыт.).

## Цецярук

Лясная буйная птушка з чорным (у самак – стракатым) апярэннем.

*цецярук* м. – агульн., за выключэннем усх.-маг. р.

(ЛАБНГ, СПЗБ, ПБ, Гарэцкі, Каспяровіч), *цацярлю́к* м. – усх.-маг. р. (Гарэцкі, Бялькевіч, Насовіч, Яўсееў, Мат. апыт.), *цярлю́к* м. — Чач. (Мат. Гом.), *цяру́к* м. – Латгал. р. (СПЗБ), *це́цер* м. – Чэрык. (ЛАБНГ), *кася́к* м. – Маз. (ЛП), *каса́ч* м. – Чач. (Мат. Гом.).

**Самка**: *цяце́ра* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, НЛГ, Станкевіч, Янкоўскі), *цяцёра* ж. – Латгал. р. (СПЗБ), *цяце́рка* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *цецеручы́ха* ж. – Шчуч. (СПЗБ), *цяце́рва* ж. – Стол. (ТС).

## Чайка

Вадаплаўная птушка з белым у спалучэнні з чорным апярэннем і густым, шчыльным пер'ем.

*ча́йка* ж. – агульн. (СПЗБ, ЛП, Мат. апыт.), *ча́іца* ж. – усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *марска́я варо́на* – Гродз., Ваўк. (СПЗБ), *мэ́ва* ж. – Ваўк. (СПЗБ); **крачка**: *крач* м. – Лоеў. (Янкова, ПБ), *крачо́к* м. – Стол. (ЛП), *кра́чка* ж. – мясц. (ПБ), *кры́чка* ж. – паўдн. р. (ТС, Мат. Гом., Н. сл-сць, ПБ, ЭПБ), *кручо́к* м. – мясц. (ПБ, ЭПБ), *рыба́лка* ж. – мясц. (ПБ, ЭПБ), *рыба́чка* ж. – мясц. (ПБ, ЭПБ), *рыба́к* м. – Жытк. (Н. сл-сць), *ры́бітва* ж. – Брасл. (СПЗБ); **вялікая чайка**: *марты́н* м. – паўдн.-усх.з. (РБ), *рыба́к на́глы* – Жытк. (РБ); **сівая чайка**: *ба́ба* ж. – Жытк. (ТС), *ба́бка* ж. – паўн. р. (ПБ), *клыгу́н* м. – мясц. (ПБ), *марты́н* м. – Мсцісл. (ПБ).

## Чакан

Лугавая дробная птушка сямейства драздовых з чорным або чорна-бурым апярэннем галавы.

*е́чык* м. – Мсцісл. (З нар.сл.), *вы́чык* м. – Мсцісл., Смален. р. (З нар. сл., Дабравольскі), *і́чык* м. – Светлагор. (Мат. Гом.), *во́йчык* м. – Стол. (ТС).

## Чапля

Буйная птушка з шэрым або белым апярэннем, з вялікай вострай дзюбай і доўгай шыяй, трымаецца каля азёр і рэк.

*ча́пля* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ПБ, ЛП, Гарэцкі, Каспяровіч), *ца́пля* ж. – паўн.-зах. з., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *валява́ха* ж. – паўдн.-усх.з. (ЛАБНГ,

ЭПБ, ПБ, НС, Янкова, Янкоўскі), *каня* ж. – усх.-пал.р. (ТС, ПБ).

**Самец**: *чапе́ль* м. – Паст. (ЛАБНГ).

## Чомга

Вадаплаўная буйная птушка са стракатым апярэннем і чорным чубам на галаве.

*нырэ́ц* м., *нарэ́ц* м. – паўдн. р. (СЦБ, ТС, ПБ), *нурэ́ц* м. – Лельч. (ЛП), *нырóк* м. – Жытк. (ЛП, ЭПБ), *каву́р* м., *каўр* м., *гага́ра* ж. – Пол., Леп. (ПБ).

## Чыж

Лясная невялікая пеўчая птушка з жаўтлявым апярэннем і чорнай галоўкай.

*чыж* м., *чы́жык* м. – агульн. (СПЗБ, ЛП, Мат. апыт.), *чачóк* м. – Бял. (Яўсееў).

## Шпак

Пеўчая сярэдняй велічыні птушка з чорным апярэннем.

*шпáк* м. – агульн. (ЛАБНГ, ЛП, Гарэцкі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, ПБ), *скварэ́ц* м. — спарадычна пераважна віц.-маг. г. (ЛАБНГ, 3 нар.сл.), *скарэ́ц* м. – Стол. (ЛП).

## Шчыгол

Дробная пеўчая птушка з яркім стракатым апярэннем.

*шчы́гол* м., *шчагóл* м. – агульн. (АЛА, СПЗБ, ЛП), *шчыге́л* м., *шчаге́ль* м. – Воран., Гродз. (АЛА), *шчы́гал* м. – Стол. (ЛП), *шчы́гла* м. – паўн.-зах.з. (АЛА, СПЗБ, Станкевіч), *шчыглíк* м. – Ашм., Лун., Краснап. (АЛА, ЛАБНГ), *шчы́длік* м. – Маз., Пін. (АЛА), *шчы́льнік* м. – Івац. (АЛА).

## 1.3. ПАЎЗУНЫ І ЗЕМНАВОДНЫЯ

### Вуж

Неядавітая змяя з шэрай, бураватай, амаль чорнай спіной, белым у чорныя плямы брухам і жоўтымі плямамі па баках галавы.

*вуж* м. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Шатэрнік, Насовіч, Мат. апыт.), *гуж* м. – Паням. р., зах.-пал. г., Акц., Асіп., Кліч. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз.), *уж* м. – спарадычна паўн.-зах.з., зах.-пал. г., Віц., Вілен. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *юж* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА), *вужа́ка* ж., *вужа́чка* ж. памянш., *вуджа́ка* ж. – паўн.-усх. д., за выключэннем віцебскай падгрупы гаворак, Мін. р., Чэрв. р., спарадычна паўдн.-усх.з., Драг. (ЛАБНГ, АЛА, Шатэрнік, Бялькевіч, Насовіч), *гужа́ка* ж., *ужа́ка* ж. – Віл., Лаг. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС), *вужа́к* м., *гужа́к* м., *ужа́к* м. — паўн.-зах.з., Вілен. р.(ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *ву́жліс* м. – Вілен. р.(СПЗБ), *гад* м. – усх.-пал.р. (ТС, НС), *гё́бра* ж. – Валож. (СЦБ), *даўгу́н* м. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *заскро́нец* м. – Валож. (ЛАБНГ).

**Самка**: *вужы́ха* ж. – Стол., Слаўг. (ТС, Мат. апыт.), *вужа́чыха* ж. – Слаўг. (Мат. апыт.).

### Гадзюка

Ядавітая змяя шэрага або бурававата-шэрага колеру з цёмнай зігзагападобнай паласой уздоўж спіны.

*гадзю́ка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Насовіч), *гадзю́га* ж. — паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гадзю́к* м. – Смарг., Брэсц., Вілен.р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *га́дзіна* ж. — паўн.-зах. з., усходняя частка зах.-пал. г., Маз. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, НС), *га́дыня* ж. — паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ), *гад* м. – поўнач паўн.-зах. з., зах.-пал. г., Рэч. (ЛАБНГ), *га́даўка* ж. – Гарад. (ЛАБНГ), *вуж* м. – спарадычна Паням. р., Чашн. (ЛАБНГ), *вужа́ка* ж. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. апыт.), *змяя́* ж. – Гродз. р., віц.-маг. г., спарадычна зах.-пал. г. і ўсх.-пал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *жмяя́* ж. – Ваўк. (ЛАБНГ), *верацé́нніца (верацё́нніца)* ж. – спарадычна паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ко́мля* ж. – Хойн. (ЛАБНГ).

**Самец**: *круль* м. – Брасл. (СПЗБ).

## Жаба, рапуха, квакша і інш.

Бясхвостыя земнаводныя жывёлы з бугрыстай, часта барадаўчатай слізкай скурай бурага, шэрага або зялёнага колеру.

**Агульная назва**: *жáбы* мн. – агульн., за выключэннем віц.-маг. г. (ЛАБНГ).

**Малая жаба**: *жáбка* ж., *ляжэ́нька* ж. – Краснап. (Бялькевіч), *жабýцька* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *жýжалка* ж. – Паст. (СПЗБ).

**Жаба травяная**: *жáба* ж. – агульн., за выключэннем віц.-маг. г.(ЛАБНГ, АЛА), *жáбіна* ж. адзінк. – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, АЛА), *лягýшка* ж. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ, АЛА), *ля́га* ж. – Гом. (НЛГ), *лягýха* ж. – Мёр., Шарк., Мсцісл. (ЛАБНГ), *люгáшка* ж. – спарадычна віц.-маг. г. (ЛАБНГ, Мат. Маг., Бялькевіч), *балаця́ная жáба* – Дзятл. (ЛАБНГ), *балóтная жáба* – Бераст. (ЛАБНГ), *сíняя жáба* – Карм. (ЛАБНГ), *азёрная жáба* — Стол. (АЛА), *халадýшка* ж. 'жаба, якой ахалоджваюць малако' – Паст. (СПЗБ).

**Рапуха**: *рапýха* ж. – агульн., але пераважна зах.з., Латгал. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Насовіч, Станкевіч, Тарнацкі), *рыпýха* ж. – Брасл. (ЛАБНГ), *рапýга* ж., *рыпýга* ж. — паўн.-зах.з., Люб., а таксама Вілен.р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *рапóха* ж. – Ваўк. (СПЗБ), *рапéха* ж. – Пін. (АЛА), *рэ́пуха* ж., *рóпуха* ж., *рóпушна* ж. – Жытк. (АЛА, ТС), *рабýха* ж. – Ашм. (ЛАБНГ), *храпýха* ж. – Пін. (ЛАБНГ), *карапýха* ж., *кóрап* м. – зах.-пал. г. (Тарнацкі), *курáпа* ж. – усх.-маг.р. (ЛАБНГ, АЛА), *курóпа* ж., *курлáпа* ж. – Гор. (АЛА), *варапáха* ж. – Карэл. (ЛАБНГ, Шаталава), *верапáха* ж. – Валож. (ЛАБНГ), *варóпаўка* ж. – спарадычна сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖС), *вярэ́паўка* ж. – Чэрв. р., Сен. (ЛАБНГ, АЛА), *варóпавіца* ж. – Бераст. (ЛАБНГ), *варэ́пша* ж. – Бых. (ЛАБНГ), *лягýшка* ж. – спарадычна ўсх.з., Смарг., Іўеў., Пух. (ЛАБНГ, АЛА), *лягýха* ж. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *паўзýха* ж. – Сен., Пух. (ЛАБНГ, АЛА), *паўзýн* м. – Верхнядзв. (СПЗБ), *чарапáха* ж. – Гродз., Дзятл. (ЛАБНГ, Цыхун), *чараўнíца* ж., *чарадзéйка* ж. – Пол. (ЛАБНГ), *балаця́нка* ж. – Лід. (Мат. Гродз.), *земляніца* ж. – Жытк. (ТС), *зялёнка* ж. – Клім. (ЛАБНГ), *зялёпуха* ж. – Слон. (НЛ), *зялёная жáба* – агульн. (ЛАБНГ), *каравáтая жáба* – Пол., Гарад., Лельч. (ЛАБНГ), *карáвая жáба* – сл.-маз.г., Бярэз., Пін. (ЛАБНГ, АЛА), *каралевáтая жáба* – Маз. (ЛАБНГ), *карóставая жáба* – Стаўб. (СЦБ), *прышчá-*

*тая, падушо́ўняя жа́ба* – Драг. (Тарнацкі), *земляна́я жа́ба* – Іўеў. (ЛАБНГ), *палява́я жа́ба* – Светлагор., Лельч. (ЛАБНГ), *падру́бная* (*падру́бняя*) *жа́ба* – Слуц.р., заходняя частка ўсх.-пал.р. (ЛАБНГ), *ша́рая жа́ба* – Шчуч. (АЛА), *рале́йная жа́ба* – Віл. (СПЗБ), *рэпа́тая* (*раба́я*) *жа́ба* – Капыл., Петр. (ЛАБНГ), *рэ́павая жа́ба* – Івац. (ЛАБНГ), *рэ́паная жа́ба* – спарадычна сл.-маз. г. (ЛАБНГ), *рэ́паная ве́дзьма* – Лельч. (ЛАБНГ).

**Жарлянка**: *жа́ба* ж. – пераважна ўсюды не адрозніваецца назвай ад рапух і жаб (ЛАБНГ), *вадзяна́я жа́ба* (крумкае слаўна) – Глыб., Іўеў., Добр. (ЛАБНГ), *крумка́ч* м. – Чэрв., Беластоц. р. (СПЗБ, СЦБ), *ку́каўка* ж. – Віл. (Станкевіч), *куку́ля* ж. – Чэрв. (СПЗБ), *цыру́ля* ж. – Жытк. (Мат. апыт.), *жарля́нка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі).

**Назвы жаб, якія крычаць «рыпучым» голасам**: *турка́ч* м. – Уздз. (ЛАБНГ), *ту́ркалка* ж., *ту́рлушка* ж. – мясц. (Насовіч).

**Квакша**: *жа́ба* ж., *зялёная жа́ба* – паўдн. р. (ЛАБНГ), *свіцця́чая жа́ба* – Лаг. (СЦБ).

**Апалонік**: *апало́нік* м. – Мін. р., усх.-пал. р. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз.), *апало́ннік* м. – Стаўб., Ганц. (ЛАБНГ), *абало́нік* м. – Старадарож. (ЛАБНГ), *пало́нік* м. – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, Насовіч), *пало́ннік* м. – віц.-маг. г., Віл., Стаўб. (ЛАБНГ, СЦБ, Бялькевіч), *пало́днік* м. – Шкл. (ЛАБНГ), *пало́йнік* м. – паўн.р., усх.-маг. р., Віл., Маладз., Валож., Стаўб., Бабр., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Шаталава), *пало́ўнік* м. – спарадычна паўн.-зах. з., Бярэз., Латгал. р. (СПЗБ,СЦБ), *лапо́нік* м. – Маз. (ЛАБНГ), *пра́нік* м. – Свісл., Івац. (ЛАБНГ, Шаталава), *пра́ннік* м. – Круп., Кліч., Свісл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *прач* м., *пра́чык* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЛП, НЛ), *каўшо́к* м. — Вілен.р. (СПЗБ), *галава́ч* м. – Паням. р. (ЛАБНГ, СЦБ, ЖС, Шаталава), *галава́сцік* м. – Ушацк., Леп., Карэл., Дзятл. (ЛАБНГ), *галаве́нька* ж. – Смарг. (ЛАБНГ), *крутагало́ўка* ж. – Смарг., Маладз., Валож., Гродз. (ЛАБНГ), *крута́ч* м., *крута́ха* ж. – Паст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *жа́бка* ж. – Стаўб., Жлоб. (ЛАБНГ), *жабурнячо́к* м. – Воран. (СПЗБ), *кія́нка* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *марха́ль* м. – Кліч. (ЖС), *самту́к* м. – Воран. (СПЗБ).

## Мядзянка і верацённіца

Неядавітая змяя шэрага, шэра-бурага або медна-чырвонага колеру; бязногая яшчарка буравата-шэрага колеру з цвёрдай гладкай лускай на целе.

*мядзя́нка* ж. – спарадычна паўн.-зах.з., Вілен.р. (СПЗБ, ЭСБМ), *медзяні́ца* ж. – Краснап. (Бялькевіч, ЭПБ), *ме́дная змяя́* – Вілен. р. (СПЗБ), *мядзя́ная гадзю́ка* – Брасл. (ЛАБНГ), *па́данка* ж. – Малар. (НЛ), *па́дальніца* ж. – Жаб. (ЛАБНГ), *пада́лец* м. – Гродз. (Цыхун), *жале́зніца* ж., *жалязні́ца* ж., *зале́зніца* ж. – Шчуч., Ваўк. (СПЗБ), *вераце́нніца* (*вераце́ніца*) ж. – спарадычна паўн.- усх.д., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. апыт.), *верацённіца* (*верацёніца*) ж. – Чэрв., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС), *верацёніза* ж. – Брасл. (ЛАБНГ), *верацяні́ца* ж. – Паст. (СПЗБ), *верацёльніца* ж. – Стол., Лельч. (ЛАБНГ), *верацёнка* ж. – паўн.-усх.д. (Мат. апыт.), *вярцёўка* ж., *вярце́лка* ж. – Хоц., Чэрык. (ЛАБНГ), *верацённік* м. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *вераця́ннік* м. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *верасённік* м. – Стол. (ТС), *ве́рцет* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *слі́вень* м. – усх.-маг. р., спарадычна ўсх. з., спарадычна Панямр., Чэрв. р., Мядз., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Бялькевіч, Насовіч, ЭПБ, Мат. апыт.), *слівя́нь* м. – Дзятл. (ЛАБНГ), *асліве́нь* м. – Мядз. (СЦБ), *слі́мень* м. – Ушацк., Гл., Лоеў., Уздз., Нясв., Стол., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Янкоўскі, Янкова), *сліме́нь* м. – Пол., Ушацк., Віл., Пруж., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сліма́к* м. – Мёр., Карэл., Пруж., Брэсц. (ЛАБНГ), *сляпа́к* м. – Жаб. (ЛАБНГ), *сляпе́нь* м. – Верхнядзв. (СПЗБ, Насовіч), *слі́зень* м. – Віл., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *смуж* м. – Драг. (ЛАБНГ), *гру́та* ж. – Брэсц. (ЛАБНГ), *нары́ца* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *за́вюцьтак* м. – Брасл. (ЛАБНГ).

## Трытон

Хвастатае земнаводнае, якое нагадвае яшчарку.

*трыто́н* м. – усх.-маг. р., Ушацк. (ЛАБНГ), *вадзяна́я я́шчарка* – усх.-маг. р., паўдн. р., паўн. р., Карэл. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *я́шчарка* ж. – Мёр., Хоц., Жаб. (ЛАБНГ), *кра́сная я́шчарыца* – Кобр. (ЛАБНГ), *мар'я́нка* ж. – Жытк. (ТС).

## Яшчарка

Невялікі паўзун з доўгім хвастом і прадаўгаватым целам, пакрытым дробнай рагавой луской.

*я́шчарка* ж. – агульн., за выключэннем Гродз. р., Вілен. р., Латгал.р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Бялькевіч, Насовіч), *я́шчарыца* ж. – Гродз.р., усх.-маг.р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *я́шчар* м. – Віл., Гор. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *дрэ́жынь* м. – Воран. (СПЗБ).

### 1.4. РЫБА І РАК

## Акунь

Драпежная рыба зеленавата - жоўтага колеру з цёмнымі папярочнымі палосамі, з чырванаватымі ніжнімі плаўнікамі і калючым спінным плаўніком, жыве ў рэках і азёрах.

*аку́нь* м., *аку́ньчык* м. памянш. – агульн. (Мат. Гродз., З нар.сл., Мат. апыт.), *ваку́нь* м. – Смал. (СЦБ), *во́кунь* м., *акунёк* м. памянш. – пераважна ўсх.-маг. р. (Насовіч, Мат. апыт.), *акуне́ц* м. – паўдн.р. (ЛП, ТС), *ако́нь* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *ку́нік* м. – Драг. (Мат. апыт.), *гарбы́ль* м. 'буйная рыбіна' – агульн. (СЦБ, Мат. апыт.), *матро́сік* м. 'невялікі акуньчык' – агульн. (Мат. апыт.).

## Бычок (пясчанік, пясочнік, падкаменшчык)

Дробная прыдонная маларухомая рыба жаўтавата - шэрага колеру з бурымі плямамі па баках, жыве ў рэках на пясчаным або камяністым грунце.

*бычо́к* м. — мясц. (Жукаў), Жлоб. (ЖС), *песказо́б* м. – усх.-пал. р. (ТС, Мат. апыт.), *пяшку́р* м. — Чэрв. (Шатэрнік), усх.-пал. р. (Жукаў), *пундач* м. — паўн.-зах. з. (Жукаў), *ваўчо́к* м. – паўн. р. (Жукаў), *kале́ка* м. – паўн.р. (Жукаў), *аўдо́тка* ж. – мясц. (Жукаў), *ба́ба* ж., *ба́бка* ж. – мясц. (Жукаў), *шырокало́бка* ж. — мясц. (Жукаў), *галава́ч* м. – мясц. (Жукаў).

## Веразуб

Буйная падобная да плоткі рыба з прадаўгаватым целам, пакрытым дробнай бліскучай луской, жыве ў рэках на глыбокіх мясцінах (вірах).

*веразýб* (*віразýб, верезýб*) м. — Маг. р., Гом. р., усх.-пал. р., Смален. р. — толькі ў Дняпроўскім басейне (ЭПБ, Жукаў, Дабравольскі, Усачова).

## Верхаводка, вярхоўка, быстранка

Невялікая рухавая рыбка, пакрытая бліскучай луской, жыве ў верхнім пласце вады і трымаецца табункамі.

*верхавóдка* ж. — паўдн. р., спарадычна і ў іншых месцах (ЛП, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Усачова), *верахвóд* м., *верхавóдзік* м. памянш. — паўдн.р. (ТС, ЛП), *верхавóдзь* м. — Чэрв. (НЛ), *верхалётка* м. — паўдн.р. (ЛП), *вярхóўка* ж. — мясц. (Жукаў), *верхаплáўка* ж. — Смарг. (СЦБ), *верхалáпка* ж. — Паст., Астр. (СПЗБ), *укляя́* (*вукляя́*) ж., *уклéйка* ж. — агульн., асабліва паўн. р., усх.-маг. р. (СПЗБ, ЛП, З нар.сл., Мат. Маг., Каспяровіч, Дабравольскі, Усачова), *кляя́* ж. — Нараўл. (З нар.сл.), *клéйка* ж. — Мін. (СПЗБ), *падуклéйнік* м. — Мядз. (СЦБ), *уклéй* м. — Шчуч. (Сл. Гродз.), *аклíя* (*аклéя*) ж., *уклíя* ж., *клíя* ж. — паўдн.р. (ЛП, Жукаў), *аклéйка* ж. — мясц. (Жукаў), *сяля́ва* ж., *сяля́ўка* ж., *сяля́вачка* ж. памянш. — паўн.р., усх.-маг.р. (Жукаў, Насовіч, Усачова), *сíбель* ж., *сібíль* ж. — Гом. р., усх.-маг. р., а таксама Смален.р., зах.-бран.р. (Янкова, Жукаў, Усачова), *сіня́ўка* ж. — Мсцісл. (Мат. апыт.), *жыдóк* м. — паўдн.р. (Усачова), *калíнка* ж. — паўн.р. (Усачова), *блíскаўка* ж. — Стол. (НЛ), *шыш* м. — Ваўк. (СПЗБ).

**Вярхоўка**: *вярхóўка* ж., *сіня́ўка* ж. — мясц. (Жукаў).

**Быстранка**: *быстрáнка* ж., *сіня́ўка* ж., *стракáтка* ж., *ушвéйка* ж. — паўн.р. (Жукаў).

## Вугор

Рыба, якая мае доўгае, падобнае да змяінага цела з невялікай прыплюснутай галавой.

*вугóр* м. — агульн. (ЛАБНГ, З нар.сл.), *вýгар* м. — агульн. (ЛАБНГ), *угóрыч* м. — захад Віц.р. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар.сл.), *угóраш* м. — Паст. (ЛАБНГ), *угóрак* м. — Мёр. (Мат. апыт.), *бугóр* м. — Карм. (ЛАБНГ), *даўгáр* м. — Астр. (СПЗБ), *вангóр* (*ангóр, вынгóр, вангóш*) м., *вэ́нгар* (*вэ́нгер*) м. — паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, ЖС, Мат. Гродз., Цыхун).

## Галавень

Буйная рыба з шырокай патоўшчанай галавой і спіной, амаль круглым тулавам, пакрытым буйной жаўтавата-серабрыстай луской, з аранжавымі буйнымі плаўнікамі і чорным па краі хвастом, жыве на перакатах у рэках.

*галавéнь* м. – усх.з. (Шатэрнік, Мат. апыт.), *галавáч* м. – цэнтр. з., зах.з. (СЦБ, ЖС), *галóвень* м. – Нараўл. (З нар. сл.), *клень* м. – Астр., Іўеў., Навагр. (СПЗБ).

## Гаркушка (гальян, гарчак)

Невялікая рыбка з вераценападобным целам стракатай зеленавата-залацістай афарбоўкі па баках, жыве ў крынічных, чыстых рачулках.

*гаркýша* ж., *гаркýшка* ж. 'гальян (звычайны і азёрны)' — Мін. (Мат. апыт.), *сіня́ўка* ж. – Чэрв. (ЛАБНГ), *курмя́ўка* ж. – Гродз. (Цыхун), *аўдóтка* ж., *вудóдка* ж. – Краснап., Чэрык. (Бялькевіч, Насовіч), *красáўка* ж., *гаркýша* ж., *маля́ўка* ж., *скамарóх* м., *залатóўка* ж., *аўдóтка* ж., *крумéла* ж., *фарэ́лька* ж. і інш. – мясц. (Жукаў).

**Гарчак звычайны**: *гарчáк* м. – Слуц. (Усачова), *гарчы́ца* ж., *гаркýшка* ж., *альшáнка* ж., *пýкас* м., *смярдзю́ха* ж., *сталéтка* ж. – мясц. (Жукаў).

## Ёрш

Дробная рыба сямейства акунёвых з калючкамі ў ніжніх плаўніках і ў плаўніку на спіне; цела цёмна-шэрага колеру, пакрыта сліззю.

**Ёрш звычайны (а таксама і насар)**: *ёрш* (*ерш, ерж, ірш*) м. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, З нар.сл.), *яршáк* м., *яршýн* м. – Стол., Лельч. (ЛАБНГ, ТС), *джэрш* м., *жэрш* м., *жэ́ршык* м. памянш. – зах.-пал. г. (ЛП, Мат. апыт.), *ажгíр* м., *ажгýр* м., *аджгýр* м., *ужгýр* м., *яджгáр* м., *яджгíр* м., *яжгýр* м., *ячгýр* м., *яжжýр* м. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, Мат. мін.-мал., Сцяшковіч, З нар.сл., Жукаў), *іжджá* м., *ажджэ́й* м., *ажджáй* м. – Круп. (ЛАБНГ, СПЗБ), *джгíр* м., *джы́гір* м. – Мін. (СЦБ, Мат. мін.-мал., ЭПБ), *саплíвец* м., *сапля́к* м., *саплю́к* м., *сапéль* м. – паўдн.р. (ЛАБНГ, ТС, ЖС, ЖНС, З нар.сл.), *смаркáч* м. – Петр., Нараўл. (З нар.сл., Мат. Гом.), *слізýн* м., *слізунéц* м., *слíнявец* м. – паўдн.р. (ЛП), *слю́нька* м. – Чэрык., Краснап.,

Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *слюнцяй* м. – Рэч. (ЛАБНГ), *бабка* ж. – Нараўл. (З нар.сл.), *бабы́р* (*бабу́р*) м. – паўдн. р. (ЛП, Янкова), *біржс* м. – Нараўл. (З нар.сл.), *ваўчо́к* м. – Навагр., Стаўб., Бярэз. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал., СЦБ), *пу́ўка* ж. – Леп. (ЛАБНГ), *курме́ль* м. – Сен., Кругл. (ЛАБНГ, Мат.Маг.), *кале́ка* м. – Кругл. (Мат. Маг.), *калю́чык* м., *калю́чка* ж. – Дзятл., Карэл. (ЛАБНГ), *ца́рык* м., *цар* м. – паўдн.р. (Жукаў).

**Ёрш-насар**: *астрамы́с* (*астраму́с*) м., *астраму́сік* м. памянш. – Жытк. (ТС), *чырано́с* м. – Маг. р., Гом. р. (Жукаў), *наса́р* м., *біручо́к* м. – мясц. (Жукаў).

## Жэрах

Драпежная буйная рыба сямейства карпавых, з прагоністым, падціслым з бакоў целам, пакрытым дробнай светлай луской, і з шырокім ротам.

*бялі́зна* ж., *белізна́* (*белюзна́, белезна́, білізна́, блізна́*) ж. – Маг. р., Гом. р., паўдн.р., а таксама Смален.р. (ЛАБНГ, ЛП, Н. сл-сць, З нар.сл., ЭПБ, Жукаў, Дабравольскі, Усачова), *бялю́га* ж. – паўдн. р. (ТС, ЛП, Шатэрнік, Жукаў), *бялу́га* ж. – мясц. (Жукаў), *бе́лесць* ж., *бе́лест* м. – Маг.р., Смален.р. (Жукаў, Усачова), *жараспе́р* м., *жарасель* м., *жараствень* м., *жарствіль* м., *жарасцьвель* м., *жэрасць* м., *жывасцёр* м. – паўн. р., а таксама Смален. р. (Жукаў, Шатэрнік, Дабравольскі, Усачова), *жэрах* м. – Гом.р. (Усачова), *шаштапёр* м. – Смален.р. (Дабравольскі), *шараспе́р* м. — паўн.-зах.з., Смален.р. (Жукаў, Дабравольскі), *беласпе́р* м., *белашпе́р* м., *белашпёр* м., *дзеляспёр* м. — паўн.-зах. з. (СПЗБ, ЖС, Жукаў, Усачова), *бо́лень* м. – Астр. (СПЗБ), *гане́ц* м. — паўн.-зах.з. (Усачова), *конь* м. – Маг.р. (Усачова).

## Карась

Рыба з кароткім целам, пакрытым цёмна-залацістай або цёмна-серабрыстай луской, водзіцца ў вадаёмах з воднай расліннасцю і ілістым дном.

*кара́сь* м. – агульн. (СПЗБ, З нар.сл., ЛП, Янкоўскі, Мат. апыт.), *крась* м. – усх.-маг.р. (Юрчанка, Мат. апыт.), *ка́рпік* м. 'срэбны карась' – паўдн.р. (ЛП).

**Карп**

Рыба з шырокім целам, пакрытым буйной луской (і без лускі), якую разводзяць і вырошчваюць у сажалках, штучных вадаёмах; культурная разнавіднасць сазана.

*карп* м. – агульн. (СПЗБ, ЛП, Мат. апыт.), *кáрпа* м. – Слаўг. (Мат. апыт.), *кóрап* м. – паўдн.р. (ЛП, Жукаў), *сазáн* м. – паўдн. р.(Жукаў).

**Колюшка** (трохыголкавая і дзевяцііголкавая)

Дробная рыба з трыма або дзевяццю калючкамі на спіне, а таксама па баках і на брушку.

*калю́шка* ж. – Астр., Воран. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *рагáтка* ж. – Іўеў., Бераст., а таксама Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сцяшковіч), *рагýлька* ж. – мясц. (Жукаў), *казá* ж. – Пол. (Мат. апыт.), *ваўчóк* м. — мясц. (Жукаў).

**Краснапёрка**

Рыба, падобная да плоткі, але з жаўтавата-залацістай або серабрыстай луской і ярка-чырвонымі плаўнікамі.

*краснапёрка* ж. – агульн. (СПЗБ, ЛП, З нар.сл., Усачова, Мат. апыт.), *краснапёра* ж. — паўн.-зах.з., а таксама Вілен. р. (СПЗБ), *краснапёруха* ж. – паўдн.р. (ЛП), *краснавóчка* ж. – мясц. (Жукаў), *красýля* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *крáсаўка* ж. – Пол., Ушацк. (НС, З нар.сл.), *укрáсліца* ж. – Гарад. (НЛ), *чырвонапёрка* ж. — Дзятл. (Мат. Гродз.), *чарэ́муха* (*царэ́муха*) ж. – паўдн.р. (ЛП), *чарнýха* ж., *чармнýха* ж. , *чарнóха* ж. – Маг.р., Гом.р. (Жукаў), *чарналю́га* ж. – Гом. р. (Жукаў), *калíнаўка* ж. – паўдн. р. (ЛП).

**Лешч**

Буйная рыба з шырокім плоскім целам.

**Буйная рыба гэтага віду**: *лешч* м. – агульн. (СПЗБ, ТС, З нар.сл., Каспяровіч, Бялькевіч, Драздовіч, Жукаў, Усачова, ЭСБМ, Мат. апыт.), *ляшч* м. – Вілен.р., зах.-бран. р. (СПЗБ, Растаргуеў).

**Назвы па часе нерасту**: *красавíк* м. – Жытк. (Мат. Гом.), *вярбóвік* м., *вéрбавік* м. — паўн.-зах.з., а таксама Лоеў. (Жукаў, Янкова), *лазóвік* м. — паўн.-зах.з. (Жукаў), *кала-*

*савік* м. – Пол. (З нар.сл., Жукаў), *юр'евік* м. – Маг.р. (Жукаў), *мікольнік* м. — паўн.-зах.з., паўдн.р. (Жукаў, Усачова), *яблaневік* м. — паўн.-зах.з. (Жукаў, Усачова), *калоснік* м. – Брасл. (Усачова), *сіняк* м. — паўн.-зах.з. (Жукаў), *чаромушнік* м. – паўн.р. (Жукаў), *бярозавік* м. – паўн.р. (Жукаў), *лапушнік* м. – Брасл. (Усачова), *садовік* м., *сінюк* м. – мясц. (Жукаў), *чароха* м. – Смален. р. (Дабравольскі).

**Гусцяра, а таксама і лешч (звычайна невялікі):** *гусцяра* (*усцяра*) ж., *гусцёрка* (*усцёрка*) ж., *гусцярва* ж., *усцюр* м. — паўдн.р. (Усачова), *гусцёрына* ж. – паўн. р.(СПЗБ, СЦБ, З нар.сл., Жукаў, Усачова), *сцёрка* ж. – паўн.р. (Жукаў, ЭПБ), *лускар* м. – паўн. р. (ЛАБНГ), *лупар* м. – Маг.р. (Усачова), *лускерка* ж.—паўн. р. (Усачова), *ласкурына* ж. – Пол. (З нар.сл.), *ласкірка* ж. – паўн. р. (Жукаў, Мат. апыт.), *пласкірка* ж. – паўдн.р. (ЛП, Жукаў), *ласкір* м., *пласкір* м., *ласкутoк* м. – Чэрык. (Бялькевіч, Усачова), *пласкуха* ж. – Гл. (Янкоўскі), *лескаўка* ж., *леска* ж., *ляскуха* ж., *плескаўка* ж., *блескаўка* ж., *падлеска* ж. – паўдн. р.(ЛАБНГ, ЛП), *ляска* ж., *ляскаўка* ж. – паўдн. р.(ЛП, Мат. Гом., Усачова), *лешчаўка* ж. – паўдн. р. (ЛАБНГ, ЛП), *ляшчук* м. – паўдн. р. (ЛАБНГ, ЛП), *падляшчоўка* ж. – паўдн.р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, ЛП, З нар.сл.), *падлешчык* м. – пераважна ўсх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Каспяровіч, Жукаў), *крупель* м., *кругель* м., *круглік* м. — зах.-пал. г. (ЛП, ТС), *кромпль* м. – паўн. р. (Жукаў), *сухашчэпка* ж. – Чэрык. (ЛАБНГ), *сухарэбрыца* ж. — паўн.-зах.з. (Жукаў), *сухарэба* ж. — паўн.-зах.з., а таксама Вілен. р.(Усачова), *губар* м. – мясц. (Жукаў), *лётка* – паўн.р. (Каспяровіч, Жукаў, Усачова), *сівуха* – паўн. р. (Жукаў).

**Сінец**: *сіньга* ж., *сінец* м. – паўдн.р. (ЭПБ, Жукаў), *кляпец* м. – паўдн.р. (Жукаў), *лескаўка* ж. – усх.-пал.р. (ЛП).

**Белавочка**: *белавочка* ж., *кляпец* м., *глазач* м., *лупар* м., *сінец* м., *сіньга* ж. — паўдн. р. (Жукаў, ЭПБ, ЛЛБ, Усачова), *губар* м. – мясц. (Жукаў), *сопа* ж. – паўдн. р. (ЛП), *касатка* ж. – паўдн. р. (ТС, ЛП).

## Лінь

Рыба з брускаватым целам, пакрытым дробнай зеленавата-залацістай луской і густой слізззю, жыве ў зарасцях воднай расліннасці.

*лін* м., *лінь* м., *лінок* м. памяншн., *лінік* м. памяншн. — агульн. (СПЗБ, ЛП, СЦБ, НЛ, З нар.сл., Насовіч,

Шатэрнік, Каспяровіч, Бялькевіч, Янкоўскі, Шаталава, Усачова), *лень* м. — Гарад. (НЛ).

**Назвы па часе нерасту**: *ільнік* м. — Смален. р. (Дабравольскі), *наліўнік* м. — Смален.р. (Дабравольскі), *калінік* м. — паўдн.р. (Усачова), *альхóвік* м. — Смален. р. (Дабравольскі).

## Мінога

Невялікая рыбападобная жывёліна з целам шэрага колеру без лускі, формай нагадвае чарвяка і жыве ў рэчках на дне, закапаўшыся ў чысты пясок.

*вýгрыца* ж., *угрыца* ж. — Гродз., Уздз. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Жукаў), *гýгрык* м. — Жытк. (ТС), *верацёнка* ж., *верацённіца* ж., *верацéннік* м. — Маг.р., Гом.р. (СПЗБ, Жукаў, Мат. апыт.), *сік* м., *сікла* ж., *сікóлка* (*сікóўка*) ж., *сíкаўка* ж. — Маг., Бых., Петр. (ЖНС, Мат. Гом., Мат. апыт.), *мінóга* ж. — Астр. (СПЗБ), *вяртýх* м. — Раг. (СПЗБ), *свíга* ж. — Гродз. (Мат. апыт.), *піскýн* м.— Смален.р. (Дабравольскі), *уюн* м., *уюнчык* м., *юравіца* ж., *мянёга* ж. — мясц. (Жукаў).

## Мірон

Буйная рыба з доўгім цыліндрычным целам зеленавата-жоўтага колеру, пакрытым лускай, з вусамі пад рылам; жыве ў рэках у мясцінах з хуткім цячэннем, трымаючыся на дне.

*мірóн* м. — Маг.р., Гом.р. (Жукаў, ЛЛБ, Н.сл-сць), *марэ́на* ж., *марóна* ж. — паўдн. р. (Жукаў, ЛЛБ, Н.сл-сць), *келб* м., *гелб* м., *марскí келб* (*гелб*) — паўн.-зах.з. (Жукаў, ЛАБНГ, ЛЛБ, НЛ), *вусáч* м., *вансáч* м. — агульн.(СЦБ, ЛЛБ, Мат. апыт.).

## Мянтуз

Драпежная рыба, якая жыве ў халодных чыстых рэках і азёрах, трымаючыся на дне сярод камянёў і карчоў, з круглаватым падоўжаным целам з шэрай зеленаватай скурай у цёмных плямах, пакрытай вельмі дробнай лускай.

*мянтýз* м., *мянтýс* м., *мінтýз* м., *мінтýс* м., *мантýз* м. — агульн., пераважна ўсходняя частка Віц. і Маг. р., захад Гродз. р., паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар.сл., Бялькевіч, Насовіч), *мянёк* м. — цэнтр. з., паўдн. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Янкоўскі, Бялькевіч), *мень* м. — пераважна

### Цвыркаць (пра цвыркуна і коніка)

*цвы́ркаць* незак. – Леп., Чэрв., Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. апыт.), *цві́ркаць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *цы́ркаць* незак., *цырча́ць* незак. – Лаг., Мсцісл., Гом., Ельск. (ЛАБНГ, Шаталава, Насовіч), *цы́ргаць* незак., *сві́ргаць* незак. – Іўеў. (ЛАБНГ), *цвіры́каць* незак. – Івац. (ЛАБНГ), *цыкаце́ць* незак. – Ганц. (СПЗБ), *свірча́ць* незак. – мясц. (Насовіч), *чвырча́ць* незак. – Брасл. (ЛАБНГ), *свярша́ць* незак. – Драг. (3 нар.сл.), *цвурчэ́ць* незак. – Рас. (СПЗБ), *свергата́ць* незак. – Драг. (Н. сл-сць), *турча́ць* (*турчэ́ць*) незак. – Мёр., Смарг. (НС, Шаталава), *трашча́ць* незак. – Гродз. (ЛАБНГ), *страката́ць* незак. – Шчуч. (ЛАБНГ), *цyната́ць* незак. – Воран. (Мат. Гродз.).

### Ціўкаць (пра птушак, куранят)

*цы́ўкаць* незак. – Слаўг. (Мат. апыт.), *ці́ўкаць* незак. – агульн. (Мат. апыт.), *цілі́ўкаць* незак. – усх.-маг.р., Гом.р. (Мат. апыт.), *ці́пкаць* незак. – Іўеў. (СПЗБ), *цэ́ўкаць* незак. – Драг. (ЛП), *цы́ркаць* незак. – Уздз. (СЦБ), *ці́ркаць* незак. – Іўеў. (Сцяшковіч), *ціркаце́ць* незак. – Свісл. (Шаталава), *чырлі́каць* незак. – Гом. р. (НЛГ), *цы́гаць* незак. ’ціўкаць жалобна, працягла’ – Мсцісл. (Мат. апыт.), *кя́ркаць* незак., *ке́ркаць* незак. – ’ціўкаць хрыпла (пра вялікіх куранят)’ – Глыб., Мсцісл. (СПЗБ, Мат. апыт.).

### Шамацець (пра мышэй)

*шамаце́ць* незак. – усх.-маг.р., а таксама Леп., Добр., Лельч. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *шамята́цца* незак. – Брасл. (ЛАБНГ), *шарахце́ць* незак. – Пол. (ЛАБНГ), *шахаце́ць* незак., *шахце́ць* незак. – Дзятл. (ЛАБНГ), *ша́стаць* незак. – Дзятл., Карэл., Нясв.,Пух., Лун., Кобр. (ЛАБНГ), *шы́каць* незак. – Пух. (ЛАБНГ).

### Шчабятаць (пра ластаўку)

*шчабята́ць* незак. – Леп., Слаўг., Драг. (Мат. апыт.), *шчыкіта́ць* незак. – паўдн.р. (НЛГ), *піскаце́ць* незак. – Гродз. (Цыхун).

### Шыпець (пра гадзюку)

*шыпе́ць* незак. – агульн. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *сыпе́ць* незак. — Бар., Асіп., Нараўл. (ЛАБНГ), *сіпе́ць* незак. –

віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *сніпе́ць* незак. – Астр. (ЛАБНГ), *сапе́ць* незак. – Шарк. (ЛАБНГ), *шы́каць* незак. – Іўеў., Бар., Лун., Іван., Пін., Стол. (ЛАБНГ), *сы́каць* незак. – Верхнядзв., Валож., Воран., Пух., Ваўк., Зэльв., Саліг., Стол., Лельч. (ЛАБНГ, Шатэрнік, Станкевіч), *жы́каць* незак. – Пін. (ЛАБНГ), *сыча́ць* незак. – зах.-пал. г., а таксама Ваўк. (ЛАБНГ, ЛП), *пшыча́ць* незак. – Малар. (ЛАБНГ), *свіста́ць* незак. – Ашм., Воран., Іўеў., Дзярж., Пін., Стол. (ЛАБНГ), *шчыкаце́ць* незак. – Лун. (ЛАБНГ), *куда́каць* незак. – Калінк. (ЛАБНГ).

## 2.8.СЛОВЫ, ЯКІЯ АБАЗНАЧАЮЦЬ СТАН УЗБУДЖЭННЯ ЖЫВЫХ ІСТОТ

### Біцца

Знаходзіцца ў стане цечкі (пра кабылу).

*бі́цца* незак. – Іўеў., Чэрв., Пух., Драг., Лун., Стол., Жытк., Петр., Маз., Лельч. (ЛАБНГ, ТС, Шаталава, Тарнацкі, З нар.сл.), *палі́цца* незак. – Верхнядзв., Брасл., Ашм., Гродз., Дзятл., Хоц., Пруж., Брэсц., Жаб., Малар., Кобр., Драг., Іван., Пін., Браг. (ЛАБНГ), *грэ́цца* незак. – спарадычна зах.-пал. г. (Тарнацкі), *таўкці́ся* незак. – Воран. (ЛАБНГ), *бе́гаць* незак. – Добр., Лоеў., Лельч. (ЛАБНГ), *бе́гацца* незак. – Краснап. (ЛАБНГ), *палява́ць* незак. – Ушацк., Чэрык., Клім., Івац., а таксама зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Тарнацкі), *быдлава́ць* незак. – Ваўк. (ЛАБНГ), *пуша́цца* незак. – Карэл. (ЛАБНГ), *ягірава́ць* незак. – Жытк. (ТС), *ігра́ць* незак. – Калінк. (ЛАБНГ), *узніма́цца* незак. – Маг. (ЛАБНГ), *трэ́баваць* незак. — зах.-пал. г. (Тарнацкі), *быць за жарабка́мі, к жарабка́м, на жарабко́ў, пад жарабкі́* – Леп., Лаг., Мсцісл. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *быць у ахво́це* – Мядз. (ЛАБНГ).

### Гайняваць

Знаходзіцца ў стане цечкі.

**Пра ваўкоў:** *гайнява́ць* незак. – цэнтр. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ганьява́ць* незак. – Іўеў. (ЛАБНГ), *ганнява́ць* незак. – Асіп., Светлаг., Добр. (ЛАБНГ), *ганява́ць* незак. – Воран., Бар., Лях., Слуц., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гальнява́ць* незак. – Рэч., Калінк. (ЛАБНГ), *гандзява́ць* незак. – Нясв. (ЛАБНГ), *гандлява́ць* незак. – Панямр. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС), *гуля́ць*,

*гуляць вяселле* (*свадзьбу*)– паўн.-усх.д. (ЛАБНГ), *вадзіцца* незак. – Рэч. (ЛАБНГ), *вадзіць свадзьбу* — Чач. (ЛАБНГ), *цекаць* незак. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *цечыць* незак. – Бяроз. (ЛАБНГ), *бегаць* незак., *бегацца* незак. – Рас., Мсцісл., Ганц., Рэч., Добр., Малар., Лоеў., Браг. (ЛАБНГ), *палявáць* незак. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ), *красавáцца* незак. – Верхнядзв., Глыб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *падняцца на красы* – Верхнядзв., Рас., Пол., Паст., Докш., Мядз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *юравáцца* незак. – Ашм. (ЛАБНГ), *юравáць* незак. — Шчуч. (СПЗБ), *юрыцца* незак. – Івац. (ЛАБНГ), *юрыць* незак. – Віл., Іўеў.(ЛАБНГ), *руявáць* незак. – Люб. (ЛАБНГ), *руіць* незак. – Стол. (ЛАБНГ), *руйніцца* незак. – Воран. (ЛАБНГ), *рыскацца* незак. – Віл., Пух., Чэрв., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *рыскавáцца* незак. – Кір. (ЛАБНГ), *ігрáць* незак. – Чашн., Драг., Ельск. (ЛАБНГ), *таўчыся* незак. – Валож., Воран., Слон. (ЛАБНГ), *табуніцца* незак., *збірацца ў табун* – Валож., Бял., Бых. (ЛАБНГ), *раллявáць* незак. – Бяроз. (ЛАБНГ), *быдлавáць* незак. – Кам. (ЛАБНГ), *марцавáць* незак. – Гродз. (ЛАБНГ), *мардавáцца* незак. – Гом. (ЛАБНГ), *круціцца* незак. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *жаніцца* незак. – Бял. (ЛАБНГ), *хадзіць стáдам* (*табунáмі*) – Брасл. (ЛАБНГ), *хадзіць грамáдай* – Слон. (ЛАБНГ), *хадзіць на свечках* – Драг. (ЛАБНГ).

**Пра суку:** *гайнявáць* незак. – Клім., Стол., Лельч. (ЛАБНГ), *гандлявáць* незак. – Дзятл., Карэл., Нясв. (ЛАБНГ), *вадзіць гайню* – Калінк. (ЛАБНГ), *круціцца* незак. – паўн.-усх. д., а таксама Іўеў., Лельч. (ЛАБНГ), *рыскацца* незак. – Чэрв., Пух. (ЛАБНГ), *цекаць* незак. – зах.-пал.г. (ЛАБНГ), *бегаць* незак., *бегацца* незак. – Хоц., Добр., Малар. (ЛАБНГ), *гуляць* незак. – Маг., Чав. (ЛАБНГ), *ігрáць* незак. – Лоеў. (ЛАБНГ), *гукаць* незак. – Ваўк. (ЛАБНГ), *палявáць* незак. – Брэсц. (ЛАБНГ), *грэцца* незак. – Дзятл. (ЛАБНГ), *таўчыся* незак. – Воран. (ЛАБНГ), *быць (у ахвоце) да сабáк* – Леп., Маг. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *пабегалася* зак. – Леп. (Мат. апыт.).

## Гізаваць (пра кароў, цялят)

Імкліва бегаць, ратуючыся ад укусаў насякомых.

*гізавáць* незак. — паўн.-зах.з., а таксама Слаўт., Маз., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал., 3 нар.сл., Мат. Гродз., Сцяшковіч), *гілазавáць* незак. – Шчуч., Гродз. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Цыхун), *гірзавáць* незак. – Бял. (Яўсееў), *зыгавáць* незак. – Лаг. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *зігавáць*

*трэ́скаціца* незак. — зах.-пал. г. (Тарнацкі), *ламáцца* зак. — Рэч. (АЛА), *крутáцца* незак. — Брасл. (АЛА), *клякатáць* незак. — Свісл. (АЛА), *шляхатáць* незак. — Мсцісл. (Мат. апыт.), *пáдаць* незак. — Свісл. (АЛА), *узня́цца* (*падня́цца*) *на кнырóў* (*на кнуры́, на кірнóсы, на гукí, да гукóў, за кнурáмі, на кілуны́*) —Брасл., Шарк., Докш., Пол., Паст., Мядз., Смарг., Ашм., Віл., Круп., Воран., Навагр., Гор., Бых. (АЛА, ЛАБНГ, НС), *захацéць к хракáм* (*да кнурóў*) — Бярэз., Касц. (АЛА), *быць* (*у ахоце*) *за кабанáмі* (*да кабанóў, за кнурáмі, да кнурóў, на кнурóў, да кнырóў, за кілунáмі, за кнызазáмі, пад кнызазóў, за клікáмі, за хракáмі, пад гýкі*) — паўн.-усх. д. (АЛА, ЛАБНГ, Мат. апыт.).

## Пагукацца

Спарыцца (пра свінню).

*пагýкацца* зак. — Лун., Стол., Калінк., Маз. (ЛАБНГ, Янкоўскі), *пагýкаць* зак. — зах.-пал. г., а таксама Воран., Клім. (ЛАБНГ), *пагýкаваць* зак. — Ашм., Іўеў. (ЛАБНГ), *адгýкаць* зак. — Ваўк. (ЛАБНГ), *пагудзéць* зак. — Дзятл., Чэрв. (ЛАБНГ), *пакныравáць* зак. — Мядз., Дзятл., Карэл., Нясв., Пруж., Кобр. (ЛАБНГ), *пакнуравáць* зак. — Паст., Віл., а таксама Вілен.р. (СПЗБ), *папалявáць* зак. — Кобр., Малар. (ЛАБНГ), *пары́скаць* зак. — Бяроз., Іван. (ЛАБНГ), *пайгрáць* зак. — Лоеў. (ЛАБНГ), *пагуля́ць* зак. — Маг., Слаўг., Краснап. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *палёхацца* зак. — Брэсц. (ЛАБНГ), *парýхацца* зак. — Бабр. (АЛА), *пакры́цца* зак. — Леп. (Мат. апыт.).

## Меркетаць

Знаходзіцца ў стане цечкі (пра авечку).

*меркетáць* незак. — Воран., Пух., Петр., Маз. (АЛА, ЛАБНГ, 3 нар.сл.), *меркатáць* незак. — Смал. (АЛА), *меркітáць* незак. — Гродз., Зэльв., Пін. (АЛА), *меркетáцца* незак. — Бярэз., Пух., Маз. (АЛА, ЛАБНГ), *меркетавáць* незак. — Ганц., Стол. (АЛА, ЛАБНГ), *меркітавáць* незак. — Лід., Карэл. (АЛА, СПЗБ), *маркатáць* незак. — Лёзн., Шум., Воран., Гродз., Свісл., Зэльв., а таксама зах.-пал. г. (АЛА, Шаталава, СПЗБ, ЛАБНГ), *маркатáцца* незак. — Кам., Брэсц. (АЛА), *маркатавáць* незак. — Стаўб. (АЛА), *мархатавáць* незак. — Жытк. (АЛА), *маркітáць* незак. — Гродз., Маст., Ваўк., Зэльв., Свісл., Пруж., Бяроз., Кобр., Іван., Пін., а таксама Беластоц. р. (АЛА, ЛАБНГ, НЛ, ЖС, Цы-

хун), *смаркітáць* незак. – Драг. (ЛАБНГ), *маркітáцца* незак. – Старадарож., Бяроз., Лун. (АЛА, ЛАБНГ), *маркітавáць* незак. – Карэл., Стаўб. (АЛА, ЛАБНГ), *міркатáць* незак. – Саліг., Маз. (АЛА, ЛАБНГ), *міркаціцца* незак. – Асіп. (АЛА), *міркітáць* незак. – Слон. (Н. сл-сць), *міркітáцца* незак. – Пух. (ЛАБНГ), *міркітавáць* незак. – Шчуч., Дзятл., Навагр., Чэрв., Стаўб., Нясв., Лях. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, НС), *муркатáць* незак. – Брэсц., Жаб. (ЛАБНГ), *муркітáць* незак. – Івац., Драг. (ЛАБНГ), *мяркта́ць* незак. – Лельч. (АЛА), *марматáць* незак. – Беш. (АЛА), *марцавáць* незак. – Маз. (АЛА), *ры́скаць* незак. — зах.-пал.г. (ЛАБНГ, Тарнацкі), *ры́скацца* незак. – Кап. (АЛА), *рэ́скацца* незак. – Лун. (ЛАБНГ), *куцавáць* незак. – Ашм., Віл., Чэрык., Хоц., Лельч. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *катнавáць* незак. – Докш., Лаг. (АЛА, ЛАБНГ), *бéгаць* незак. – спарадычна зах.-пал. г., а таксама Смарг. (ЛАБНГ, АЛА, Тарнацкі), *бéгацца* незак. – Верхнядзв., Рас., Пол., Леп., Бял., Кліч., Рэч., Калінк., Лоеў. (АЛА, ЛАБНГ), *лётаць* незак. – Паст., Мядз. (ЛАБНГ), *лётацца* незак. – Мёр., Шарк. (АЛА), *палявáць* незак. – Стаўб., Саліг., а таксама зах.-пал. г. (АЛА, Тарнацкі), *цéкаваць* незак. – Іўеў., Валож., а таксама Вілен. р. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ), *цéкацца* незак. — зах.-пал. г. (Тарнацкі), *ця́каваць* незак. – Віл. (СПЗБ), *ігрáць* незак. – Акц., Лельч., Хойн. (АЛА, ЛАБНГ), *ігрáцца* незак. – Браг. (АЛА), *гуля́ць* незак. – Маг., Краснап., Бабр., Жлоб., Добр. (АЛА, ЛАБНГ), *палíцца* незак. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *бéчыцца* незак. – Мёр. (Шаталава), *бýкацца* незак. — зах.-пал. г. (Тарнацкі), *крутáцца* незак. – Брасл. (АЛА), *лáхацца* незак. — зах.-пал. г. (Тарнацкі), *баранавáць* незак. — зах.-пал. г. (Тарнацкі), *бы́ць (хацéць) за барáнам (за баранáмі, да баранóў, пад баранóў)* – паўн.-усх. д. (АЛА, ЛАБНГ, Мат. апыт.), *хацéць да маркачá* – Івац. (АЛА).

**Пабіцца**

Спарыцца (пра кабылу).

*пабíцца* зак. – Мядз., Іўеў., Чэрв., Пух., Лун., Стол., Жытк., Маз., Вілен. р. (СПЗБ, ЛАБНГ, ЖС), *адбíцца* зак. — зах.-пал. г. (ЛАБНГ, НЛ, Мат. апыт.), *патаўкцíся* зак. – Мядз. (НС), *папалíцца* зак. – Браг. (ЛАБНГ), *перапалíцца* зак. – Брасл. (ЛАБНГ), *пайгрáць* зак. – Калінк. (ЛАБНГ), *адхавáцца* зак. – Ашм. (ЛАБНГ), *пакры́цца* зак. – Леп. (Мат. апыт.).

**Памеркетаць**

Спарыцца (пра авечку).

*памеркетáць* зак. – Воран. (ЛАБНГ), *памеркетáцца* зак. – Стол., Маз. (ЛАБНГ), *памаркітáць* зак. – Пруж., Бяроз., Кобр., Іван. (ЛАБНГ), *адмаркітáць* зак. – Ваўк. (ЛАБНГ), *пасмаркітáць* зак. – Драг. (ЛАБНГ), *памаркітавáць* зак. – Карэл.(ЛАБНГ), *паміркітáць* зак. – Пух. (ЛАБНГ), *паміркітавáць* зак. – Дзятл., Чэрв., Нясв. (ЛАБНГ), *памуркатáць* зак. – Брэсц. (ЛАБНГ), *памуркітáць* зак. – Драг. (ЛАБНГ), *пары́скаць* зак. – Пін., Стол. (ЛАБНГ), *парэ́скацца* зак. – Лун. (ЛАБНГ), *пакуцавáць* зак. – Ашм., Чэрык., Хойн. (ЛАБНГ), *пакатнавáць* зак. – Лаг. (ЛАБНГ), *пабéгаць* зак. – Мсцісл., Малар. (ЛАБНГ), *пабéгацца* зак. – Рас., Леп., Мсцісл. (АЛА, Мат. апыт.), *палётаць* зак. – Мядз. (ЛАБНГ), *пацéкаваць* зак. – Іўеў. (ЛАБНГ), *пагуля́ць* зак. – Маг., Краснап., Бабр., Добр. (ЛАБНГ).

**Паляваць**

Знаходзіцца ў стане цечкі (пра карову).

*палявáць* незак. – пераважна Мін.р., Гродз.р., а таксама Нясв., Чэрв., Слаўг., Пін., Стол., Жытк., Петр., Калінк., Маз. ( ЛАБНГ, АЛА), *бéгаць* незак. – паўдн.-зах.д. і зах.-пал.г., а таксама Маг.р. (ЛАБНГ, АЛА, З нар.сл., Цыхун), *бéгацца* незак. – Дубр., Дзятл., Бярэз., Карэл., Кліч., Краснап., Касц. (ЛАБНГ, АЛА, Шаталава), *быдлавáць* незак. – Гродз., Свісл., Ваўк., Івац., Брэсц., Кам., Іван., а таксама Беластоц. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Цыхун, Тарнацкі), *гуля́ць* незак. – Жлоб., Добр., Маз., Лельч. (ЛАБНГ, АЛА, З нар.сл.), *ігрáць* незак. – Раг., Светлагор., Рэч., Калінк., Хойн., Браг. (ЛАБНГ, АЛА), *ламáцца* незак. – Пол., Беш. (ЛАБНГ), *узня́цца, падня́цца к быкáм* (*на быкí, пад быкí, да быкóў, пад валы́*), *круцíцца к быкáм, захацéць к быкáм* (*да быкóў, на быкóў*), *быць у ахóце за быкáмі* (*к быкáм*), *хацéць быкóў* (*да быкóў*) – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. апыт.), *узбýрыцца* незак. – Іўеў. (ЛАБНГ), *гайнавáць* незак. – Хойн. (АЛА, ЛАБНГ), *стадавáць* незак.—Ашм. (ЛАБНГ).

**Папаляваць**

Спарыцца (пра карову).

*папалявáць* зак. – Гродз., Чэрв., Нясв., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *пабéгаць* зак. – Докш., Мядз., Воран., Іўеў.,

Мсцісл., Клім., Карэл., Пух., Калінк., Маз., а таксама зах.-пал. г.(ЛАБНГ, Янкоўскі), *пабе́гаціца* зак. – Гродз., Дзятл., Навагр., Маг., Чав., Мсцісл., Чэрык., Клім., Краснап., Лоеў. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Янкова), *пабыдлава́ць* зак. – Гродз. (Цыхун), *пагуля́ць* зак. – Маг., Чав., Мсцісл., Маз., Лельч. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *пастадава́ць* зак. – Ашм. (ЛАБНГ), *пахадзі́цца* зак. – Лёзн. (АЛА), *абыйсці́ся* зак. – Рас. (Шаталава), *папа́дацъ* зак. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *пакры́цца* зак. – Леп., Лаг., Валож., Нясв., Мсцісл., Старадарож. (ЛАБНГ, ЖНС, Мат. апыт.), *палётаць* зак. – Мядз. (СЦБ), *заляце́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка).

### Таптаць

Спарвацца (пра птушак).

*таптáць* незак. – агульн. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ігра́ць* незак. –паўдн.-зах.д. (ЛАБНГ), *гуля́ць* незак. — Маг. р., Гом. р., усх.-пал.р. (ЛАБНГ), *веснава́ць* незак. – Іўеў., Воран., Шчуч. (ЛАБНГ), *шчу́пацъ* незак. – Лун., Калінк. (ЛАБНГ), *шчу́пацца* незак. – Драг. (ЛАБНГ), *стадава́ць* незак. – Пол. (ЛАБНГ), *пляска́ць* незак. – Драг. (ЛАБНГ), *чаві́ць* незак. – Стол. (Мат. апыт.), *душы́ць* незак. – Воран. (ЛАБНГ), *гнясці́* незак. – Рэч. (ЛАБНГ), *ла́зіць* незак. – Лун. (ЛАБНГ).

## 2.9. СЛОВЫ, ЯКІЯ АБАЗНАЧАЮЦЬ ПРЫВЯДЗЕННЕ ЖЫВЫМІ ІСТОТАМІ ПАТОМСТВА

### Адкласці яечкі (пра насякомых)

*заплaдзі́ць* зак. — Мсцісл. (Юрчанка); **пра пчол**: *зачарві́ць* зак., *начарві́ць* зак. – агульн. (Мат. апыт.), *зачары́ць* зак. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *закрапі́ць* зак. — паўдн.р. (Мат. апыт.).

### Ажарабіцца

Вызваліцца ад бярэмя (пра кабылу).

*ажарабі́цца* зак. – агульн. (Мат. апыт.), *жарабі́цца* незак. – віц.-маг. г. (Мат. апыт.), *ажарабі́ць* зак., *жарабі́ць* незак. 'прывесці жарабя' – віц.-маг. г. (Мат. апыт.).

**Аказіцца**

Вызваліцца ад бярэмя (пра казу).

*аказіцца* зак. – (Мат. апыт.), *аказляніцца* зак., *казляніцца* незак. – усх.-маг. р. (Юрчанка, Мат. апыт.), *аказліцца* зак., *казліцца* незак. – Шум. (СПЗБ), *аказляніць* зак., *казляніць* незак. 'прыводзіць казлянят' – усх.-маг. р. (Мат. апыт.).

**Акаціцца**

Вызваліцца ад бярэмя (пра авечку).

*акаціцца* зак. – агульн. (ДАБМ, СПЗБ), *каціцца* незак. – віц.-маг. г. (ДАБМ, З нар.сл.), *скаціцца* зак. – Гор. (ДАБМ), *абкаціцца* зак. – Малар. (ДАБМ), *аягніцца* зак., *ягніцца* незак. – паўн. р. (ДАБМ), *ацяліцца* зак. – Плешч. (ДАБМ), *акаціць* зак., *каціць* незак. 'прыводзіць ягнят' — усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *акóтваць* незак., *кóтаваць* незак. – паўн.-зах.з., а таксама Вілен. р. (СПЗБ).

**Акацяніцца**

Вызваліцца ад бярэмя (пра кошку).

*акацяніцца* зак., *кацяніцца* незак. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ, Насовіч, Юрчанка, Мат. апыт.), *акашы́цца* зак. – Леп. (Мат. апыт.), *акаціцца* зак. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *апарасіцца* зак. – Карэл., Нясв., Чэрв. (ЛАБНГ), *акацяніць* зак., *кацяніць* незак. 'прыводзіць кацянят' – усх.-маг.р. (ЛАБНГ, Мат. апыт.).

**Апарасіцца**

Вызваліцца ад бярэмя (пра свінню).

*апарасіцца* зак. – агульн. (Мат. апыт.), *парасіцца* незак. — усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *апарасіць* зак., *парасіць* незак. 'прыводзіць парася' – усх.-маг. р. (Мат. апыт.).

**Атрусіцца**

Вызваліцца ад бярэмя (пра труску).

*атрусіцца* зак. – агульн. (НС, Мат. апыт.), *трусіцца* незак. – усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *акраліцца* зак. – Лельч. (ЛАБНГ).

### Ацяліцца

Вызваліцца ад бярэмя (пра карову, а таксама ласіху, аленіху).

*ацяліцца* зак. – агульн. (СПЗБ, Станкевіч, Мат. апыт.), *цяліцца* незак. – усх.-маг.р. (Мат. апыт.), *расцяліцца* зак. – Вілен.р. (СПЗБ), *вы́целіцца* зак. – Пух. (СЦБ), *акі́дацца* зак. – Слон. (Н. сл-сць), *акі́нуцца* зак. – Лоеў. (Янкова), *ацялі́ць* зак. 'прывесці цяля' — агульн. (Мат. апыт.).

### Ашчаніцца

Вызваліцца ад бярэмя (пра суку).

*ашчані́цца* зак. – агульн. (Мат. апыт.), *шчані́цца* незак. – віц.-маг. г. (Мат. апыт.), *апарасі́цца* зак. – Карэл., Нясв., Кобр. (ЛАБНГ), *ашчані́ць* зак. 'прывесці шчанят' — агульн. (Мат. апыт.).

### Нераст

Працэс адкладання самкамі рыб ікры і апладнення яе самцамі.

*не́раст* м. – агульн., за выключэннем паўн.р. (ЛАБНГ, Шатэрнік, Насовіч), *но́раст* м. – паўн. р. (ЛАБНГ, З нар.сл.), *не́расць* ж. – Бяроз., Кобр., Жаб. (ЛАБНГ), *не́рас* м. – Навагр., Карм., Капыл., Жлоб., Калінк., Лельч. (ЛАБНГ), *не́ра* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *рас* м. – Нясв. (ЛАБНГ), *нераставá́нне* н. – агульн. (Мат. апыт.), *нерас-то́ўка* ж. – Раг. (ЛАБНГ), *бо́йла* н. – Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, НС), *бой* м. – Жытк. (ТС).

### Нераставаць

Адкладаць і апладняць ікру (пра рыбу).

*нераставá́ць* незак. – агульн., за выключэннем паўночнай часткі паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, Шатэрнік, Насовіч), *нарас-тавá́ць* незак. – паўночная частка паўн.-зах.з. (ЛАБНГ), *не-расавá́ць* незак. – Навагр., Капыл., Калінк. (ЛАБНГ), *расавá́ць* незак. – Нясв. (ЛАБНГ), *це́рціся* незак. – усх.-маг.р. (ЛАБНГ), *мята́цца* незак. – Рэч. (ЛАБНГ), *бі́цца* незак. – Ушацк., Мсціcл., Клім., Рэч., Стол., Лельч. (ЛАБНГ), *ігра́ць* незак. – Кам. (ЛАБНГ), *гуля́ць* незак. – Карм. (ЛАБНГ), *пуска́ць не́расць* (*ікру́*) – Краснап., Пруж., Драг., Бяроз. (ЛАБНГ).

**Нерасцілішча**

Месца нерасту рыбы.

*нерасцілішча* н. – агульн. (Мат. апыт.), *бо́йла* н. — Жытк. (НС).

**Несціся**

Рабіць кладку яец (пра птушак).

*не́сціся* незак. – агульн. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *нясці́ся* незак. – паўн.-зах.з. (ЛАБНГ), *не́сца* незак. – усх.-маг.р. (Мат. апыт.), *кла́сціся* незак. – Нясв., Пруж. (ЛАБНГ), *ліць* незак. 'несці яйцы без шкарлупін' – агульн. (ЛАБНГ, Мат. апыт.).

**Раіцца**

Утвараць новую сям'ю (рой) і вылятаць з вулля.

*раі́цца* незак. – агульн. (ЛП), *ро́іцца* незак. – Брасл., Ваўк. (СПЗБ).

**Скінуць**

Дачасна пазбавіцца ад цяжарнасці

*скі́нуць* зак. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Янкова), *скі́нуцца* зак. – Воран., Іўеў. (ЛАБНГ), *скі́дацца* зак. – Гродз., Бераст., Зэльв., Ваўк., Кам., Пруж. (ЛАБНГ), *зве́ргнуць* зак. – паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., спарадычна і ў іншых месцах (ЛАБНГ, СЦБ, З нар. сл.), *ссы́паць* зак. – Ушацк., Віл., Іўеў. (ЛАБНГ).

## 2.10. СЛОВЫ, ЯКІЯ АБАЗНАЧАЮЦЬ ЗДАБЫВАННЕ ЖЫВЫМІ ІСТОТАМІ ЕЖЫ, ІХ ХАРЧАВАННЕ І КАРМЛЕННЕ

**Дзяўбці**

*дзяўбці́* (*дзяўбсці́, дзёбаць*) незак., *дзяўба́ць* незак., *дзёўбаць* незак. – асн.мас.г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч), *даўбці́* незак., *даўба́ць* незак. – паўдн.р. (ЛАБНГ), *дзя́баць* незак. – Жаб. (ЛАБНГ), *дзяба́ць* незак. – Гродз. (ЛАБНГ), *дзю́баць* незак. – паўн.-зах.з., а таксама Браг., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *дзюба́ць* незак. – Вілен.р. (СПЗБ), *клява́ць* незак. –

усх. з. (ЛАБНГ), *глявáць* незак. — Маладз., Чэрв., Малар. (ЛАБНГ), *глёгаць* незак. — Малар. (ЛАБНГ).

### Жаваць (жвачку)

*жавáць* незак. — паўдн.-зах.д. (АЛА), *жваць* незак. — паўн.-усх.д. (АЛА), *жвакавáць* незак. — Валож., Маладз., Іўеў., Мін., Уздз., Чэрв. (АЛА), *пераядáць* незак. — Воран. (АЛА), *чвéліць* незак. — Пол. (АЛА).

**Жвачка**: *жвáчка* ж. — паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ), *жвáка* ж. — паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ), *жвáйка* ж. — Саліг., Карэл. (АЛА, Н. сл-сць), *жвáнка* ж. — Лоеў. (Янкова, Мат. Гом.), *жвя́ка* ж. — Пол., Гарад. (АЛА), *жвя́нка* ж. — Рас. (СПЗБ), *жмáка* ж. — Чэрв. (ЛАБНГ, НС), *жýйка* ж. — паўдн.-зах.д. (ЛАБНГ), *жуя́ка* ж. — Маз. (АЛА), *жуя́чка* ж. — Ваўк. (ЛАБНГ), *жувáйка* ж. — Капыл. (АЛА).

### Карміцца (пра птушак, рыбу)

*кармíцца* незак. — агульн. (Мат. апыт.), *жыравáць* незак. — паўдн.р., а таксама Ушацк. (ЛАБНГ, ЛП, ТС), *жыры́цца* незак. — Гарад. (НЛ).

### Лавіць (здабычу — пра ката і інш.)

*лавíць* незак. — асн.мас.г. (ЛАБНГ), *лавáць* незак. — паўдн.р. (ЛАБНГ), *лáпаць* незак. — Кам., Брэсц., Драг. (ЛАБНГ), *лапáць* незак. — паўн.-зах.з. (ЛАБНГ), *мышкавáць* незак. 'лавіць мышэй (пра лісу, ката)' — Іўеў., Дзятл., Карэл., Чэрв., Жытк. (СПЗБ, ТС).

### Пільнаваць (здабычу — пра ката і інш.)

*пільнавáць* (*пілнавáць*) незак. — агульн. (ЛАБНГ), *піднавáць* незак. — Зэльв., Пух., Бых., Бабр. (ЛАБНГ), *пільнявáць* незак. — паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *цікавáць* незак. — Мёр., Мядз., Лаг., Сен., Чашн., Тал., Бял., Дубр., Бераст., Шчуч., Валож., Нясв., Дзярж., Кір., Раг., Пін., Стол., Старадарож., Гл., Петр., Бабр., Рэч., Лельч. (ЛАБНГ), *сцігавáць* незак. — Лаг. (ЛАБНГ), *чатавáць* незак. — Ваўк., Кобр. (ЛАБНГ), *чаткавáць* незак. — Іван. (ЛАБНГ), *сцерагчы́* незак. — Мсцісл., Чав., Калінк., Рэч., Добр., Лельч. (ЛАБНГ), *берагчы́* незак. — Добр. (ЛАБНГ), *каравýліць* незак. — Гарад. (ЛАБНГ).

## Рыць

*рыць* незак. – агульн. (Мат. апыт.), *мышава́ць* незак. – Вілен.р. (СПЗБ), *кны́саць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ).

## Скубці

*ску́бці* (*скубсці́, скусць*) незак. – агульн. (Мат. апыт.), *сму́гаць* (*цму́гаць*) незак. – Жытк. (Мат. апыт.).

## Ссаць

*ссаць* незак. – агульн. (Мат. апыт.), *со́сіць* незак. – паўн.р. (Мат. апыт.), *су́сліць* незак. – усх.-маг.р. (Насовіч, Мат. апыт.), *ду́ньдзіць* незак. эмац. – Ваўк., Шчуч., Маладз., Мсцісл. (СПЗБ, ЖНС, Мат. апыт.).

## Цмактаць

*цмакта́ць* незак. — агульн. (Мат. апыт.), *смакта́ць* незак. – усх.-маг.р. (Бялькевіч, Юрчанка, Мат. апыт.).

# 2.11. СЛОВЫ, ЯКІЯ АБАЗНАЧАЮЦЬ НАПАДЗЕННЕ ЖЫВЫХ ІСТОТ АБО ІХ АБАРОНУ І ІНШЫЯ ДЗЕЯННІ

## Бадаць (пра карову)

Біць ілбом, калоць рагамі.

*басці́* незак., *басці́ся* незак. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, АЛА), *бада́ць* незак., *бада́цца* незак. – спарадычна паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, АЛА, ЖНС, НС, Насовіч), *кало́ць* незак., *кало́цца* незак. – паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ), *паро́ць* незак., *паро́цца* незак. – Валож., Дзятл., Дзярж., Мін., Пух., Нясв., Бабр. (ЛАБНГ, АЛА), *баро́ць* незак., *баро́цца* незак. – Гродз. р., Слуц. р., а таксама Барыс., Пруж., Бяроз., Лун. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз.), *бі́ць* незак., *бі́цца* незак. – пераважна паўдн.р. (ЛАБНГ, АЛА), *сцяна́цца* незак. – Навагр. (ЛАБНГ).

## Брыкаць (пра каня)

Біць, ударацць заднімі нагамі.

*брыка́ць* незак., *брыка́цца* незак. – агульн. (СПЗБ, Шаталава, Насовіч, Мат. апыт.), *свіста́ць* незак., *свіста́цца*

незак. – усх.-маг. р. (Насовіч, Мат. апыт.), *трóпаць* незак., *трóпаціца* незак. – Мёр. (НС, Насовіч), *цóпаць* незак. – Раг. (НЛГ), *ягáць* незак., *ягáцца* незак. – Чэрв. (Мат. мін.-мал.).

### Джаліць

Раніць, калоць джалам.

*джáліць* незак. – пераважна паўдн.-зах.д. (Мат. апыт.), *жáліць* незак. – усх.-маг.р. (Мат. апыт.), *джгáліць* незак. – зах.-бран.р. (Растаргуеў), *джáбаць* незак. – Жытк. (Н. слсць).

### Шчыпаць (пра ракаў, насякомых, птушак)

Моцна, з сілай зашчамляць скуру дзюбай, клюшняй і пад.

*шчыпáць* незак., *шчыпáцца* незак. – агульн. (Мат. апыт.), *гнібáць* незак., *гнéмбіць* незак. – паўн.-зах.з. (СПЗБ).

## 2.12. АБАЗНАЧЭННІ НЕКАТОРЫХ ДЗЕЯННЯЎ ЖЫВЫХ ІСТОТ

### Адзічэць

Зрабіцца дзікім, непрыручаным.

*адзічáць* зак. – паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *адзічэ́ць* зак. – паўн.-усх.д. (ЛАБНГ), *адзíчаць* зак. – Чав. (ЛАБНГ), *здзíчыцца* (*зды́чытыся*) зак. – Драг., Малар. (ЛАБНГ).

### Здохнуць

Акалець, памерці (пра жывёлу, насякомых).

*здóхнуць* зак., *здóхці* зак. – агульн. (Мат. апыт.), *пáсці* зак. 'пра буйных жывёл' – усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *памéрці* зак. 'пра пчол' – агульн. (Мат. апыт.), *сцярáцца* (*стыря́тысь*) зак. – Драг. (Мат. апыт.).

**Падла**: *пáдла* ж. – агульн. (АЛА, Насовіч), *падлíна* ж. – Беш., Паст., Гродз., Драг. (АЛА, НС), *пáдліна* ж. – Бял., Бяроз. (АЛА, Насовіч), *пáдаліна* ж. – Паст. (АЛА), *пáдаль* ж. – пераважна ўсх. з. (АЛА), *пáдзежына* ж. – Гарад. (АЛА), *пáдзезіна* ж. – Беш. (АЛА, НС), *пáдзеж* (*пáдзезь*) ж. – Беш.

(НС), *падóхля* ж. – Житк. (ТС), *дыхлíна* – Калінк. (ЛАБНГ), *здыхлíна* ж. – пераважна зах.з. (АЛА), *здыхля́ціна* ж. – агульн. (АЛА, Насовіч), *дыхля́ціна* ж. – усх.-маг.р. (Станкевіч, Мат. апыт.), *здыхля́чына* ж. – паўн.р. (Каспяровіч).

### Злаваць (пра каня)

Выяўляць прыкметы агрэсіі ў паводзінах.

*хмы́ліцца* незак. – паўн.р., а таксама Ашм., Лаг., Мсціcл., Чэрв., Слаўг., Нясв., Добр., Лун., Стол. (ЛАБНГ, Насовіч), *плёшчыць вýшы* – Брэсц. (ЛАБНГ), *закапы́ліць хрáпу* — Капыл. (Мат. апыт.).

### Ліняць

Скідваць ці мяняць у пэўныя перыяды сваё верхняе покрыва.

*ліня́ць* незак. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ліна́ць* незак. – паўн.-усх.д. (Мат. апыт.), *лізма́ць* незак. – Петр. (Шаталава).

### Наравіцца (пра каня)

Упарціцца, паказваць свой нораў.

*наравíцца* незак. – агульн., за выключэннем віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *натýрыцца* незак. – пераважна віц.-маг. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП), *зацінáцца* незак. – гродз.-бар. г. (ЛАБНГ).

### Поўзаць

Перамяшчацца па паверхні, рухаючыся ўсім целам (пра паўзуноў); перамяшчацца, лежачы на жываце (пра некаторых жывёл).

*пóўзаць* незак. – агульн. (АЛА), *ла́зіць* незак. – Маст. (АЛА), *вíцца* незак. – Астр. (Мат. Гродз.).

### Разявіць (рот, пашчу)

Шырока раскрыць.

*разя́віць* незак. — асн.мас.г. (ЛАБНГ), *раззя́віць* незак. — зах.-пал. г., а таксама спарадычна паўдн.-зах. з. (ЛАБНГ,

ТС), *разя́піць* незак. – Бабр. (ЛАБНГ), *разня́ць* незак. – паўн.р. (ЛАБНГ), *разі́нуць* незак. – пераважна віц.-маг. г. (ЛАБНГ).

### Скаляваць

Наведваць стаўку або дупло, адшуканыя для засялення (пра пчол перад раеннем).

*іскава́ць* незак. – пераважна паўн.-усх.д. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, З нар.сл.), *паіскава́ць* незак. – Брасл., Рас., Шум., Докш., Барыс., Круп., Іўеў., Бярэз., Хоц., Івац., Стол. (ЛАБНГ, ЛП, З нар.сл.), *скалява́ць* незак. – паўдн.-зах.д. (ЛАБНГ, ЛП, НС, З нар. сл.), *скаллява́ць* незак. – Слаўг. (НС), *скалі́ць* незак. – Раг. (ЛАБНГ), *скаллі́ць* незак. – Светлагор. (ЛАБНГ), *ска́ліць* незак. – Раг., Ветк., Ганц. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *ска́лліць* незак. – Кір., Карм., Жлоб., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *пары́скаць* зак. – Бераст. (ЛАБНГ).

### Стрыгчы вушамі (пра каня)

Паводзячы вушамі, прыслухоўвацца.

*стры́гчы* незак. – агульн. (ЛАБНГ), *стры́гаць* незак. – Пол. (ЛАБНГ), *пра́сці* незак. – зах.-пал. г., а таксама Навагр., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *тро́паць* незак. – Бял., Бых., Касц., Чач. (ЛАБНГ), *стрэ́паць* незак. – Іўеў. (ЛАБНГ), *кра́таць* незак. – Леп., Асіп., Рэч. (ЛАБНГ), *тапы́рыць ву́шы, натапы́рваць ву́шы* — Гор., Кругл., Слаўг., Раг., Саліг., Маз. (ЛАБНГ), *дубу́рыць* (*дубы́рыць*) *ву́шы, надубуры́ць* (*надубы́рыць*) *ву́шы* – Гор. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *нашарэ́піцца* зак. – Люб. (ЛАБНГ), *наста́віць* (*паста́віць*) *ву́шы* – Люб., Рэч. (ЛАБНГ).

### Счысціцца

Пазбавіцца пасля родаў ад плацэнты.

*счы́сціцца* зак. – пераважна паўн.-усх.д. (ЛАБНГ), *ачы́сціцца* (*ачы́сціціся*) зак. – пераважна паўдн.-зах.д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *схарашы́цца* незак. – Старадарож., Маз. (ЛАБНГ).

### Церабіцца (пра курэй)

Чысціцца дзюбай; рабіць дробныя, частыя рухі, вызваляючыся ад каго-, чаго-небудзь.

*церабі́цца* незак. – Мсцісл., Слаўг., Старадарож. (Мат. апыт.), *сцéпацца* незак. – Драг. (Мат. апыт.), *капашы́цца* незак. – Слаўг. (Мат. апыт.), *шарашы́цца* незак. – Люб. (Мат. апыт.), *шчýпацца* незак. – Лоеў. (Янкова).

### Шчэрыць

Агаляць, паказваць зубы.

*шчэ́рыць* незак. — пашыр. (Мат. апыт.), *скáліць* незак. – усх.-маг.р. (Мат. апыт.).

## 2.13. СЛОВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ ПРЫКМЕТЫ ПА АДНОСІНАХ ДА ПРАДСТАЎНІКОЎ ЖЫВЁЛЬНАГА СВЕТУ АБО ПА ПРЫНАЛЕЖНАСЦІ ІМ

### Авечы

*авéчы* прым. – Верхнядзв., Паст., Валож., Гродз., Стаўб., Бярэз., Старадарож., Ганц., Іван., Пін., Жытк. (СПЗБ, Мат. апыт.), *гавéчы* прым. – Шчуч., Маст. (СПЗБ), *авéччы* прым. – усх.-маг. р., а таксама Брэсц., Драг., Маз. (Бялькевіч, Мат. Маг., Мат. апыт.), *авя́чы* прым. – Брасл., Паст. (СПЗБ, Станкевіч), *гавя́чы* прым. – Шчуч. (СПЗБ), *авя́ччы* прым. – Мёр., Паст. (НС, СПЗБ), *авéчачы* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.).

### Бабровы

*бабрóвы* прым., *бабрóў* прым. – Мсцісл., Жытк. (Мат. апыт.), *бабры́ны* прым. – Навагр. (Мат. Гродз.).

### Барсуковы

*барсýччы* прым. – Раг. (НЛГ), *барсучы́ны* прым. – Дзятл., Мсцісл. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *барсукóвы* прым., *барсукóў* прым. – Мсцісл. (Мат. апыт.).

### Буслаў, бусліны

*буслíны* прым. – у межах пашырэння назвы *бýсел* (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *бýславы, бýслаў, буслóвы, буслóў* прым. – сярэд.-бел.г. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. апыт.), *бусля́чы* прым. – Навагр., Нясв., Бяроз. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *бýськавы, бýськаў, буськóвы, буськóў* прым. – зах.-пал. г., а таксама Івац.,

Ганц., Жытк. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *бýсеневы* прым. – зах.-пал.г. (ЛАБНГ), *бýсюнавы* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.), *бацянóвы* прым., *бацянóў* прым. — паўн.-зах.з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бацяныі* прым. – Мёр. (Мат. апыт.), *бацянскі* прым. – Воран. (Мат. апыт.), *буцшны* прым. – Арш. (ЛАБНГ), *буцянóвы* прым. – віц.-маг. г. (Мат. апыт.), *буцяніны* прым. – Чав. (ЛАБНГ), *буцяны́* прым. – Хоц. (ЛАБНГ).

## Бычыны

*бычы́ны* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *быча́чы* прым. — усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *быча́ччы* прым. – усх.-маг.р. (Мат. апыт.).

## Вавёрчын

*вавёрчын* прым., *вавёрчыны* прым. – Мёр., Паст., Астр., Валож., Навагр., Бярэз., Ганц., а таксама зах.-пал. г. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *вавёркавы* прым. – Воран., Жытк. (Мат. апыт.), *вавёркін* прым., *вавёркіны* прым. – Навагр., Слаўг. (Мат. апыт.), *яёрчын* прым., *яёрчыны* прым. – Карэл. (Мат. апыт.), *бéлкін* прым. – усх.з. (Мат. апыт.), *бéлчын* прым. – Іван. (Мат. апыт.).

## Варонін

*варóніны* прым. – Паст., Стаўб., Навагр., Карэл., Старадарож., Краснап., Пруж. (Мат. апыт.), *варóнні* прым. – Мёр., Леп., Бяроз., Мсцісл., Слаўг. (Мат. апыт.), *варóнавы* прым. – Драг. (Мат. апыт.), *варóнячы* прым. – Воран., Жытк. (Мат. апыт.), *варанякóвы* прым. – Пін. (Мат. апыт.), *варанáччы* прым. – Слаўг. (Мат. апыт.).

## Вераб'іны

*вераб'íны* прым., *верабíны* прым. – асн. мас. г. (Мат. апыт.), *вараб'íны* прым. – Жытк. (Мат. апыт.), *варóбухавы* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.), *гараб'ёвы* прым. – Пін. (Мат. апыт.), *гарабéшкавы* прым. – Пін. (Мат. апыт.), *гараб'íны* прым. – Іван. (Мат. апыт.), *арабушы́ны* прым. – Бяроз. (Мат. апыт.), *шварабавы* прым. – Драг. (Мат. апыт.).

## Вожыкаў

*важы́ны* прым. – Стаўб. (СПЗБ), *ёжыкавы* прым. – Мсцісл., Ельск. (Мат. Гом., Мат. апыт.), *ёжычы* прым. – Хойн. (Мат. Гом).

**Воўчы**

*воўчы* прым. – паўдн.-зах.д. і сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. апыт.), *ваўчыны* прым. – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. апыт.).

**Гусіны**

*гусіны* прым. – пераважна паўн.-усх. д. (Мат. апыт.), *гусячы* прым. – Слуц., Шчуч., Бяроз., Драг. (СПЗБ, Мат. апыт.), *гусяччы* прым. – Слаўг., Іван. (Мат. апыт.), *гусячы* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.).

**Жабін, жабіны**

*жабіны* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *жаб'і* прым. – паўн.-зах. з., а таксама Гродз., Мсцісл., Бых., Краснап. (Мат. апыт.), *жабі* прым. – Валож., Мін., Бярэз., Ганц. (Мат. апыт.), *жабячы* прым. – паўдн.-усх. з. (Мат. апыт.), *жабяччы* прым. – Слаўг., Добр. (Мат. апыт.), *жабны* прым. – Карм. (Мат. апыт.), *жабскі* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.).

**Заячы, заечы**

*заячы* прым. – Паст., Бярэз., Краснап., Навагр., Бяроз., Пруж., Брэсц. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *зяччы* прым. – Слаўг., Мсцісл. (Бялькевіч, Мат. апыт.), *заечы* прым. – Старадарож., Ганц., Жытк. (Мат. апыт.), *заеччы* прым. – Чэрв., Драг. (Шатэрнік, Мат. апыт.), *зайчы* прым. – Мёр., Віл., Валож., Карэл., Іван., Пін. (СЦБ, Мат. апыт.), *зайцавы* прым., *зайцаў* прым. – Астр., Стаўб. (Мат. Гродз.), *зайчыны* прым. – Воран., Навагр., Мсцісл., Слаўг., Краснап. (Мат. апыт.).

**Звярыны**

*звярыны* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *звярынны* прым. – Іван. (Мат. апыт.), *зверавы* прым. – Бярэз. (Мат. апыт.), *зверскі* прым. – Карэл., Навагр. (Мат. апыт.), *звярачы* прым. – Драг., Брэсц. (Мат. апыт.), *дзічыны* прым. – Воран. (Мат. апыт.).

**Змяіны**

*змяіны* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *змяінны* прым. – Іван. (Мат. апыт.), *змяячы* прым. – Драг. (Мат. апыт.),

*вужа́ччы* прым. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *гадзю́чы* прым., *гадзю́кавы* прым. – Воран. (Мат. апыт.), *га́дскі* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.).

**Казіны**

*казі́ны* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *казя́чы* прым. – Брэсц., Драг., Пін. (Мат. апыт.), *казе́ччы* прым. – Слаўг. (Мат. апыт.), *казе́чы* прым. – Іван. (Мат. апыт.).

**Каровін**

*каро́ўскі* прым. – усх.-маг. р., а таксама Паст., Леп., Навагр., Старадарож. (Юрчанка, Мат. апыт.), *каро́вячы* прым. — зах.-пал. г., а таксама Воран., Ганц., Жытк. (Мат. апыт.), *каро́вяччы* прым. – Лоеў. (Янкова), *каравя́чы* прым. – Бярэз., Маст., Драг., Бяроз. (СПЗБ, Мат. апыт.), *караўля́чы* прым. – Пін. (Мат. апыт.), *каро́віны* прым., *каро́він* прым. – Навагр., Карэл., Стаўб., Старадарож. (Мат. апыт.), *каро́ві* прым. – Валож., Іван. (Мат. апыт.), *каро́ўі* прым. – Мёр., Мсцісл. (Мат. апыт.), *тава́раччы* (*тава́рачы*) прым. – паўдн. р. (Мат. Гом., Мат. апыт.).

**Кацiны**

*кацíны* прым. – пераважна паўн.-усх. д. (Гарэцкі, Мат. апыт.), *каця́чы* прым. – зах.-пал. г., а таксама Валож. (Мат. апыт.), *каця́ччы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *ко́ці* прым. – Валож. (Мат. апыт.), *кашэ́чы* прым. – Стаўб., Карэл., Шчуч., Уздз. (СПЗБ, Мат. апыт.), *кашэ́ччы* прым. – Мсцісл., Слаўг., Краснап. (Мат. апыт.), *каша́чы* прым. – Пруж. (Мат. апыт.), *каша́ччый* прым. – Слаўг. (Мат. апыт.), *кашы́ны* прым. – Мёр. (Мат. апыт).

**Качыны**

*качы́ны* прым. — паўн.-зах. з., сярэд.-бел. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *каччы́ны* прым. – Мядз., Стаўб., Пух., Чэрв., Бярэз. (Мат. апыт.), *качы́нны* прым. – Іван., Малар. (СПЗБ), *ка́ччы* прым. — паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ка́чы* прым. – Карэл. (Мат. апыт.), *кача́чы* прым. — паўн.-зах. з. (СПЗБ, Мат. апыт.), *вуцíны* прым. – паўн.-усх. д. (Бялькевіч, Мат. апыт.), *вуця́чы* прым. – Беш., Слон., Малар. (Мат. апыт., ЛАБНГ), *вуця́ччый* прым. – Гарад., Слаўг. (Мат. апыт.), *вучы́ны* прым. – Кругл. (ЛАБНГ).

### Конскі

*ко́нскі* прым., *ко́ньскі* прым. – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *каня́чы* прым. – Воран., Жытк. (Мат. апыт.), *канёвы* прым. – Іван. (Мат. апыт.).

### Кратовы

*крато́вы* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *краці́ны* прым. – усх.-маг. р. (Мат. апыт.).

### Курыны

*куры́ны* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *кура́чы* прым. – гродз.-бар. г. (Цыхун., Мат. апыт.), *ку́рачы* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.).

### Ластаўчын

*ла́стаўчыны* прым. — агульн., усх.-маг. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *ла́ставіччы* прым. – Слаўг., Мсцісл. (Мат. апыт.), *ла́стаўкіны* прым. – Слаўг., Краснап. (Мат. апыт.).

### Лісіны

*лісі́ны* прым. – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *лі́сі* прым. – Карэл., Бярэз. (Мат. апыт.), *лі́ссі* прым. – Смарг., Краснап., Брэсц. (СПЗБ, Мат. апыт.), *лісі́ччы* прым. – Мёр., Мсцісл. (Мат. апыт.), *лісі́чы* прым. — Іван. (Мат. апыт.), *ліся́чы* прым. – Воран., Бяроз., а таксама Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. апыт.).

### Мышыны

*мышы́ны* прым. – асн. мас. г. (Мат. апыт.), *мы́шшы* прым. – Мёр., Брэсц., Драг. (Мат. апыт.), *мыша́чы* прым. – Воран., Слаўг. (Юрчанка, Мат. апыт.), *мы́шачы* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.), *мыша́ччы* прым. – Слаўг., Мсцісл. (Мат. апыт.).

### Мядзведжы

*мядзве́джы* прым. – паўдн. р. (Мат. апыт.), *мядзве́жжы* прым. – усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *медзвядзёвы* прым., *медзвядзёў* прым. — паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (Мат. апыт.), *медзвядзі́ны* прым. – Паст., Леп. (Мат. апыт.), *медзвяжа́чы* прым. – Брэсц. (Мат. апыт.).

### Птушыны

*птушы́ны* прым. – асн. мас. г. (СПЗБ, Бялькевіч, Мат. апыт.), *птушы́нны* прым. – Іван. (Мат. апыт.), *пту́шшы* прым. – Драг. (Мат. апыт.), *пташы́ны* прым. – Гродз., Кам., Пін. (СПЗБ, ЖНС, Мат. апыт.), *пта́сі* прым. – Смарг. (СПЗБ).

### Пчаліны

*пчалі́ны* прым. – агульн. (Бялькевіч, Мат. апыт.), *пчаля́ны* прым. – паўн.-зах. з., а таксама Вілен.р. (СПЗБ), *пчо́льны* прым. – Бяроз. (СПЗБ).

### Рыбін

*ры́бі* прым. – пал. р. (Мат. апыт.), *ры́біны* прым., *ры́бін* прым. – Брасл., Навагр., Стаўб., Старадарож., Слаўг., Драг., Пін., а таксама Вілен. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *ры́бны* прым. – Краснап. (Мат. апыт.), *ры́б'і* прым. – Пол., Мсцісл. (З нар. сл.), *ры́бячы* прым. – Ганц., Брэсц., Жытк. (Мат. апыт.), *ры́беччы* прым. – Лоеў. (Янкова), *рыбны́* прым. – Стаўб., Брэсц. (Мат. апыт.).

### Сабачы

*саба́чы* прым. – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *саба́ччы* прым. – Мёр., Леп., Ашм., Паст., Мсцісл., Краснап., Драг. (СПЗБ, Бялькевіч, Насовіч, Мат. апыт.), *пе́ссі* прым. – Чач. (НЛГ), *псі́ны* прым. – Касц. (Бялькевіч, Насовіч), *пся́чы* прым. – зах.-бран. р. (Растаргуеў).

### Сарочы

*саро́чы* прым. – Віл., Валож., Ганц., Брэсц., Жытк. (Мат. апыт.), *саро́ччы* прым. – Мёр., Леп., Слаўг., Драг. (Мат. апыт.), *сарачы́ны* прым. – Мсцісл., Бярэз., Краснап., Іван., Пін. (Мат. апыт.), *саро́кін* прым. – Краснап., Слаўг., Навагр., Стаўб., Ганц. (Мат. апыт.).

### Свіны, свінячы

*свіны́* прым. – Гродз., паўн.-зах. з. (СПЗБ, Мат. апыт.), *свінны́* прым. – пераважна паўдн.-зах. д. (Мат. апыт.), *свіня́чы* прым. – паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (Мат. апыт.), *свіння́чы* прым. – Драг., Пін. (Мат. апыт.), *сві́нскі* прым. –

Бярэз., Старадарож. (Мат. апыт.), *свініны* прым. – Паст., Пух., Смарг. (СПЗБ, Мат. апыт.).

### Тхарыны

*тхары́ны* прым. – асн. мас. г., за выключэннем паўн.-зах. з. (Мат. апыт.), *тхары́нны* прым. – Краснап. (Мат. апыт.), *тхара́чы* прым. – Драг., Брэсц. (Мат. апыт.), *тхаро́вы* прым. – Пін., Брэсц. (Мат. апыт.), *шашко́вы* прым., *шашко́ў* прым. – паўн.-зах. з. (Мат. Гродз., Мат. апыт.).

## 2.14. СЛОВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ ПРЫКМЕТЫ, УЛАСЦІВАЙ ЖЫВЫМ ІСТОТАМ ПАВОДЛЕ ІХ СТАНУ

### Аплодненае

Пра яйцо, з якога можа вывесціся птушаня.

*найгра́нае* прым. – цэнтр. з., а таксама ўсх.-пал. р. (ЛАБНГ), *зайгра́нае* прым., *загра́нэ* прым. – паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *гра́нае* (*ігра́нае*) прым. – Рас. (ЛАБНГ), *пайгра́нае* прым. – Стол. (ЛАБНГ), *захо́длае* прым., *захо́дліваe* прым. – паўн.-зах. з., а таксама Латгал. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пе́ўнае* прым. – Беш., Леп., Сен., Лёзн., Тал., Кругл. (ЛАБНГ), *закало́чанае* прым. – Драг. (ЛАБНГ), *кало́чанае* прым. – Петр. (ЛАБНГ), *нагуля́нае* прым. – Слаўг., Старадарож. (ЛАБНГ), *пакры́тае* прым. – Бярэз. (ЛАБНГ), *зача́тае* прым. – Бераст. (ЛАБНГ), *зайня́тае* прым. – Драг. (ЛП), *прыня́тае* прым. – Воран. (ЛАБНГ), *спасо́бнае* прым. – Клім. (ЛАБНГ), *до́брае* прым. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *харо́шае* прым. – Гом. (ЛАБНГ), *жыраво́е* прым. – Добр. (ЛАБНГ), *зача́тае* прым. – Бераст. (ЛАБНГ), *з наро́дкам (заро́дкам, заро́дышам)* – паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ).

### Жарэбная

Цяжарная (пра кабылу).

*жаро́бная (жаро́мная)* прым., *жарэ́бная* прым. – агульн. (АЛА, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз.), *жаро́бая* прым. – Лёзн., Круп., Ветк. (АЛА).

**Каценная**

Цяжарная (пра кошку).

*котная* прым. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ), *кацéнная* прым. – Мсцісл. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *парóсная* прым., *апарóсная* прым. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Нар. сл-сць, Мат. Маг.), *карабáтая* прым. – Светлагор. (Мат. Гом.), *пузáтая* прым. – Леп., Буда-Каш. (Мат. апыт.).

**Козная**

Цяжарная (пра казу).

*кóзная* прым. – Мсцісл., Лоеў. (ЖНС, Мат. Гом., Юрчанка, Янкова).

**Котная**

Цяжарная (пра авечку).

*кóтная* прым. – агульн. (АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз.), *таўстáя* прым. – Віл. (АЛА).

**Паросная**

Цяжарная (пра свінню).

*парóсная* прым., *апарóсная* прым. – агульн. (СПЗБ, НС, Нар. сл-сць, Мат. апыт).

**Трусная**

Цяжарная (пра труску).

*трýсная* прым. – Мядз. (НС), *кóтная* прым. – Буда-Каш. (Мат. апыт.).

**Цельная**

Цяжарная (пра карову).

*цéльная* прым. – агульн. (Мат. апыт), *цёлная* прым. – Брасл., Мёр., Ушацк., Лід., Валож., Лях., Лаг., Навагр. (СПЗБ, ЖНС, ЖС, НС).

## 2.15. СЛОВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ ПРЫКМЕТЫ ЖЫВОЙ ІСТОТЫ ПАВОДЛЕ КОЛЕРУ ШЭРСЦІ, ПЕР'Я, СКУРЫ

### Белы

Які мае колер снегу; процілеглы чорнаму.

*бе́лы* прым. – агульн. (Мат. апыт.).

**Брудна-белы**: *шэ́ры* прым. — агульн. (Мат. апыт.), *ша́ры* прым. — паўн.-зах. з. (Мат. апыт.), *се́ры* прым. – усх.-маг. р. (Мат. апыт.), *сі́вы* прым. – усх.-пал. р., а таксама Пух., Нясв., Брэсц., Драг., Жлоб., Стол. (ЛАБНГ, ЖС), *мыша́сты* прым. – Пол., Ушацк., Чав., Мсцісл., Карэл., а таксама ўсх.-пал. р. (ЛАБНГ, ТС, ЖС), *мыша́ты* прым. – Дзятл., Іўеў., Кір., Ганц., а таксама Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сіваплёсы* прым. 'у сівыя плямы' – Мсцісл. (ЛАБНГ), *пляснíвы* прым. 'светла-шэры' – Жытк. (ТС), *сíзы* (*шы́зы*) прым. 'з шэрымі пёрамі' – агульн. (Мат. апыт.).

### Жоўты

Які мае колер яечнага жаўтка, золата.

*жо́ўты* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *була́ны* прым. 'пра каня' – асн. мас. г. (Мат. апыт.), *палавы́* прым. 'светла-жоўты' – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, СПЗБ).

### Карычневы

Буравата-жоўты, колеру жолуда або карыцы.

*кары́чневы* прым. — агульн. (Мат. апыт.); **пра каня**: *гне́ды* прым. – Смарг., Гродз., Астр., Калінк., а таксама ўсх.-пал. р., Вілен. р. (СПЗБ, ЖС, Янкоўскі), *гняды́* прым. – Брасл., Мёр., Пол., Ушацк., Карэл., Пух., Мсцісл., Драг. (ЛАБНГ, Мат. апыт.); **цёмна-карычневы**: *ка́ры* – Мсцісл. (Мат. апыт.), *чма́ры* прым. – Навагр. (Сл. Гродз.); *му́ры* прым. 'светла-карычневы' – паўдн. р. (З нар. сл., Мат. апыт.), *бу́ры* прым. 'пра звера' – Краснап., Мсцісл. (Мат. апыт.); **бура-чорны**: *паджа́ры* прым. – агульн. (Мат. апыт.), *жа́ры* прым. – Добр. (ЛАБНГ), *падла́сы* прым. – Пол. (ЛАБНГ).

### Паласаты

Пакрыты палосамі, рознымі па колеру буйнымі плямамі.

*паласáты* прым. — Верхнядзв., Пол., Гарад., Рэч., Буда-Каш., Ветк., Добр. (ЛАБНГ), *паласáсты* прым. — Мсцісл. (Мат. апыт.), *палася́сты* прым. — Верхнядзв., Брасл., Мядз., Паст. (ЛАБНГ), *перапалóсы* прым. — Мсцісл., Бых., Раг. (ЛАБНГ, Юрчанка), *перапалóсісты* прым. — Лід. (СПЗБ), *пасáты* прым. — Жытк. (ТС), *пасавáты* прым. — Стол., Лельч. (ЛАБНГ), *пасáсты* прым. — Ельск. (ЛАБНГ), *паскавáты* прым. — Жытк. (ТС), *пісягавы* прым. — Калінк. (З нар. сл.), *пісягáсты* прым. — Бяроз. (СПЗБ), *перала́сы* прым. — Жлоб. (ЛАБНГ), *перапая́сы* прым. — Гл., Маз. (ЛАБНГ, Янкоўскі).

## Рабы

У чорныя і белыя плямы.

*рабы́* прым. — паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., а таксама паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *рáбы* прым. — паўн.-усх. д. (ЛАБНГ), *зязю́лісты* прым. ’з чорна-белым апярэннем (пра птушак)’ — Гарад., Ашм., Мсцісл. (ЛАБНГ, Станкевіч), *галáпы* прым. ’белы з чорнымі плямамі’ — Навагр. (З нар. сл.).

## Стракаты

У рознакаляровыя плямы.

*стракáты* прым. — Глыб., Астр., Пол., Беш., Барыс., Чашн., Гор., Бярэз., Слаўг., Касц., Драг. (ЛАБНГ, ЛП), *пярэ́сты* прым. — зах.-пал. г., гродз.-бар. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл., Янкоўскі), *пёстры* прым. — Круп., Чэрв., Бял., Шкл., Маг., Чав., Мсцісл., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *перапялёсы* прым. — Мсцісл., Клім., Касц. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *перапяля́сы* прым. — Лоеў., Калінк., Добр. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Насовіч), *пляснíвы* прым. — Рэч., Жытк. (ТС, НС), *кéршы* прым., *кершавáты* прым. — Воран., Смарг., а таксама Вілен. р. (СПЗБ).

## Чорны

Які мае колер сажы, вугалю; самы цёмны з усіх колераў.

*чóрны* прым. — агульн. (Мат. апыт), *вараны́* прым., *варанíсты* прым. — Гом. (НЛГ).

**Чырвоны**

Суадносны з колерам крыві па сваіх адценнях.

*рыжы* прым. — агульн. (Мат. апыт.); **сівавата-рыжы**: *дзерашаваты* прым. — Стол., Жытк. (ТС), *дарашаваты* прым. — Дзятл., Навагр., Валож. (СПЗБ), *герашаваты* прым. — Ганц., Драг. (СПЗБ, ЛП); *руды* прым. 'цёмна - чырвоны' — агульн. (Мат. апыт.).

## 2.16. СЛОВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ ЯКАСНАЙ ПРЫКМЕТЫ ЖЫВЫХ ІСТОТ

**Бадлівы**

Які мае звычку бадацца.

*бадлівы* прым. — пераважна віц. - маг. г. (ЛАБНГ), *бадучы* прым. — паўн.-усх. д. (ЛАБНГ), *бадушчы* прым. — паўн.-усх. д. (ЛАБНГ), *калючы* прым. — паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *калюшчы* прым. — паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *калюшчавы* прым. — Кам. (ЛАБНГ), *калосты* прым. — Чач. (ЛАБНГ), *колкі* прым. — Жлоб., Рэч., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *барлівы* прым. — Ваўк., Слуц. (ЛАБНГ), *баручы* прым. — Саліг. (ЛАБНГ), *барушчы* прым. — Зэльв., Пух., Слуц., Бяроз., Гродз., Бераст., Ваўк., Пруж., Слон., Кап., Брэсц., Кобр., Саліг. (ЛАБНГ), *б'юшчы* прым. — Валож., Іван., Лун. (ЛАБНГ), *бойкі* прым. — Люб., Лун., Маз., Ельск. (ЛАБНГ), *біты* прым. — Лельч. (ЛАБНГ), *парушчы* прым. — Маладз., Мін., Дзярж. (ЛАБНГ), *бушлівы* прым. — Стаўб. (ЛАБНГ), *буйны* прым. — Пін. (ЛАБНГ), *гіткі* прым. — Драг. (ЛАБНГ), *збройны* — Ашм., Навагр. (ЛАБНГ).

**Бязрогі**

Які не мае рог.

*бязрогі* прым. — паўдн.-зах. д., а таксама спарадычна віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *лабаты* прым. — паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, СЦБ, Янкоўскі), *лабасты* прым. — Капыл. (ЛАБНГ), *галамоўзы* прым. — Бераст., Зэльв., Слуц., Чэрв., Асіп., Пруж., Бяроз., Саліг., Стол., Жытк., Жлоб., Лельч. (ЛАБНГ, ТС), *галузы* прым. — Лях., Слон., Бар., Саліг. (ЛАБНГ), *куксаты* прым. — Воран., Навагр., Стаўб., Кам., Кобр., Лун., Стол. (ЛАБНГ, ТС), *кумсаты* прым. — Калінк. (ЖС), *куца-*

*ты* прым. – Стол. (ЛАБНГ), *ку́цы* прым. – Петр. (З нар. сл.), *шу́ты* прым. – паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл., Мат. Гом.), *мыла́ты* прым. – Пух., Чэрв. (ЛАБНГ, НЛ), *буксава́ты* прым. – Іўеў. (ЛАБНГ), *затаўмава́ты* прым. – Драг. (Н. сл-сць).

**Назвы бязрогай каровы**: *лаба́тка* ж. – Верхнядзв., Гарад., Леп., Чашн., Тал., Слаўг., Маг. (ЛАБНГ), *лабу́тка* ж. – Мядз. (ЛАБНГ), *лабы́р* м. – Глыб. (ЛАБНГ), *лабы́рка* ж. – Ушацк. (ЛАБНГ), *лабо́ня* ж. – Шум. (ЛАБНГ), *лабі́ца* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *лабу́к* м. – Віл., Шчуч. (ЛАБНГ), *лаба́н* м. – Гор. (ЛАБНГ), *лэ́бка* ж. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *лаба́ч* м. – Ваўк. (ЛАБНГ), *галамо́ўза* ж. – Бераст., Зэльв. (ЛАБНГ), *бу́кса* ж. – Іўеў., Слон. (ЛАБНГ), *кы́чма* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *камо́ла* ж. – Старадарож. (ЛАБНГ), *манчо́лка* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *таўка́ч* м. – Ельск. (ЛАБНГ).

## Дзікі

Які жыве на волі, у адрозненне ад свойскага.

*дзі́кі* прым. – агульн. (АЛА), *пальны́* прым. – Мёр. (ЖНС).

**Нерахманы**: *дзіклі́вы* прым. 'пра свойскую жывёлу і птушак' – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ), *дзікля́вы* прым. – Паст., Слаўг., Карм., Добр. (ЛАБНГ).

## Жывучы

Жыццяздольны, вынослівы.

*жыву́шчы* прым. – агульн. (ЛАБНГ), *жыву́чы* прым. – усх. з., а таксама спарадычна зах. з. (ЛАБНГ), *жыву́шшы* прым. – Гарад. (ЛАБНГ), *жыва́вы* прым. – спарадычна паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ), *жыва́лы* прым. – Карэл. (ЛАБНГ), *жыву́лы* прым. – Петр. (ЛАБНГ), *жыва́чы* прым. – Гл. (ЛАБНГ), *жва́лы* прым. – Рэч., Лоеў. (ЛАБНГ), *жы́лавы* прым. – Стол., Маз., Лельч. (ЛАБНГ), *жылавы́* прым. – Акц. (ЛАБНГ), *жыло́вы* прым. – Ельск. (ЛАБНГ), *трыву́шчы* прым. – Раг., Старадарож. (ЛАБНГ), *трыва́лы* прым. – Буда-Каш. (ЛАБНГ).

## Збродлівы

Які не трымаецца статка і месца выпасу, шкадлівы.

